ББК 83.3Бел7
У 77

Складанне і заўвагі *Л. У. Карпавай*

Рэцэнзент
кандыдат філалагічных навук *М. А. Тычына*

**Успаміны пра Уладзіміра Карпава** / 
У 77 Склад. і заўв. Л. У. Карпавай.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 207 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00856-8.
Воспоминания о Владимире Карпове.

Кніга ўспамінаў прысвечана вядомаму беларускаму пісьменніку, аўтару папулярных раманаў «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць» Уладзіміру Карпаву (1912—1977). Ен вядомы і як актыўны ўдзельнік гераічнага Мінскага падполля, якому не адзін раз даводзілася выконваць адказныя і рызыкоўныя даручэнні. Сябрамі і роднымі, пісьменнікамі і таварышамі па змаганні створаны рознабаковы вобраз гэтага чалавека.

У $\frac{4603020102-117}{М 302(03)-91}$ 88—91 ББК 83.3Бел7

Книга воспоминаний посвящена известному белорусскому писателю, автору популярных романов «Весенние ливни», «Немиги кровавые берега», «Сотая молодость» Владимиру Карпову (1912—1977). Он известен и как активный участник героического Минского подполья, которому не один раз доводилось выполнять ответственные и рискованные задания. Друзьями и родными, писателями и товарищами по борьбе воссоздан разносторонний образ этого человека.

ISBN 5-340-00856-8

*Марыя Карпава*

# НАШЫ РАДАСЦІ І НЯГОДЫ

Гады сумеснага жыцця з Уладзімірам Барысавічам уяўляюцца мне як адзін міг... Не, мы яшчэ зусім не жылі, мы павінны яшчэ быць разам, працаваць, раіцца, штосьці вырашаць, слухаць і слухацца адзін аднаго. І толькі тое, як многа падзей, гісторый і змен прайшло на нашых вачах, гаворыць мне: усё ж мы многа часу былі разам — разам сустракалі радасці, перажывалі цяжкія хвіліны, змагаліся з нягодамі жыцця.

Гэта так, бо на долю нашага пакалення выпала многае. І гэтае многае мы перамаглі няспыннай працай. А Уладзіміра Барысавіча мне цяжка нават уявіць адпачываючым. Праца для яго была прывычкай, радасцю, святам. Калі яму даводзілася некалькі дзён не працаваць, ён пачынаў нервавацца і быў нездаволены сабою, а часам і іншымі.

І што б ён ні рабіў, і дзе б ні працаваў, заўсёды ставіўся патрабавальна да сябе і іншых. Так было і ў гады працы, так было і ў час вучобы ў Магілёўскім педінстытуце на ўсебеларускіх курсах павышэння кваліфікацыі, дзе мы, дарэчы, і пазнаёміліся, так было і ў Мін-

скім інстытуце нацыянальных мяншынстваў па вуліцы Валадарскага, а затым у педінстытуце імя Горкага.

На курсах было нас пяцьсот чалавек. З намі маладосць, энтузіязм. Усё было нам пад сілу.

Неяк пасля заняткаў, калі я сядзела за столікам у студэнцкай сталоўцы, туды зайшоў Уладзімір Барысавіч. Быў ён не адзін, а з прыгожай, але стомленай (магчыма, з дарогі) настаўніцай-курсанткай. «Шанцуе ж людзям. Да чаго сімпатычная падабралася пара»,— падумалася мне.

І трэба было так здарыцца, што літаральна праз дзень, калі мы са сваёй сяброўкай па інтарнаце прыбеглі ў тую ж сталоўку і занялі столік, да нас са сваім сябрам падышоў Уладзімір Барысавіч. Яны прасілі дазволу сесці за адзін стол з намі. Мы казалі, што ўсе месцы занятыя, але гэта нам не дапамагло. Месцы былі адваёваны, а нам прапанавана пасля вячэры пайсці з імі ў кіно. У кіно мы не трапілі — спазніліся, а пайшлі на вядомы магілёўскі Вал, дзе ў першы ж вечар я пачула Валодзева прызнанне.

Да гэтага я не была гатова. Як так: зусім не ведаю чалавека, точыць думка, што, магчыма, ён жанаты, і я разгублена глядзела на яго.

— Так і толькі так... Да канца месяца мы здаём апошнія залікі, ідзём у загс, а пасля разам едзем у маю школу,— сказаў Валодзя.

Так усё потым і адбылося. Але ў гэтыя хвіліны... у гэтыя хвіліны я вагалася. А як жа мае вучні Грабянёўскай школы там, у Лельчыцкім раёне, як палітзаняткі з камуністамі

ўсяго сельсавета, за што я ў мае дзевятнаццаць год атрымала ад райкома першую падзяку, як літкружок, насценгазета? Усяго гэтага мне стала так шкада...

Ішоў час, міналі дні. Усё закружылася як у павадку. Рыхтавалі заданні кожны сам па сабе, а здаваць ішлі разам. Я заўсёды хвалявалася, пакуль не атрымаю пытанняў, а Валодзя стаяў у калідоры, пад дзвярамі, і чакаў хвіліны, калі я ўсміхнуўся, значыць — усё зразумела і залік забяспечаны.

У канцы месяца адбыўся вечар самадзейнасці. Я чытала ўрыўкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа, байкі Кандрата Крапівы і нават свае ўласныя вершы, спявала. Валодзя з таго часу стаў называць мяне «песенькай».

Калі аднойчы мы сядзелі з ім у фае кінатэатра «Зорка» і вялі размову пра літаратуру, кнігі і, у прыватнасці, пра раман Горкага «Жыццё Кліма Самгіна», які я тут жа праглядала, каб скарыстаць вольныя хвіліны, Валодзя зірнуў на вітрыну буфета і запытаў мяне, ці люблю я шакалад. Ён хацеў, мабыць, прымусіць мяне гаварыць пра будучае наша жыццё, але я маўчала. Калі ён паўтарыў сваё пытанне, я адарвала вочы ад кніжкі і прызналася, што ніколі і не спрабавала таго шакаладу. Валодзя быў вельмі здзіўлены і сказаў:

— Я сам з дзяцінства не еў яго, але як толькі прыедзем у Крукі (вёска, дзе ён працаваў), атрымаю першую зарплату, куплю табе ў таргсіне шакаладку.

Я захвалявалася. Хвалявалася не ад таго, што ён сказаў, а таму што ён не адчуваў майго пратэсту і тых думак, якія рабіліся ў маёй галаве.

Але я ўжо прывыкла да яго, ён мне ўсё больш падабаўся: яго прыгажосць, разважлівасць, такія тактоўныя адносіны да мяне і іншых. А галоўнае — усебакова развіты, начытаны, разумны, ён прыцягваў да сябе. Хацелася яго пра што-небудзь спытаць, параіцца, паслухаць, паспрачацца, але думка, што раптам у яго ёсць сям'я, у гэты момант будзіла неспакой, і я адказала:

— А што, уласна кажучы, прымушае мяне спяшацца ехаць у тыя Крукі, тым больш што ты жанаты, а я кахаю другога...

— Ну, вось і любві прыйшоў каюк, дарагі Уладзімір Уладзіміравіч,— працытаваў Валодзя Маякоўскага.

Мне зрабілася вельмі шкада яго, але я маўчала. Мы тут жа зайшлі ў кіназалу, прагледзелі без усякіх эмоцый карціну, а пасля адправіліся да майго часовага жылля. Па дарозе Валодзя паказваў свой пашпарт, прасіў дазволу напісаць сваёй маці, каб выслала пацвярджанне, што ён халасты.

Але, як бы там ні было, па заканчэнні заняткаў, адаслаўшы бацькам тэлеграму — «выйшла замуж», — я разам з Валодзем села ў вагон...

Калі поезд спыніўся і мы выйшлі з вагона, нас тут жа з начной цемры аклікнуў школьны вартаўнік, які ўжо чакаў нас. Павіншаваўшы нас, ён сказаў:

— Ніхто ў Круках не дае веры, што вы прывезяце жонку, усе лічаць вашу тэлеграму жартам. Гэта ж трэба: ніколі і на дзяўчат не глядзеў, апроч кніжак ды працы нічым і не цікавіўся, а тут... за адзін месяц пазнаёміўся, ажаніўся і прывёз.

Вёска Крукі была даволі вялікая. Яна мела плошчу і некалькі вуліц, якія разыходзіліся ад яе ва ўсе бакі. Тут жа на плошчы знаходзіўся сельскі савет, магазін і ўся ў зяляніне белых акацый новая школа. У цэнтры плошчы, перад школай, пабудавана трыбуна, з якой адзначаліся ўсе ўрачыстасці, святы.

Хаця да заняткаў заставаўся цэлы месяц, адпачываць доўга не прыйшлося. Уладзімір Барысавіч заняўся гаспадарчымі справамі — патрэбна было закончыць недаробкі па будаўніцтву школы, прывесці да ладу двор, сад, бібліятэку. Разам з вучнямі ўзяліся бяліць, чысціць, разбіваць клумбы, спартыўныя пляцоўкі і адначасова рыхтавацца да Кастрычніцкага свята. Працы было шмат і рознай, але яна спорылася. Галоўнае, дакладна спланаваць свой час. Помню, аднойчы адправіліся мы з ім за некалькі кіламетраў у лясніцтва, каб забяспечыць школу на зіму палівам, дык, што вы думаеце, ён і гэтыя гадзіны скарыстаў — учыніў мне экзамен па мове і літаратуры. Наогул і пасля ўсе гады працы ў школе Валодзя быў маім настаўнікам, метадыстам, дадарцам. Рэкамендаваў, якую чытаць літаратуру мне самой, вучням, як працаваць з адстаючымі. Апроч работы з вучнямі даводзілася несці вялікую грамадскую нагрузку. Бясконцыя сходкі, ліквідацыя непісьменнасці, антырэлігійная прапаганда, розныя гурткі. Школа ўдзельнічала у алімпіядах, спаборнічала з іншымі школамі. За сваю працу і вынікі карысталася павагай як з боку насельніцтва, так і вышэйшых устаноў. Часта атрымлівала першыя прэміі, а за працай хутка і весела ішоў час.

Душою ўсяго быў Уладзімір Барысавіч. Вучні раўняліся на лепшых і цягнулі адстаючых, стараліся трапіць у лік першых.

Вельмі паспяхова працаваў гурток лепкі, і як вынік — на адну з алімпіяд школа даставіла ў Камарын скульптуру натуральнай велічыні Уладзіміра Ільіча, за што атрымала першую прэмію (у пяцьсот рублёў). На прэміяльныя грошы заўсёды куплялі абсталяванне для фізкабінета, набывалі для бібліятэкі кніжкі, аказвалі дапамогу вучням з больш бедных сем'яў. На выпускны вечар падаваліся клубніцы са свайго прышкольнага ўчастка — гэтак стараўся гурток агароднікаў. Адным словам, кожны вучань ішоў у свой любімы гурток з задавальненнем, не кажучы пра літаратурны, які выпускаў часопіс з вершамі, апавяданнямі саміх вучняў. І ва ўсім удзельнічаў Уладзімір Барысавіч — даваў парады, дапамагаў.

У 1935 годзе, восенню, у час лекцыі мяне страшна праскразіла, неўзабаве пачало «страляць» у вуха, а пасля пачалося ўскладненне.

Адпакутаваўшы месяцы са тры, я згадзілася на трэпанацыю чэрапа, якую мне зрабілі ў Чарнігаве, самым блізкім горадзе ад Крукоў. Там, у чарнігаўскім раддоме, праз дзесяць дзён пасля цяжкай аперацыі, паявілася на свет наша недаўгавечная Святланка, якая памерла ў васьмімесячным узросце ад запалення лёгкіх. Валодзя пахаваў яе без мяне — я была ў доме адпачынку. Ён заўсёды самае цяжкае браў на сябе. А калі праз год пасля аперацыі і гора ў мяне забалела сэрца, ён, як малую, насіў мяне на руках і выхадзіў...

У 1937 годзе арыштавалі айчыма Уладзіміра Барысавіча, выкладчыка фізікі. Як пісаў

сам Уладзімір Барысавіч: «Айчым і пасынак невялікае сваяцтва (не кажучы пра тое, што сам ён не быў вінаваты), але мяне выключылі з камсамола. Здзіўлены, абураны, я не мог заставацца на Камарыншчыне і падаў заяву ў Наркамасветы, каб мяне перавялі куды толькі можна. Так я трапіў на Віцебшчыну...»

Пасля мы працавалі на Віцебшчыне ў Жарабычанскай і Даўганіўскай школах і ўсё так жа з поўнай аддачай, ды яшчэ, як я ўжо пра гэта пісала, вучыліся самі. Працавалі, вучыліся і гадавалі сына, які нарадзіўся ў 1938 годзе на Віцебшчыне.

У цяжкі сорак першы ўсё склалася так, што паехаць з Уладзімірам Барысавічам на дзяржаўныя экзамены ў Мінск я не змагла — не было на каго пакінуць сына,— а таксама тое, што Даўганіўскую школу, як неперспектыўную, павінны былі закрыць: планавалася будынак перавезці ў раённы цэнтр, а Уладзіміру Барысавічу пераехаць на працу ў Віцебскае аблано. Мы апынуліся на раздарожжы.

Была нядзеля. Я паехала ў Віцебск. Там я адправіла ў Мінск тэлеграфам Уладзіміру Барысавічу грошы, села ў трамвай, каб паехаць па справах у другі канец горада, але тут жа пачула жаночы плач — такі плач можа быць толькі пры вялікім горы...

Вайна... страшнае слова, абрыў усяму: працы, надзеям, радасцям... Адразу закружылася галава, стала горача і, здавалася,— сценкі вагона ціснуць з усіх бакоў. Немагчыма было стрымацца, каб не закрычаць уголас. Сабраўшыся з сіламі, я выйшла з трамвая і павярнула на станцыю, каб ехаць да сына, які чакаў мяне ў Доўгай Ніве.

У трывожным чаканні і надзеях ішлі гадзіны... дні... Некалькі разоў я хадзіла на чыгуначную станцыю Лоўша, каб пачуць радасную навіну, што вораг не пройдзе. Але ўжо на другі дзень убачыла — сем'і ваеннаслужачых накіроўваюцца на ўсход, а тым часам ідзе мабілізацыя і адпраўка на фронт таварышаў па рабоце і проста знаёмых.

А думкі абганялі адна другую: «Што будзе з Уладзімірам Барысавічам? Як дабярэцца дадому і калі? Што будзе з намі? З народам, з краінай?..»

Неўзабаве пачалі лётаць нямецкія самалёты і кідаць на чыгунку, якая была непадалёк ад школы, бомбы. Настаўнікам прыйшлося брацца за ламы і лапаты, каб выкапаць сабе хоць у двары, каля ганка, сховішча. Аднойчы, заўважыўшы нас, наляцеў нямецкі самалёт і застрачыў з кулямёта, але ўсё абышлося, калі не лічыць падстрэленага пеўня і прадзіраўленай бляшанкі, з якой ён піў ваду. Праз нейкі час немцы так асмялелі, што пачалі лётаць зусім нізка. Ад іх гудзення ў паветры трэскаліся сцены, звінелі шыбы.

Што рабіць? Пайсці на ўсход — можна размінуцца з Уладзімірам Барысавічам, а застацца на месцы — рызыкаваць дзіцем і сабой. Пасадзіўшы сына на канапу і абклаўшы падушкамі — барыкада ад куль,— я была напагатове. «Ён вернецца, ён не можа не вярнуцца»,— білася думка...

І вось ранічкай — знаёмы стук у дзверы.

Пазнаць яго было цяжка: схуднелы, аброслы, у парванай вопратцы. Па дарозе з Мінска цягнік трапляў пад бамбёжкі і прыходзілася ратаваць пасажыраў, сунімаць паніку. Пера-

апрануўшыся і на хаду паснедаўшы, мы з сынам адправіліся ў свет... На другой падводзе за намі ехала сям'я завуча Пятра Піліпавіча Дзямянчонка.

Навокал усё змоўкла, замерла, усталявалася незвычайная цішыня, якая насцярожвала, палохала, і Пётр Піліпавіч адмовіўся далей ехаць.

Праз невялікі прамежак часу, калі мы засталіся адны, раптам з'явіўся самалёт і пачаў страчыць. Схапіўшы з воза сына, мы кінуліся да разгалістага дуба — ён нас выратаваў. Мы кружылі вакол дрэва, і фашысцкі ваяка, даўшы чаргу, адляцеў, а мы з верай ва ўдачу рушылі далей.

К вечару каняка прытамілася, і мы ледзь дапялі да Слабады, дзе прыпыніліся, каб даць жывёліне крыху адпачыць.

— Начуйце ў нас, а заўтра пагледзімо, можа, і мы з вамі паедзем,— сказала Ганна Бранiславаўна — гаспадыня хаты. Ды гэтаму не ўдалося адбыцца,— аказалася, нас ужо абагналі нямецкія танкі.

Так, усё не верачы таму, што здарылася, засталіся мы на акупаванай тэрыторыі. Насталі цяжкія, трывожныя часы — няхай такое ніколі не паўторыцца больш. Вельмі шмат спатрэбілася б часу, каб расказаць усё падрабязна.

Тут, у гэтых мясцінах, вяло баі Лепельскае мінамётнае вучылішча. З першых дзён узяліся мы збіраць зброю, што траплялася амаль на кожным кроку. Хавалі ўсё знойдзенае часцей на тэрыторыі двара, дзе жылі,— у стрэхах будынкаў, садзе, агародзе, нават непасрэдна ў падполлі хаты. Помніцца, выкапаўшы глыбо-

кую яму, паклалі туды змазанае і загорнутае рознымі трантамі «багацце», засыпалі пяском, прынеслі з агарода зямлі і, прысыпаўшы жаўтапескам, утрамбавалі, а паверх разам са смеццем раскідалі крыху дробнай бульбы. Так што, калі спатрэбілася дастаць схаванае,— давялося таксама нямала папрацаваць.

Колькі прайшло часу, а мне ўсё ўспамінаецца, як мы ўдваіх пры месячным святле прынеслі на агарод нашага гаспадара, Мікіты Іванавіча, патроны, некалькі пісталетаў і гранат. Асцярожна выкопвалі з зямлёй качаны капусты, а ў выкапаную пад імі ямку клалі зброю, пасля таксама асцярожна зверху садзілі капусту. Праўда, нас, мабыць, хтосьці падпільнаваў, і частку зброі, калі спатрэбілася Уладзіміру Барысавічу, як ён прыйшоў з лесу, не ўдалося адшукаць. Гэта прынесла нам нямала хвалявання. Хто мог выведаць нашу тайну?.. На двары, пад калодкаю, на якой секлі дровы, таксама быў тайнічок.

Праз нейкі час у прылазнік Кавалёвых, нашых гаспадароў, нам сталі прыносіць газеты. Гэта была радасць, надзея і дапамога. У хату да нас заходзілі настаўнікі М. А. Аладзьева і М. П. Кулікаў, М. Шчукін — паштовы работнік, сакратар сельсавета (прозвішча забылася), І. Шчукін — пракурор, ветурач Шаркоў В. С. і іншыя. Тут мы абмяркоўвалі розныя навіны, падзеі на фронце і шукалі выйсця са становішча, у якое трапілі, думалі аб тым, што рабіць далей. Уладзімір Барысавіч сказаў, каб кожны збіраў зброю не толькі сам, але і агітаваў іншых. Аднойчы ён даручыў мне з Аладзьевай М. А. пайсці на льнозавод (у 3-х км ад Слабады) да былога сакратара парт-

арганізацыі Ганчарова (імя прызабылася), каб сказаць яму аб гэтым.

— А каму яна спатрэбіцца — тая зброя? — з сумам запытаў Ганчароў.

— Ёсць надзея, што хутка спатрэбіцца,— адказалі мы яму. Ён крыху павесялеў.

Вясною 1942 года нямецкія ўлады выганялі насельніцтва на рамонт шасейнай дарогі Віцебск — Полацк, якая не вытрымлівала вялікай нагрузкі і распаўзалася ва ўсе бакі. Аднойчы прыйшлося адправіцца і мне, мужчыны туды не паказваліся.

Неўзабаве непадалёк ад нас з'явіліся два хлапчукі. Было ім, можа, гадоў па 10—11. Яны махалі паперай і нешта нам крычалі. Я кінулася да іх. Хлапчукі ж, у сваю чаргу, шарахнуліся за мосцік ды наўцёкі... На тым месцы засталася ляжаць папера — газета «Раздавім фашысцкую гадзіну». Я ўпала на яе грудзьмі, потым туга згарнула і схавала пад вопратку. Калі вярнулася да жанчын і яны спыталі, што я там такое падняла,— адказала, што нічога — гэта я спатыкнулася ды ўпала. Мне не хацелася прызнацца, што не ўсім давяраю, і да таго ж нейкі страх апанаваў мяне, і яшчэ думалася: раптам хтосьці прысвоіць гэты лісток, і я не данясу яго да Уладзіміра Барысавіча. Я ж не магла дачакацца, калі вярнуся дадому.

Увечары як заўсёды прыйшлі таварышы. Чыталі, радаваліся. Пасля мы перадавалі гэтую газету, як самае дарагое, кожнаму, на каго спадзяваліся і давяралі. Ведаю, Уладзімір Барысавіч са сваімі таварышамі ноччу, калі добра сцямнее, хадзілі на станцыю Язвіна. Што там яны рабілі, ён мне не расказваў, але

ішоў кудысьці сам і накіроўваў іншых. Вельмі быў здзіўлены, калі хто адмаўляўся яму дапамагчы. Ранняй восенню наведаў нас невысокага расточку, з добрымі вачыма чалавек. На развітанне ён падараваў мне самаробны грабеньчык і сказаў:

— Калі хто-небудзь будзе пытаць пра мяне, то скажаце, што я прыносіў прадаваць грабяні.

Пасля ад Уладзіміра Барысавіча я даведалася, што гэта быў настаўнік, Фёдараў Уладзімір Іванавіч.

Бываў у нас і Лебедзеў (імя не помню) з хлопцамі са свайго атрада, пазней заходзілі Леанід Палітаеў, Зуеў Якаў Трафімавіч і іншыя партызаны.

Прайшло шмат часу і многае прызабылася, але свой паход ранняй вясной у Доўгую Ніву памятаю добра.

Былі слота і холад. Мае гумавыя боты хоць і халадзілі ногі, але засцерагалі іх ад вільгаці. Доўгае ж ватняе паліто было важкім, але ў ім можна было добра замаскіраваць пад мышкай лістоўкі, якія даручыў мне Уладзімір Барысавіч. Ішла я быццам бы за сваімі рэчамі, а думалася пра іншае — з якімі навінамі вярнуся дадому.

Ад Слабады да Доўгай Нівы даволі вялікі адрэзак — кіламетраў дваццаць пяць,— і дабралася я туды а другой палове дня. Адчула, што маім «гасцінцам» тут рады. Крыху адпачыўшы ў Кацярыны Дзянісаўны Паўтарэнка, я пайшла ў Спаскае да Арвіды Хрыстафораўны Аксёнавай. Аддала прынесенае і тут упершыню пачула пра савецкага лётчыка С. А. Ульянаўскага, якога выхадзілі і зберaглі жыхары вёскі. Ён толькі днямі з імі развітаўся.

Павесялеўшая, у добрым настроі я вярнулася ў Слабаду.

Уладзімір Барысавіч вырашыў: перш чым пайсці у партызаны — узарваць шумілінскую камендатуру. Для гэтага ў чэрвені 1942 года ён сустрэўся ў лесе з сакратаром падпольнага райкома партыі М. С. Кароткіным. Валодзя сказаў Міхаілу Сямёнавічу, што можа, калі райком партыі знойдзе неабходным, пайсці на службу ў Шуміліна і выканаць заданне. У той жа дзень яны дамовіліся аб тым, што дакладна павінен быў зрабіць Уладзімір Барысавіч у Шуміліне. Кароткін даў згоду, хаця абодва, вядома, добра ўяўлялі рызыку і складанасць будучага мерапрыемства. Але такія метады барацьбы ў 1942 годзе ўжо мелі месца ў практыцы работы партызан і падпольшчыкаў.

Дні «працы» Уладзіміра Барысавіча ў Шуміліне былі для нас вельмі напружанымі і цяжкімі: ад Слабады да Шуміліна (кіламетраў дзесяць) ён ехаў на веласіпедзе, па дарозе павінен быў сустракаць патрэбных яму людзей, а пасля ехаць далей. У Шуміліне зноў звязваўся з патрэбнымі яму людзьмі — пераважна настаўнікамі раёна — і вяртаўся назад у Слабаду. Я чакала яго, хвалявалася...

Аднойчы раніцай, перад тым як адправіцца ў Шуміліна, ён мне сказаў, што зараз накіроўваецца ва ўправу, а я павінна буду стаць за нейкай будынінай-хляўчуком і прыслухоўвацца да веласіпеднага званка, пачуўшы які мне патрэбна было ўзяць бялізну, пайсці да Сярэдняга возера, якое было за гародам нашай кватэры, і гэтым самым падаць умоўны знак сувязным, што знаходзіліся ў бацькоў

І. Шчукіна, якія жылі на супрацьлеглым баку возера. Так яны даведаюцца, што ўсё дамоўлена. Калі ж званок не зазвініць — забіраць сына і бегчы ў лес...

А ўвечары, вярнуўшыся дадому, Уладзімір Барысавіч расказаў мне, як яму ўдалося прымусіць бургамістра арганізаваць дастаўку збожжа партызанам. Па дарозе ж да Шуміліна ён перадаў народным мсціўцам, каб яны сустрэлі гэты скарб.

Я толькі зараз з вялікім жалем даведалася, што пазней, калі мы пакінулі Слабаду, заданне ўзарваць камендатуру было дадзена Бяляевай Лене, якая потым была расстраляна фашыстамі.

Некалькі разоў я па даручэнні Уладзіміра Барысавіча даведвалася аб тым, калі будуць адпраўляць з малочнага пункту прадукты і паведамляла яму.

Каб не наклікаць бяды на сваіх гаспадароў, мы перабраліся жыць у школьнае памяшканне. Да апошняга дня ніхто не павінен быў ведаць, што ўсё гэта робіцца па загадзя складзенаму плану,— я з сынам пайду за лінію фронту, а Уладзімір Барысавіч застанецца ў брыгадзе Кароткіна. Трэба было рабіць так, каб усё было падобна да праўды. Дамовіліся, што Уладзіміра Барысавіча з дома выведуць партызаны. Яны па дарозе павінны былі яго біць і лаяць, хаця гэтая інсцэніроўка ў іх выглядала не вельмі праўдзіва.

У хуткім часе Уладзімір Барысавіч са сваімі таварышамі перавезлі і мяне з сынам да партызан у недалёкі ад Слабады лес — Тошнік, а пасля і ў Зуі — брыгаду Каroткіна, аб чым мы так доўга марылі.

У гэты перыяд мы з Уладзімірам Барысавічам бачыліся рэдка. Ён увесь час быў заняты, а я з сынам, чакаючы адпраўкі на Вялікую зямлю, працавала пры шпіталі. Адпраўка была цвёрда вырашана. Я, як падказаў нам Сямён Міхайлавіч, павінна была ехаць у горад Мамадыш, дзе на той час знаходзілася яго сям'я. Я і дасюль хаваю маленькі кавалачак паперы — даведку за подпісам С. М. Кароткіна і В. М. Фралова, дзе гаворыцца:

«Дана настоящая гр. Марковой (маё дзявочае прозвішча) Марье Михайловне в том, что она действительно следует в ТатАССР гор. Мамалыш. С ней следует сын Владимир. Семья партизана.

Командир бригады *(Короткин)*
Комиссар бриг. *(Фролов)*»

Але здарылася непрадбачанае — праход праз так званыя Суражскія вароты немцамі быў выяўлены, і яны імкнуліся яго закрыць. Вяліся баі. Прыйшлося амаль тры тыдні чакаць лепшых дзён і новых дарог.

Гэты паход быў прызначаны на 4 верасня 1942 года. Развітаўшыся з партызанамі, ранянымі, начальствам, наша невялічкая, у некалькі чалавек, група накіравалася на ўсход. Ішлі мы больш ноччу, абыходзячы гарнізоны. На дзевятыя суткі прыпыніліся на тэрыторыі партызанскага атрада, у вёсцы Паташня, каб адпачыць.

— Тут больш-менш спакойна,— далажылі праваднікі.

Наша падвода, з устаноўленым на ёй кулямётам, да якога былі прывязаны мае рэчы, завярнула ў двор. Выпраглі коней. Мы, жанчыны, зайшлі ў хату і, запаліўшы ў печы, пры-

няліся гатаваць ежу. Не паспелі разабраць авечку, якую нам выдзелілі партызаны, як у хату ўскочыў вартавы і крыкнуў: «Немцы!»

На вуліцы пачуліся стрэлы, дзесьці недалёка займаўся пажар. Мы выскачылі на падворак. Як выявілася — нарваліся на засаду і аказаліся пад перакрыжаваным агнём. Немцы пачалі страляніну, а з лесу па іх сталі біць партызаны. Група рванулася на дарогу. Я схапіла на рукі дзіця і пабегла. У спешцы чамадан мой не паспелі прывязаць зноў, і ён непадалёк ад вёскі зваліўся. Праваднік загадаў мне пакінуць сына, вярнуцца і прынесці яго. У той час, як я дабегла да сваіх рэчаў, наляцелі нямецкія самалёты, завязаўся бой, неба стала чорным. З хат беглі вяскоўцы, я таксама павярнулася і кінулася да сваіх, але на тым месцы не аказалася ні сына, ні таварышаў — яны ўжо былі далёка. Страшна ўспомніць, што давялося мне тады перажыць.

«Уладзіміра Барысавіча пакінула ў атрадзе,— думала я,— сына згубіла, сама адстала ад групы... Не паслухалася, не засталася ў атрадзе, як мне прапаноўвалі, а цяпер вось адна... адна сярод незнаёмых мне людзей, пад абстрэлам. Што рабіць, куды падацца?»

Кінулася шукаць каго-небудзь са сваіх спадарожнікаў. Разам са мною беглі і жыхары вёскі. Яны павыскоквалі з хат хто ў чым змог: у начных сарочках, з накінутымі на плечы коўдрамі, схапіўшы што трапілася пад рукі — насценны гадзіннік, пеўня, вядро. Людзі кіраваліся на дарогу, а па ёй з самалёта страчыў кулямёт, і яны падалі. Я вырашыла бегчы напрасткі праз поле, каб скараціць адлегласць да галоўнай дарогі. Поле было засеена лёнам,

і ён блытаўся, затрымліваючы мой бег. Я стамілася. Зняла абутак, спадзеючыся, што будзе лягчэй бегчы, але пралічылася... Глеба тут аказалася камяністая, і мае ногі натыкаліся на каменне, як на нажы.

Выбіўшыся на дарогу і не сустрэўшы там ні сына, ні сваіх спадарожнікаў, я звалілася на абочыну.

Праз нейкі час мяне падабраў разведчык з брыгады Дзячкова, пасадзіў да сябе на каня і дапамог адшукаць сына і астатніх таварышаў.

За гэты дзень мы прайшлі 72 кіламетры. Паход быў цяжкі, але 12 верасня мы дабраліся да вёскі Бор, дзе размяшчаўся Віцебскі абком КП(б)Б, які кіраваў партызанскім рухам вобласці. Зноў жа, пераначаваўшы ў Бары, мне прапанавалі счакаць і паспрабаваць вярнуць мае рэчы, якія так і засталіся ляжаць каля вёскі Паташня. Але, баючыся зноў застацца без таварышаў, я адмовілася і з астатнімі рынулася наперад.

Нам далі грузавую машыну, на якой мы і дабраліся да Тарапца — першай станцыі, дзе можна было сесці ў вагон. Тут, у Тарапцы, было вялікае скапленне народу і, вядома, налятаталі нямецкія самалёты.

Дачакаліся ў лесе цягніка праз колькі дзён, нам дапамаглі пагрузіцца ў вагон. Праз месяц мы з прыгодамі дабраліся да Урала. Ехаць у Мамадыш, як мне раіў Кароткін, я не змагла. У Пярмі нас ужо сустрэла зіма, а мы з сынам без грошай, рэчаў, напаўраздзетыя... У Свярдлоўску я вымушана была прасіць Наркамасветы накіраваць мяне куды-небудзь на працу, дзе б можна было атрымаць прытулак

і хлеб... Мяне прызначылі ў Ніжне-Іргінскую школу выкладчыкам мовы і літаратуры. Першы час мне было вельмі цяжка. Але любімая справа — праца ў школе,— сын, дзеці гаілі мае раны і трывогі.

Праз тры месяцы я атрымала і першы ліст ад Уладзіміра Барысавіча — гэта была радасць, надзея. Ён пісаў: «Мяне ўзяў у сваё распараджэнне адзін абком КП(б)Б, і я з групай хлопцаў пайшоў яшчэ далей у глыбіню тыла выконваць спецзаданне. Доўга блукалі мы, прайшлі каля тысячы кіламетраў... Было ўсяго: і кулямётны дождж, і засады, разрывы гранат і мін, але заданне выканалі. ...16 лістапада мы перайшлі фронт, і цяпер я таксама на Вялікай зямлі. Цяжка апісаць радасць, якая ахапіла нас...»

Пісьмы ваеннага часу... Колькі хвалявання, радасцей і гора прыносілі яны. У мяне іх ад Валодзі трынаццаць...

Невялічкія памерам, часамі толькі ў некалькі радкоў, яны жывілі надзею на ўдачу і перамогу... Я часта іх перачытвала і нават пранумаравала.

«Хто прынёс гэты ліст праз лінію фронту? Як? Пешшу, самалётам, і ці пашанцуе яму вярнуцца ў свой атрад, брыгаду, каб там зноў змагацца з лютым ворагам?» — кожны раз думалася мне.

1943 год. Я доўга не атрымлівала ад Валодзі пісем.

Быў красавік. Раніца. Адвёўшы сына ў дзіцячы садзік, я пайшла ў школу. Тут ужо было некалькі педагогаў і паштальён, які раздаваў пісьмы. Я на гэты раз не ўтрымалася, каб не запытаць:

— А мне зноў няма? Ну, няхай... Ён сам прыедзе...

Сказала і неяк моцна паверыла ў тое, пра што сказала.

Калі на першым уроку гэтага дня я перайшла да партрэтнай характарыстыкі Пячорына: «Адкрыты лоб, чорныя ясныя вочы...» — сама была здзіўлена падабенствам героя з Уладзімірам Барысавічам, і мне падумалася, а што калі адчыняцца дзверы і на парозе з'явіцца такі далёкі госць і такі блізкі мне чалавек... Як усё будзе? Прыходзяць жа бацькі з фронту проста ў клас да сваіх дзяцей.

Празвінеў званок. Я зноў у настаўніцкай. Здзіўлена — чаму яго няма? У 9-ты клас я ішла павольна, думаючы пра «Вайну і мір» Л. Талстога.

Адзначыўшы ў журнале прысутных, я ўзняла галаву і ўбачыла праз акно класа рукаў шыняля і ражочак сынавага шаліка, які яму выдалі з Чырвонага Крыжа. Для мяне ўсё стала на сваё месца. З грудзей вырваліся толькі два словы: «Ну вось!» Ні тлумачыць новы матэрыял, ні весці апытванне я ўжо не магла. Я маўчала і думала, як быць. Было неяк няёмка паказваць перад дарослымі вучнямі сваю чалавечую слабасць.

— Што з вамі?! — амаль хорам запыталіся мае любімцы. Яны ведалі, што ў мяне хворае сэрца.

— Ды нічога. Партызаны прыляцелі,— упэўнена сказала я, хаця апрача вопраткі яшчэ нічога не бачыла.

— Ідзіце, ідзіце, мы будзем сядзець ціха,— па-свойму зразумелі мяне дзеці, а я не магла ўжо скрануцца з месца.

І калі я ўсё ж адчыніла на калідор дзверы, то адразу трапіла ў абдымкі выхавацелькі з дзіцячага сада і загадчыцы навучальнай часткі Афанасіі Іосіфаўны Захаравай, якія стаялі пад дзвярыма і, засцерагаючы маё сэрца, баяліся раптоўна абрадаваць.

Уладзіміра Барысавіча я дагнала на паўдарозе да Башні, дзе было маё прыстанішча. Уладзімір Барысавіч быў стомлены, але ажыўлены і рады гэтай сустрэчы. У яго была паранена губа. Цэлы месяц мы былі разам. Разам хадзілі ў лес нарыхтоўваць дровы, разам ішлі ў сталоўку па абед, разам сустрэлі Першамай. Уладзімір Барысавіч правёў тады многа сходаў, сустрэч і з майго дазволу нават даў некалькі ўрокаў па літаратуры.

Перад ад'ездам ён сказаў, каб я не хвалявалася, што гэтым разам не хутка атрымаю пісьмо, а звесткі аб ім будуць дасылаць са штаба партызанскага руху.

У сваіх лістах яго таварышы мне паведамлялі, што ён жывы, здаровы, быў паранены зноў, атрымаў узнагароду...

1944 год. Вызвалены Мінск. Настаў час сустрэч і працы на беларускай зямлі.

Колькі радасці, шчасця! Замаячыла добрае, ласкавае сонца сваёй старонкі, праца на роднай зямлі, сустрэчы з блізкімі і роднымі.

Я адпраўляю пісьмы ў сваю вёску, сельскі савет, раён. З адказаў даведваюся: за сувязь бацькі з партызанамі хата наша спалена паліцаямі, разам з ёй згарэла палова вёскі. У жывых не засталося ніводнага брата. Цудам ацалеў сам бацька.

Атрымліваю выклік з Наркамасветы, ліст ад Валодзі — як мага хутчэй вяртацца ў

Мінск. За мною ўжо замацавана месца выкладчыка мовы і літаратуры ў 28-й школе. У сваю чаргу маё начальства ў Свярдлоўску не пагаджаецца з ад'ездам настаўнікаў, у лік якіх трапіла і я.

Справа ў тым, што да таго часу была ўжо вызвалена вялікая тэрыторыя нашай краіны і шмат педагогаў пакінула працу і накіравалася дадому, на вызваленую тэрыторыю, а мабілізаваныя настаўнікі яшчэ не вярнуліся з фронту,— вайна працягвалася. Да таго ж я была прадстаўлена да ўзнагароды — ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, які ў хуткім часе павінна была атрымаць.

Прыйшоў паўторны выклік, і мяне больш нішто не змагло ўтрымаць.

— Як, вы не будзеце чакаць узнагароды? Вы ад'язджаеце? — здзіўляліся настаўнікі.

Да таго часу я мела ўжо свой агарод, бочку засоленых груздоў, і мы з сынам маглі ўдосталь есці бульбы і розных прыгатаваных з яе прысмакаў. Але, нарыхтаваўшы з паўтара пуда крухмалу, забраўшы некалькі падручнікаў і кніжак, якія я паспела набыць, узяўшы сына, я накіравалася ў далёкае падарожжа, у Мінск.

Вагоны былі перапоўнены. Пасажыры сядзелі і ляжалі не толькі на лаўках, а і на падлозе. Нам з сынам засталася бакавая, на трэцім паверсе лаўка. Узваліўшы на яе свае рэчы і пасадзіўшы сына, я ўмясцілася туды і сама. Было цесна, нязручна, галадна...

У Маскве, куды мы ўсё ж дабраліся, ніяк нельга было закампасціраваць на Мінск білет. Прамучыўшыся суткі, змораная бяссонніцай, я звярнулася ў пакой для мацеры і дзі-

цяці, і там мне дапамаглі сесці ў вагон. Так мы дабраліся да Мінска. Кінулася ў вочы, што замест вакзала на плошчы стаіць часовы барак з замаскіраванымі вокнамі. Сілуэт горада праглядваўся як вышчарблены край вялізнай пасудзіны. Да таго ж тут нас ніхто не сустрэў, і настрой вельмі сапсаваўся.

Аказалася, Уладзімір Барысавіч стаміўся, сустракаючы, і, даручыўшы аднаму са сваіх блізкіх таварышаў адшукаць мяне на Беларускім вакзале ў Маскве, гэтым разам вырашыў адаспацца.

У сваю чаргу, не знайшоўшы яго на пероне, я пайшла шукаць па адрасе, на Старажоўку, куды з прыгодамі (пешшу, з сынам) па звілістых сцежках руін і дабраліся.

Уладзімір Барысавіч узняўся з ложка і ішоў нам насустрач такі разгублены і здзіўлены, што нас не сустрэў яго сябра В. Конанаў, які ў гэты час шукаў «старую, невялічкую жанчынку з дзіцем» на Беларускім вакзале — як ён потым расказваў.

Крыху адпачыўшы, уладкаваўшы сына ў дзіцячы садзік, я стала працаваць у школе, непадалёк ад дому. Валодзя ж нейкі час працаваў завучам 42-й школы, якая знаходзілася тады на плошчы Свабоды (зараз будынак музычнай школы).

Пакой, які мы здымалі, быў маленькі, халодны, не было электрычнасці, але разам з тым як ажываў горад, пачалі ажываць і мы. З дазволу гаспадароў зляпілі сабе грубку, а ў хуткім часе з'явілася электрычнасць, была адрамантавана непадалёк ад нас водакалонка. Працуючы ў школе, Уладзімір Барысавіч пісаў рэцэнзіі на кінафільмы, спектаклі... Праз

нейкі час пайшоў працаваць у «Советскую Белоруссию». Пасля рэцэнзіі на лынькоўскага «Астапа» і п'есу К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» Уладзіміру Барысавічу прапанавалі перайсці працаваць у «ЛіМ», на што ён даў згоду. Потым ён трынаццаць гадоў працаваў у рэдакцыі «Полымя». Працы тады ў яго было шмат і рознай, як па часопісу — загадваў аддзелам прозы, драматургіі і крытыкі, так і сваёй — рыхтаваў да друку зборнік крытычных артыкулаў «Па шляху сталасці», прачытаўшы якую, Міхаіл Ціханавіч сказаў:

— Аказваецца, і кнігу крытыкі можна напісаць цікава, якой можна захапляцца. Гэтая кніга вельмі неабходна нашай літаратуры.

Якуб Колас, прачытаўшы напісаны пра яго артыкул, адзначыў:

— Пра мяне яшчэ ніхто так падрабязна і добра не пісаў...

Неўзабаве з'явілася аповесць «Без нейтральнай паласы». Гэтай сваёй працай Уладзімір Барысавіч быў незадаволены. Правіць часу не хапала. Пісаў і адразу ж аддаваў на машынку ў часопіс. Ён не адзін раз казаў:

— Для матэрыялу, які я маю па ваеннай тэме, патрэбны твор вялікага памеру. Патрэбна вялікае палотно, і нейкая адлегласць у часе дасць мне магчымасць выкласці і апрацаваць гэты матэрыял.

І толькі закончыўшы раманы «За годам год» і «Вясеннія ліўні», Уладзімір Барысавіч вярнуўся зноў да ваеннай тэмы, якая вылілася ў раман «Нямігі крывавыя берагі».

Была пара, калі некаторыя крытыкі кідалі папрок у адрас Уладзіміра Барысавіча:

— Добра табе ў вялікай рэчы, такой, як

раман, развіваць свае думкі і ідэі, а ты паспрабуй гэта зрабіць у апавяданні, навеле...

Кніга «Прызнанне ў нянавісці і любві» сведчыць пра тое, што форма апавядання далася Уладзіміру Барысавічу ніколькі не горш, чым раман.

Але хочацца адзначыць адно: што б ён ні пісаў, над якой бы тэмай ні працаваў — вельмі шмат разоў выпраўляў, перапісваў нанава кожнае выданне пры выхадзе ў свет кнігі. Так, напрыклад, раман «За годам год» на дзве трэці складае новы матэрыял.

Калі павінна была выходзіць якая-небудзь яго кніжка, ён зноў лічыў сваім абавязкам паправіць яе, дапоўніць, выкрасліць не толькі абзацы, а, калі трэба, то і цэлыя раздзелы. Пацверджанне гэтаму яго рукапісы, кнігі.

Аднойчы, калі Уладзімір Барысавіч быў цяжка хворы, я паказала аднаму з яго таварышаў папраўленую кнігу, і гэта выклікала такое здзіўленне, што я аж разгубілася.

— Навошта? — сказаў ён.— Гэта ж можна было напісаць цэлы новы раман...

Сапраўды, кожная з яго кніг мае некалькі варыянтаў. Толькі скончыўшы працу над імі, ён браўся за новую работу, ды і то час ад часу ўносіў праўкі, дапаўненні ў папярэднія свае творы.

Выдаўшы свае раманы ў выдавецтве «Советский писатель» — на жаль, апошняй кнігі ён і не пабачыў,— Уладзімір Барысавіч сказаў:

— Больш вярнуцца да гэтых твораў я не змагу, не хопіць часу, але лічу, што недарма пражыў жыццё, бо пакідаю людзям добрыя кнігі.

Апрача працы над творамі, многа часу ён аддаваў перыядычнаму друку, сустрэчам з чытачамі. Адмаўляўся ад гэтых сустрэч толькі тады, калі быў хворы.

Аднак ужо і цяжка хворы, ён усё роўна працаваў і любіў працаваць, як кажуць, не пакладаючы рук. Працаваў і ўсё трывожыў сябе думкаю, што не паспее напісаць сваю апошнюю кнігу.

«Минская быль» была запланавана Палітвыдатам, падпісаны дагавор, і Уладзімір Барысавіч, прыпыніўшы працу над сваёй новай аповесцю «Адкрытая зорка», якую пачаў незадоўга да гэтага, засеў за стол.

— Яна павінна быць лепшай за кніжкі серыі «Гарады-героі». Мінск варты такой кнігі. Толькі б хапіла часу. Толькі б лёс адпусціў мне годзік жыцця, а я пастараюся напісаць яе хутка і добра. Усё ужо прадумана, сабраны матэрыял, выкрышталізаваліся героі, падпісаны і адобраны выдавецтвам план-праспект.

Я прасіла яго адпачыць, паберагчы сваё сэрца і параненае вока, не спяшацца, але гэта мала што мяняла.

— Ты ж ведаеш маю натуру, дык навошта гаворыш. Праца — маё жыццё. Вось хутка паедзем адпачываць, і я абяцаю табе два тыдні нічога не рабіць, а зараз, пакуль у Мінску, павінен, і ўсё тут.

Праўда, апошнім часам ён не быў падобны да хворага. З добрым настроем браўся за любую справу: выступаў у перыядычным друку, сустракаўся з чытачамі і радаваўся ўсяму новаму і добраму, што датычыла Мінска або яго таварышаў па пяру ці барацьбе ў суровыя гады вайны.

Намучыўшыся сам за часы хваробы (перанёс тры інфаркты), вельмі блізка браў да сэрца боль сваіх таварышаў, часта са слязамі на вачах казаў мне пра гэта.

Першага жніўня раніцай ён, як і заўсёды, працаваў, зрабіў зарадку, потым мы прайшліся па парку Янкі Купалы. Тут ён зноў паўтарыў: «Каб толькі пажыць яшчэ з годзік... каб скончыць задуманае».

— Валодзя, у цябе што-небудзь баліць? Чаму ты не гаворыш мне праўды?

— Што ты? Не, я адчуваю сябе нядрэнна, але ж тры інфаркты — усё можа здарыцца і нечакана. Як я не хачу чацвёртага — лепш ужо якая-небудзь катастрофа. Толькі б не мукі і боль.

— Не трэба думаць пра самае страшнае,— супакоіла я.

У пяць гадзін, калі мы былі ўжо дома, я прачытала яму газеты і па яго просьбе ўзялася чытаць чарговы нумар «Нового мира». Ён хадзіў па пакоі, паціху напяваў, слухаў і раптам... раптам спыніўся каля пісьмовага стала і схапіўся за сэрца. Я прымусіла яго легчы на ложак, дала лекі і выклікала «хуткую дапамогу».

Боль аціх, а неўзабаве прыехалі і ўрач з медсястрой. Яны накалолі яго і збіраліся пайсці, сказаўшы, што добра было б паляжаць яму ў лечкамісіі.

— Яно то так, але ж пятага жніўня я еду ў санаторый і гэты варыянт адпадае, а зараз крыху заснуць бы, і ўсё пройдзе.

— Тады мы ўвядзём вам унутрывеннае, і вы паспіце. Толькі не чапайце яго,— звярнуўшыся да мяне, сказала доктарка.— Ён зараз

жа будзе спаць. Не трэба яго распранаць, няхай так, у піжаме, і ляжыць.

Яны паехалі, а сон не прыходзіў. Я затрывожылася і сказала:

— Можа, я замінаю табе?

— Не, наадварот. Я хачу прасіць цябе, каб ты ўзяла сюды машынку, і я пад яе стук засну хутчэй.

— Ведаеш што,— запярэчыла я,— ты не будзеш пры мне спаць, а будзеш толькі цікавіцца, якое месца друкую, ды прасіць, каб я прачытала табе апошні абзац. Лепш я буду працаваць у другім пакоі, а ты будзеш слухаць стук машынкі і хутчэй заснеш.

Так і парашылі.

Але не паспела я надрукаваць і старонкі, як страшная трывога падхапіла мяне з месца, каб глянуць, што адбываецца ў Валодзевым пакоі. А ён у гэты час падняўся з ложка, прайшоў міма мяне ў гасціную і лёг на канапу, адвярнуўшыся тварам да сцяны. Так ён ніколі не клаўся. Я падбегла да яго: «Баліць сэрца?..»

— Не, я проста не знаходжу сабе месца. Мне дрэнна. Мабыць, яны ўвялі мне не тое лякарства,— толькі і змог вымавіць ён.

— Ды кінь ты ўнушаць сабе,— сказала я і зноў пазваніла ў лечкамісію. Хутка прыехала ўрач, зрабілі кардыяграму, вызвалі інфарктную брыгаду... і Уладзіміра Барысавіча забралі з сабой...

Цяжка было ўявіць, што ён больш не вернецца сюды, дадому, дзе ўсё для яго так звыкла і міла. Бібліятэка, рэчы, усё... усё, што патрэбна было жывому чалавеку-працаўніку.

У адзінаццаць гадзін ночы яго прывезлі ў

лечкамісію. Я праводзіла да ліфта, а далей мне не дазволілі быць разам. Без сіл і надзеі на яго выздараўленне я вярнулася дадому. Чатыры інфаркты — гэта страшна.

Назаўтра, калі я прыйшла ў рэанімацыю, выгляд яго быў намнога лепшы. Усміхнуўшыся мне, ён сказаў:

— Вось бачыш: ніякага інфаркту ў мяне няма. Проста ўрачы страхуюць сябе і хочуць, каб я паляжаў, крышку адпачыў, а днямі мы паедзем з табой у Дубулты, і я зноў стану зусім здаровы.

— Няхай гэты інфаркт ідзе на сухі лес, але ты слухайся дактароў, не варушыся і выконвай усё, што яны ад цябе патрабуюць. Я здам пуцёўкі, а ты паляжыш колькі дзён, а калі акрыяеш — паедзем. Нікуды Дубулты ад нас не дзенуцца.

Шостага жніўня ў шэсць гадзін вечара яго не стала. Не стала чалавека, які любіў жыццё ва ўсёй яго шматграннасці і ўмеў стойка пераносіць яго нягоды.

Калі я пазваніла і даведалася, што з ім дрэнна — пабегла ў рэанімацыю, але ён не сказаў мне ўжо ніводнага слова — памёр.

Спакойна, сцішана ляжаў дарагі мне чалавек, толькі вочы глядзелі кудысьці далёка, а вусны стрымлівалі ўсмешку. Куды глядзеў, што бачыў ён у апошнюю хвіліну? Цяпер не скажа. Вельмі крыўдна, што мяне не было з ім у гэтую хвіліну... Было ж такое ў 1966 годзе, калі пасля пятнаццаці хвілін клінічнай смерці яго ўратавалі, ён пачаў дыхаць, а ўрач стомлена сказаў: «Першы раз у жыцці бачу, каб родныя не перашкаджалі, а дапамагалі ратаваць блізкага чалавека...»

## *Г. Х. Юдзянок*

# ЧАЛАВЕК-ІДЭАЛ

Вы просіце напісаць, што помніцца пра Уладзіміра Барысавіча! Хіба ж гэта магчыма? У мяне не хопіць ні слоў, ні таленту. Ён быў і застаецца для мяне — яго вучаніцы — ідэалам чалавечай душы, розуму і таленту. Вобраз гэтага Чалавека з вялікай літары я пранесла праз усе гады свайго жыцця. Іншага такога таленавітага арганізатара, здольнага педагога, выдатнага спартсмена, мастака і скульптара мне не пашанцавала сустрэць на сваёй жыццёвай дарозе.

Нарадзілася і вырасла я ў Круках. Да нас прыехаў малады і вельмі прыгожы новы дырэктар школы, і ўсё пайшло па-новаму. Класы былі добра афармлены пад кіраўніцтвам Уладзіміра Барысавіча і яго жонкі Марыі Міхайлаўны. На вокнах з'явіліся жывыя кветкі. У кожным класе на спецыяльнай падстаўцы стаялі бюсты членаў урада, зробленыя рукамі нашага дырэктара і вучняў. Ён цудоўна валодаў мастацтвам скульптара і знаходзіў час, каб ляпіць. Высока і па заслугах была ацэнена на выстаўцы ў Камарыне скульптура У. І. Ле-


© Пераклад. Л. У. Карпава. 1991

ніна на ўвесь рост. Карпаў быў і выдатным мастаком. Партрэты членаў урада, У. І. Ленін на трыбуне на ўсю сцяну ў зале — былі яго работай. Ён намаляваў і цэлую галерэю партрэтаў лепшых вучняў школы, у тым ліку і мяне.

Клас, зала, бібліятэка заўсёды адпавядалі нормам гігіены і ўнутранага парадку. Сам Уладзімір Барысавіч заўсёды быў акуратна апрануты, гэтага ж патрабаваў і ад усіх.

Тады ў Круках жылі бедна. Таму Уладзіміру Барысавічу і Марыі Міхайлаўне прыйшлося прыкласці не мала намаганняў, каб нашы вучні хадзілі ахайна апранутыя. Настаўнікі прыходзілі дамоў, размаўлялі з бацькамі. Была арганізавана санітарная камісія, якая садзейнічала павышэнню культуры ў дамах калгаснікаў. Дзеці, сем'і якіх жылі асабліва бедна, часта атрымлівалі вопратку і абутак, што купляліся на сціплую зарплату нашых настаўнікаў.

Арганізавалі лікбез і прымацавалі да лепшых вучняў дзесяцідворкі. Да жанчын, якія па дамашніх абставінах не маглі пайсці ў школу, вучні хадзілі дамоў і там вучылі іх пісаць і чытаць.

Школа не зачынялася ні на адзін дзень. У вольны ад заняткаў час мы з ахвотай прыходзілі зноў, бо ведалі — там будзе весела і цікава. Працавалі ўсе гурткі: літаратурны, матэматычны, шахматны, драматычны, танцавальны і лялечны, які карыстаўся асаблівай папулярнасцю. А чым мы толькі не займаліся ў час канікул! Гэта і паходы ў лес, і каруселі на лёдзе, і літаратурныя вечары, а ўжо на гэта Уладзімір Барысавіч быў вялікі мастак. На

ўсё жыццё запомніўся вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня смерці Пушкіна. Многа было песень, дэкламацый, пастаўлены «Цыганы». А як была аформлена сцэна дуэлі! Проста як у сапраўднасці: і коні, і людзі, і дрэвы, і снег — і ўсё зроблена вучнямі і Уладзімірам Барысавічам.

І дасюль я дзіўлюся, як ён на ўсё знаходзіў час. Рабіў усё з такім запалам, энтузіязмам, што заражаліся ўсе. Ва ўсім яму дапамагала жонка і сябар Марыя Міхайлаўна. Яна выдатна спявала. Ёю быў арганізаваны хор, у які ўваходзіла каля 100 чалавек вучняў і вясковай моладзі. Вяскоўцы і зараз успамінаюць добрым словам Уладзіміра Барысавіча і Марыю Міхайлаўну за тое, што яны ўнеслі так многа добрага ў іх цяжкае жыццё таго часу. Не было ніводнага свята, каб у школе не быў арганізаваны канцэрт. На алімпіядах, якія праходзілі ў Камарыне, наша школа, як правіла, займала першае месца.

Нас вельмі ўражвала веданне Уладзімірам Барысавічам літаратуры. Ён ведаў на памяць усяго Пушкіна, Лермантава, Маякоўскага і вельмі артыстычна дэкламаваў. Мы проста раты адкрывалі ад захаплення і здзіўлення.

Іменна Уладзіміру Барысавічу абавязана я любоўю да кнігі, якую, у сваю чаргу, перадала і сваім дзецям.

У кватэры Карпавых было вельмі многа кніг, якімі карысталіся і мы, вучні. За час іх работы ў школе была сабрана вялікая бібліятэка, кнігамі якой карысталіся і аднавяскоўцы.

Калі ж я пазнаёмілася з кнігамі самога Уладзіміра Барысавіча, то не здзівілася, бо

таленавіты пісьменнік жыў у ім заўсёды. Адзіным пачуццём была радасць — нарэшце людзі даведаюцца пра нашага любімага настаўніка, які застаўся ў маёй памяці і памяці маіх аднавяскоўцаў маладым, прыгожым, моцным.

*М. З. і Б. З. Пекуроўскія*

# ВЯЛІКІ ЧАРАЎНІК

У пачатку 1933 года ў нашу вёску Крукі, што на Палессі, прыехаў малады настаўнік — Уладзімір Барысавіч Карпаў. Высокі, стройны, прыгожы, ён адразу зрабіў на нас, вясковых падлеткаў, моцнае ўражанне.

Першыя ўрокі беларускай літаратуры запомніліся нам на ўсё жыццё. Настаўнік стаяў перад класам з высока паднятай галавою і чытаў на памяць верш Янкі Купалы аб Беларусі. Мы сядзелі і слухалі як зачараваныя. Думалася, няўжо можна так прыгожа гаварыць, чытаць...

Уладзімір Барысавіч зачараваў не толькі нас, вучняў, ён цікава выступаў і на сходах калгаса «Ільіч». А праз нейкі час арганізаваў калгасны хор, які пасля выязджаў на раённыя алімпіяды. Вучні нашай школы разам з калгаснікамі пелі складзеныя намі ж частушкі на палітычныя і антырэлігійныя тэмы.

Уладзімірам Барысавічам у нашай школе ўпершыню быў створаны літаратурны гурток, праводзіліся літаратурныя вечары, ён быў нязменным мастацкім кіраўніком і рэжысёрам

драматычнага гуртка. На санях-развалах вазіў нас Уладзімір Барысавіч за 35 кіламетраў у раён на прагляд самадзейнасці, дзе заўсёды наш хор і другія нашы работы (малюнкі, вышыўкі) займалі першыя месцы. Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Барысавіча вучні вылепілі скульптуру Уладзіміра Ільіча і прывезлі яе ў раён. Гэта была сенсацыя.

Не было ў школе музычных інструментаў, і Уладзімір Барысавіч арганізаваў шумавы аркестр — ігралі на бутэльках, грабеньчыках, піле, лыжках — і здавалася, што лепшай зладжанасці гукаў і быць не магло. Тады казалі, што з прыездам Уладзіміра Барысавіча ў нашу вёску перамясціўся раённы цэнтр.

Лепшых калгаснікаў і вучняў-выдатнікаў Уладзімір Барысавіч маляваў сам, каб змясціць іх партрэты на дошцы Гонару і ў школе, і ў праўленні калгаса. А ў выхадныя дні мы ездзілі ад хаты да хаты, каб сабраць як мага больш попелу для калгасных палёў.

Нашага маладога дырэктара хвалявалі і наш быт, і наша здароўе, і справы, і клопаты нашых бацькоў. Многае ў нашай школе тады рабілася ўпершыню. Упершыню былі арганізаваны гарачыя снеданні для вучняў. Цяпер і ўявіць цяжка, што значылі ў той час кубак гарачага чаю і скібачка хлеба для вучня, які дабіраўся да школы за некалькі кіламетраў (аб інтэрнаце тады і думаць было нельга).

Уладзімір Барысавіч вучыў нас, а мы, вучні, разам з ім вучылі непісьменных калгаснікаў, якія маглі тады замест свайго прозвішча паставіць толькі крыжык. А такіх было вельмі многа, і пры школе арганізавалі лікбез.

А якая спартыўная пляцоўка была зробле-

на пры школе пад кіраўніцтвам Уладзіміра Барысавіча. Будучы добра падрыхтаваным і фізічна развітым, ён і нам стараўся прывіць любоў да фізічнай культуры. За ўсё, што мы атрымалі ў дзяцінстве, абавязаны Уладзіміру Барысавічу.

Прайшло больш за пяцьдзесят гадоў, але пры сустрэчы з камарынцамі і крукоўцамі ўсе нашы ўспаміны звязаны са светлым імем нашага дарагога настаўніка і друга Уладзіміра Барысавіча Карпава.

*М. А. Аладзьева*

## НАТХНЁНАСЦЬ

З Уладзімірам Барысавічам Карпавым я сустрэлася ў 1937 годзе. Набліжаўся пачатак навучальнага года, а завуча ў нашай школе не было. Для мяне пачатак навучальнага года наступаў са жнівеньскай канферэнцыі. Тут і адбылася сустрэча з новым завучам, Уладзімірам Барысавічам Карпавым. Увесь яго знешні выгляд — прыгожы твар з разумнымі вясёлымі вачыма і тое, як ён знаёміўся з намі, настаўнікамі,— ласкава, з мяккім гумарам, нейкай асаблівай цеплынёй,— выяўляла ў ім інтэлігентнага чалавека ў поўным сэнсе гэтага слова. Адразу падумалася, што гэты завуч будзе сапраўдным настаўнікам настаўнікаў, як яно і павінна быць, а навучальны год будзе цікавы.

І Уладзімір Барысавіч больш чым апраўдаў нашы надзеі.

Наглядных дапаможнікаў амаль што не было, і літаральна на другі дзень свайго прыезду завуч ужо працаваў з настаўніцай 1-га класа М. Ф. Сямёнавай,— яны рыхтавалі літарную касу (нават гэтага тады не было). На

двары школы варылі клей, выразалі, клеілі. Спяшаліся, трэба было да пачатку заняткаў зрабіць яе і навучыць настаўніцу карыстацца ёю. Мне ўсё гэта запомнілася, мабыць, таму, што раней не прыходзілася сустракаць завуча, які б так многа надаваў увагі нейкаму штрыху ў працы аднаго настаўніка. Для кожнага ён знаходзіў час і парады: як жыць у калектыве, як вучыць дзяцей і працаваць з імі. Яго чалавечая цеплыня, ласка, любоў да вясёлага гумару выклікалі да яго прыхільнасць людзей, і заўсёдная добразычлівасць памагала настаўнікам звяртацца да яго за парадамі і дапамогай.

Было наладжана ўзаеманаведванне ўрокаў, даваліся адкрытыя ўрокі. Да Карпава гэта было невядомым, нечуваным. Такія ўрокі, з іх абмеркаваннем, сталі святам для настаўнікаў і вучняў. Любіў Уладзімір Барысавіч запрашаць да сябе на ўрокі, прычым у любы час і на любы ўрок. Там была строга ўстаноўлена класічная форма ўрока: апытванне, тлумачэнне новага матэрыялу, паўтарэнне і замацаванне гэтага матэрыялу, заданне на дом. На ўроках Уладзіміра Барысавіча ішла распрацоўка новага матэрыялу пры актыўным удзеле вучняў, тут жа замацоўваўся пройдзены матэрыял. Ні я, ні вучні гэтага размежавання ўрока не заўважалі. Адзнак за ўрок было пастаўлена многа, і ўсё добрых і выдатных.

Я да гэтага часу засталася ўдзячнай Уладзіміру Барысавічу за тое, што ён дапамог мне авалодаць гэтым майстэрствам. Вынік такога навучання быў выдатны, хаця метады яго нельга было знайсці ні ў адным метадычным дапаможніку. Лічу, што толькі дапытлівы

розум, паўсядзённыя шуканні прывялі яго да такога спосабу навучання. Ён нікому не навязваў свайго метаду, а толькі паказваў, як сам працуе.

Да таго ж Уладзімір Барысавіч аказаўся выдатным арганізатарам і знаўцам пазашкольнай работы. У школе пачалі працаваць розныя гурткі. Сам Уладзімір Барысавіч вёў літаратурны гурток. Памятаю, як гуртkоўцы выступалі з тэатралізаванай кампазіцыяй па творах Маякоўскага. Ён вельмі любіў гэтага паэта і як ніхто ўмеў чытаць вершы Маякоўскага.

Па ініцыятыве Уладзіміра Барысавіча была арганізавана і мастацкая самадзейнасць настаўнікаў школы. Паабедаўшы, мы звычайна рыхтаваліся да ўрокаў наступнага дня і зноў усе збіраліся ў школе. Праводзілі рэпетыцыі, слухалі радыё, а то і проста адпачывалі. На сельсавецкай сцэне паставілі дзве п'есы — Астроўскага «Свои люди — сочтемся» і Гогаля «Женитьба». Рэквізіт, дэкарацыі рыхтавалі сваімі сіламі.

Наша хата-чытальня была вельмі бедная. Выпісваліся толькі некалькі газет, не было бібліятэкі, уся культурная работа з насельніцтвам праводзілася школаю, настаўнікамі. Выступленні мастацкай самадзейнасці настаўнікаў былі вялікай сенсацыяй. Неяк райана праводзіла агляд мастацкай самадзейнасці настаўнікаў, і наш калектыў, вядома, прыняў самы актыўны ўдзел. Мы атрымалі тады першую прэмію — 700 рублёў, на якія было вырашана паехаць у віцебскі тэатр, што і зрабілі.

Памятаю, як аб'явіў наш завуч, што ў школе патрэбна зрабіць галерэю партрэтаў выдатнікаў вучобы. Як? Хто сфатаграфуе вучняў?

Свайго фатографа не было, а прывезці з раёна — на гэта ў школы грошай няма, і Уладзімір Барысавіч узяўся маляваць партрэты сам. Гэта было яшчэ адным адкрыццём яго здольнасцей. Маляваў простым алоўкам. Задуманая галерэя была зроблена і размешчана ў адным з класаў. Дзеці стараліся трапіць у лік лепшых, узрасла паспяховасць і якасць вучобы, палепшылася дысцыпліна. Уладзімір Барысавіч маляваў з захапленнем. У гэтым можна было пераканацца і ў час падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР (першых выбараў). Усе плакаты, лозунгі, транспаранты Уладзімір Барысавіч рыхтаваў у хаце-читальні пасля працоўнага дня. А мы яму дапамагалі — збілі шчыты, развешвалі іх у школе, дзе размяшчаўся выбарчы ўчастак. Рыхтаваліся да выбараў старанна — усё было нова і незвычайна. Дзень выбараў выліўся ў сапраўднае народнае свята.

Я ўжо казала, што ўся прапагандысцкая і выхаваўчая работа сярод насельніцтва праводзілася сіламі настаўнікаў, другой інтэлігенцыі ў вёсках не было. Уладзімір Барысавіч і гэта рабіў натхнёна. Ён умеў унікнуць у любую справу, якая, здавалася б, не мела да яго дачынення. На пасяджэннях праўлення калгаса яго выступленні былі такімі, як быццам бы калгасная справа яго кроўная, і ён яе ведае дэталёва. Так яно і было. Жывучы на кватэры калгасніка, Уладзімір Барысавіч жыва цікавіўся ўсім, чым жылі яго гаспадары, і быў у курсе ўсіх калгасных спраў.

На гэтай жа кватэры, дзе жылі Карпавы, у 1938 годзе нарадзіўся сын Валодзя, названы ў гонар любімага паэта Маякоўскага. Я вельмі

часта бывала ў іх, а пасля нараджэння дзіцяці мяне яшчэ больш цягнула да гэтай сям'і. Прыгожая і шчаслівая была гэта сям'я. Нейкай асаблівай ласкаю, увагай абкружаў Уладзімір Барысавіч сваіх блізкіх. Пачуццё ўлюбёнасці ў сваю выбранніцу ён пранёс праз усё жыццё. У апошнія некалькі гадоў, прыязджаючы ў Мінск, я бывала ў іх і бачыла, што адносіны паміж імі засталіся колішнімі, якімі былі ў маладосці.

У 1938 годзе Уладзімір Барысавіч быў пераведзены на пасаду дырэктара Даўганіўскай школы. І будзённа стала ў нашай школе пасля іх ад'езду. Доўгая Ніва знаходзілася ў супрацьлеглым канцы раёна, і сустракаліся мы рэдка.

Потым вайна. Наша мясцовасць была акупіравана за кароткі тэрмін. У такі цяжкі час зноў было наканавана сустрэцца з сям'ёю Карпавых. Яны не змаглі эвакуіравацца. Цягнікі ўжо не хадзілі. Карпавы мусілі ехаць на падводзе. За дзень яны перасеклі даволі значную частку раёна і спыніліся адпачыць у нашай вёсцы. Раніцай аказалася, што немцы ўжо прасунуліся наперад. Ехаць далей Карпавым не было ніякага сэнсу. Так яны і засталіся на акупіраванай тэрыторыі.

Адно тое, што з табою побач будуць Карпавы, сапраўдныя сябры, падтрымлівала, мацавала сілы, усяляла надзею, і верылася — усё будзе добра. Каб пракарміцца, хадзілі ў калгас на працу, за што нам выдавалі харчы, і можна было нейкі час жыць. Аднойчы, праз месяц, можа, мы знайшлі на полі многа лістовак, скінутых, як відаць, ноччу нашым самалётам. У лістоўках быў змешчаны зварот да насель-

ніцтва. Зварот быў вельмі цёплы, спагадлівы. Мы плакалі ад радасці, што нас не пакінулі, не забылі, як у гэтым стараліся ўпэўніць акупанты. Колькі пасля гэтага было размоў! Строіліся планы, меркавалі хутка сустрэцца з нашымі. Пасля ўжо сістэматычна знаходзілі лістоўкі з паведамленнямі з франтоў, гэта была адзіная крыніца нашай інфармацыі.

Надышла ранняя, халодная зіма 1941 года. Кожны вечар збіраліся мы ў Карпавых. Мы — загэта настаўнік нашай школы Кулік М. П. (загінуў на фронце) і я. Гутаркі вяліся на розныя тэмы, найперш пра падзеі на фронце. Немцы рваліся наперад, і з'явілася трывога, асабліва ў жанчын — «А што, калі...». Уладзімір Барысавіч усякі раз нейкімі довадамі, сваёй упэўненасцю ў перамогу нашай арміі рассейваў гэтую трывогу. Памятаю, як у такіх выпадках ён казаў: «Вось пагля́дзіце, дачакаемся лета, і запалае зямля пад нагамі акупантаў. Увесь народ падымецца на барацьбу». Ён раіў нам яшчэ раз прачытаць раман Л. М. Талстога, каб прасачыць, як аўтар апісаў патрыятызм рускіх людзей.

Вельмі многа ў гэтую зіму ў вёсках было маладых мужчын і хлопцаў. Гэта былі мясцовыя жыхары, акружэнцы, былыя гараджане. Пачалі арганізоўвацца вечарынкі, дзе збіралася моладзь з навакольных вёсак. Тут вяліся размовы, строіліся планы. Мы таксама наведвалі гэтыя зборы, і Уладзімір Барысавіч быў у асяроддзі маладых людзей, заўсёды аб нечым з імі размаўляў. Магчыма, хтосьці кіраваў гэтымі зборамі, Уладзімір Барысавіч са мною гэтым не дзяліўся, ён быў добрым канспіратарам, але ўпэўнена, што тут абавязкова

вяліся размовы аб будучай партызанскай барацьбе.

Вельмі часта Уладзімір Барысавіч вечарамі чытаў нам вершы Маякоўскага, томік якога ён захапіў з сабою ў дарогу. Ён не толькі чытаў, але і расказваў пра самога паэта, тлумачыў яго вершы. Гэта нечым нагадвала літаратурныя вечары.

Прыйшла вясна 1942 года, а з ёй і пачатак барацьбы з ворагам. На кватэры ў Карпавых я пачала сустракаць мужчын, якія раней у іх не бывалі: былы сакратар сельсавета, былы паштальён і іншыя зусім незнаёмыя мне людзі. Пры маім з'яўленні гаворка пераходзіла на другую тэму або яны зусім змаўкалі. Адчуўшы, што ад мяне штосьці хаваюць, я тут жа адпраўлялася дадому. Але аднойчы, калі я была ў іх, у хату зайшоў чалавек у скураной куртцы, абвешаны зброяй. Гэта быў знаёмы мне настаўнік з нашага раёна, Зуеў Якаў Трафімавіч. Убачыўшы мяне, ён разгубіўся, а Уладзімір Барысавіч яму сказаў: «Заходзь, гэта свая». За давер я была ўдзячна Уладзіміру Барысавічу.

У адзін дзень Карпавы пакінулі кватэру Кавалёвых і пасяліліся ў пустым школьным будынку. Марыя Міхайлаўна мне растлумачыла, што гэта на ўсякі выпадак: «Мала што можа здарыцца з намі з-за Уладзіміра Барысавіча. Дык не трэба, каб ахвяраю стала сям'я Мікіты Іванавіча». Раптам Уладзімір Барысавіч уладкаваўся на нейкую працу ў райцэнтр. На нашы пытанні адказваў жартам, а праз тыдні два Марыя Міхайлаўна сказала мне, што ноччу Уладзімір Барысавіч пайшоў у партызаны, а ў хуткім часе і яна за ім.

Каб не наклікаць бяды на сям'ю, была выканана прадуманая раней «інсцэніроўка», як быццам бы Уладзіміра Барысавіча партызаны возьмуць для расправы. На вуліцы яны крычалі, нарабілі шмат шуму. Прайшло некалькі дзён, немцы не паяўляліся. Зноў па сакрэту Марыя Міхайлаўна паведаміла мне, што ноччу Уладзімір Барысавіч з хлопцамі забярэ яе з Вовам, каб пераправіць за лінію фронту. Я не павінна была і выгляду паказваць, што ведаю пра гэта. Мы з ёю развіталіся.

Праз дзень да мяне зайшла іхняя былая гаспадыня Г. Б. Кавалёва, яна прынесла нейкі хатулёк і сказала, што гэта Марыя Міхайлаўна забыла ўзяць, а тут нешта неабходнае. Ёй ісці ў лес нельга, а раптам хто-небудзь сочыць. Таму пайсці павінна была я і перадаць рэчы Уладзіміру Барысавічу, які будзе чакаць ва ўмоўленым месцы. Карпаў сустрэў мяне на ўскрайку лесу Тошнік, каля чыгункі Віцебск — Полацк. Ён быў увесь абвешаны зброяй. Яшчэ раз убачыцца з Марыяй Міхайлаўнай не дазволіў,— мне, як пабочнай, у лагер ісці нельга.

Хутка пасля гэтай сустрэчы да мяне ноччу ціха пастукалі ў дзверы. Так стукалі толькі свае, і, не спытаўшы хто, я адчыніла. Там стаяў Карпаў. Ён зрабіў мне заўвагу, што я такая даверлівая. Гэта ж ноч, і ці мала хто можа пастукаць. Я адказала, што па стуку пазнаю сваіх.

Побач з Уладзімірам Барысавічам стаяў незнаёмы мне чалавек. Карпаў пазнаёміў нас, той назваўся Палітаевым. Уладзімір Барысавіч растлумачыў, чаго завітаў. Ён сказаў, што яго група прыбыла са спецыяльным заданнем і што ім патрэбна сувязная, якой буду я.

Пасылаў ён мяне да некаторых людзей у райцэнтр Шуміліна. Хадзіла я па яго заданні ў гарадскую ўправу, да старшыні ўправы Савіцкага, які да вайны быў настаўнікам шумілінскай школы, а сакратаром управы быў выкладчык нямецкай мовы гэтай жа школы. Заходзіла я і да настаўніцы Лашковай Юлі, а тая, у сваю чаргу, павінна была перадаваць даручэнні нейкаму мужчыну з акружэнцаў. Пабывала таксама і ў доктара шумілінскай бальніцы Ізмайловіча. Уладзімір Барысавіч выклікаў яго дзеля таго, каб разам з жонкаю забраць у свой атрад, але Ізмайловіч быў звязаны з атрадам Сіпко і атрымліваў заданні ад самога Сіпко, а той яму загадаў працаваць у бальніцы і нікуды не ісці.

Потым я зайшла ў гарадскую ўправу да Савіцкага і даведалася, што план намечаны партызанамі аперацыі сарваўся, але сярод немцаў усчалася вялікая паніка. Увесь час паўтаралася прозвішча «Карпофф».

Больш у час вайны з Уладзімірам Барысавічам я не сустракалася і нічога пра яго не чула. Толькі адной восенню 1943 года нехта з партызан прынёс мне газету «Правда», дзе быў апублікаваны Указ урада аб узнагародзе беларускіх партызан, сярод якіх была і мая сястра Аладзьева Зоя Антонаўна. Партызан сказаў, што газету прасіў перадаць мне Карпаў, але пра самога Карпава ён нічога не ведае.

*П. С. Клімчык*

## СТАРОНКІ МІНУЛАГА

Уладзіміра Барысавіча Карпава я ведала да вайны, калі мы разам працавалі. У той час ён быў дырэктарам Даўганіўскай СШ. Сваёй неўтаймаванай энергіяй, шчырасцю ён заваяваў усеагульную павагу і прызнанне калег. Бо быў не проста дырэктарам, а сапраўдным таварышам.

Сорак першы год... Цяжка пісаць... Муж пайшоў на фронт. Я засталася з двума маленькімі дзецьмі: аднаму два гады, а другому — два тыдні. Эвакуіравацца не змагла. Што рабіць?

Праўда, восенню 1941 года Доўгую Ніву наведаў Уладзімір Барысавіч. Ён распытаў, хто застаўся ў акупацыі, як жывём і раіў падтрымліваць з ім сувязь. Прыкладна 12—14 студзеня 1942 года ў Доўгую Ніву прыйшла жонка Карпава і ўручыла мне першыя лістоўкі.

А тут немцы выдалі загад: «Усім спецыялістам стаць на ўлік у сваіх былых установах». Прыйшлося ісці ў Сіроцінскі раён. Заходжу ў раённы аддзел народнай адукацыі. Стаю, у кабінет начальніка стукаць баюся.

Раптам адчыняюцца дзверы, і, на маё здзіўленне, на парозе бачу Карпава. У вачах пацямнела... Ну, думаю, зараз пачнецца допыт — ён мне прыпомніць нашу размову 1941 года.

Пазнаўшы мяне, Уладзімір Барысавіч усміхнуўся і прапанаваў сесці:

— На ўлік я вас браць не буду. Ідзіце дадому, хутка сустрэнемся.

Праз некалькі дзён ён сапраўды прыехаў у Доўгую Ніву. Пабываў у мяне, заходзіў і да іншых настаўнікаў, якія не змаглі эвакуіравацца: Паўтарэнка К. Д., Хрыпценка М. Ф., Дземянчонка П. П. Тады ж Уладзімір Барысавіч папярэдзіў, што ў Доўгай Ніве мне заставацца нельга, трэба пераехаць у вёску Спаскае.

Туды цераз Хрыпценка М. Ф. (расстраляна фашыстамі ў 1943 г.), Сокалаву Веру (пятнаццацігадовая дачка гаспадыні) і іншых Карпаў перадаваў лістоўкі. На наступны дзень я брала дзяцей і ішла як быццам прасіць міласціну, а гэтым часам людзям, якім давярала, раздавала лістоўкі, што дапамагалі ўведаць праўду.

Неяк ноччу хтосьці пастукаў у акно.

— Хто там? — спыталася я.

— Гэта я, Карпаў, Паша Сцяпанаўна. Выйдзіце, калі ласка, на хвілiначку.

Калі я выйшаў на двор, ён паведаміў:

— Я да вас з маленькім даручэннем. Заўтра Спірыдонаў Рыгор (ён па даручэнні партызан працаваў у паліцыі) прынясе нам невялікі скрутак. Прашу, схавайце панадзейней.

Такое заданне мне здалося не цяжкім, і я згадзілася. Назаўтра Спірыдонаў прынёс два абкручаныя анучай пісталеты. Не паспеў ён

адысці і метраў дзвесце, як я ўбачыла фашыстаў, якія ішлі да маёй хаты. Як быць? Скрутак я не паспела яшчэ схаваць, разгубілася. Але тут заўважыла ля печы чыгун. Я ўкінула скрутак у чыгун і засунула яго ў печ.

Калі гітлераўцы ўвайшлі ў хату, я ўжо трымала на руках сваю маленькую дачку Верачку. Адзін фашыст вырваў з маіх рук дзіця, другі паставіў мяне да сцяны, а яшчэ два рабілі вобыск, але так нічога і не знайшлі. Штосьці яшчэ крычалі мне, гразіліся, а потым пайшлі. Ноччу прыйшоў Будзько — ён родам з Доўгай Нівы,— забраў скрутак. Я вельмі была рада. Не, не за сябе, вядома, а за сваіх дзяцей, што смерць мінула іх, а я выканала заданне.

Уладзімір Барысавіч стаў часта перадаваць розныя невялікія даручэнні цераз настаўнікаў Хрыпценка М. Ф. і Паўтарэнка К. Д.

Аднойчы марозным ранкам на вёску Спаскае наскочылі карнікі. Дом, дзе [redacted] жыла, немцы спалілі, і мне прыйшлося пераехаць у вёску Заполле, якая знаходзілася каля самага лесу. Сюды і завітаў у адну халодную ноч Уладзімір Барысавіч. Прыйшоў ён не з заданнем, а прынёс гасцінец маім малым — некалькі лустачак чэрствага хлеба і грамаў пяцьдзесят солі. Але хтосьці данёс ворагам, што да мяне прыходзіў муж. Доўга мяне і маю гаспадыню дапытвалі, дзе знаходзіцца мой муж і з якім заданнем ён прыходзіў да мяне.

А ў хуткім часе на вёску Заполле таксама наляцелі карнікі. Павыганялі людзей з хат, вёску падпалілі, а жыхароў адвялі за вёску і расстралялі. У натоўпе была і я з дзецьмі, але цудам уцалела: адстала ад гурту. Мне было

цяжка несці дзяцей, ды і ногі не хацелі слухацца. Сама да гэтага часу не веру і дзіўлюся, як гэта магло здарыцца.

А было так: Жаначка пачала плакаць, скардзіцца, што ў яе баліць жывоцік і папрасілася на зямлю. Я паставіла яе на дарогу і стала чакаць. Канваіры прайшлі міма мяне, а астатніх пагналі далей. Як толькі натоўп адышоўся на метраў 150—200, пачуліся аўтаматныя чэргі і крыкі людзей. Калі апамяталася, карнікаў ужо не было, вёска гарэла, а я з дзецьмі стаяла пасярод дарогі і не ведала, куды ісці.

Вырашыла падацца бліжэй да людзей. Прыйшла ў вёску Мазурына, папрасілася да адной старой бабулі і засталася ў яе жыць. Адной ночы да нас пастукалі. Я выйшла і аслупянела ад нечаканасці: на парозе стаяў Уладзімір Барысавіч. У яго руках былі дзве нейкія кубышкі.

— Іншага выйсця ў нас няма, прыйшлося зноў турбаваць вас. Паспрабуйце заўтра, прыкладна да першай гадзіны дня, аднесці гэтыя кубышкі на станцыю Лоўша. Адну аднясіце заўтра, а другую праз дзень. Там вас сустрэне чыгуначнік з зялёным сцяжком у руцэ. Яму і аддасце.

Першы паход прайшоў спакойна і ўдала. Праз дзень я таксама ўзяла дзяцей і адправілася на станцыю. Кубышку даручыла несці старэйшай дачушцы, а маленькую несла на руках. Што было ў кубышцы, я не ведала, але зверху ляжалі яйкі. Маёй старэйшай дачцэ ўжо больш за сорак гадоў, яна сама мае дзяцей і ўнучку, але і зараз памятае, як яна тады ўпала і яйкі раскідаліся па снезе. Я ж пера-

жыла тады жахлівыя хвіліны, бо на дне кубышкі, пад кардонкай, убачыла шчыльна складзеныя, мабыць, узрывальнікі. Я асцярожна пазбірала і паклала ўсё на месца і рушыла далей, да дома каля чыгункі, дзе і перадала патрэбнаму чалавеку «падарунак». На шчасце, усё скончылася добра. Заданне Уладзіміра Барысавіча і на гэты раз было выканана.

*К. Д. Паўтарэнка*

# ПРА УЛАДЗІМІРА БАРЫСАВІЧА КАРПАВА

У нашу Даўганіўскую сярэднюю школу ў 1938 годзе прыбыў У. Б. Карпаў са сваёй сям'ёй. Ён быў прызначаны дырэктарам школы, а яго жонка Марыя Міхайлаўна выкладчыкам рускай мовы і літаратуры. Яны неяк адразу ўвайшлі ў наш калектыў.

Школа зажыла нейкім новым жыццём. Ажывілася работа камсамольскіх і піянерскіх арганізацый, гурткоў, арганізаваліся новыя. Літаратурны гурток вёў сам Уладзімір Барысавіч, рукадзельны, танцавальны і харавы — Марыя Міхайлаўна.

Работы гуртkоўцаў дэманстраваліся на раённай выстаўцы, а ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці выступалі ў многіх вёсках былога Спаскага савета.

Улетку 1941 года У. В. Карпаў паехаў у Мінск на дзяржаўныя экзамены. Пачалася вайна. Мужчыны нашай вёскі атрымалі мабілізацыйныя павесткі. Марыя Міхайлаўна за ноч на сваёй машынцы нашыла ўсім, хто ішоў на фронт, насовак. На кожнай каляровымі ніткамі было вышыта прозвішча і імя.

Некаторыя настаўнікі школы рушылі на ўсход. Паехала з двума малымі (тры і паўтара года) і я. Але каля адной вёскі Гарадоцкага раёна нас абагналі нямецкія танкі. Прыйшлося вяртацца назад.

Восенню, у канцы кастрычніка 1941 года, мясцовыя паліцаі сагналі ўсіх жанчын жаць позні авёс. Кожнай з нас была вызначана паласа. Дадому хадзіць нават абедаць нікому не дазвалялася. Гэтым разам у мяне была з сабой бутэлька малака і нейкі праснак. Калі я скончыла жаць і збіралася пад'есці, то пачула, што мяне нехта цішком паклікаў. Я са сваім абедам пайшла на кліч да кустоў, што раслі тут жа, над рэчкай. І якое ж было маё здзіўленне, калі ўбачыла Карпава, а з ім яшчэ двух незнаёмых мужчын.

Уладзімір Барысавіч пацікавіўся, дзе знаходзяцца зараз Аксёнава А. Х. і Клімчык П. С. Я сказала, што яны жывуць у Спаскім.

Крыху пазней я даведалася ад Аксёнавай, што Карпаў і тыя, як высветлілася, уцёкшыя з палону нашы салдаты былі ў яе, а потым Арвіда Хрыстафораўна пераправіла іх у партызанскі атрад.

У студзені 1942 года да мяне прыйшла Марыя Міхайлаўна Карпава.

Апранута яна была незвычайна — зімняе паліто, а на нагах гумовыя боты. Спачатку яна сказала, што быццам прыйшла забіраць свае ўцалелыя рэчы, але потым даверліва паведаміла, што нясе лістоўкі. Зняўшы паліто, яна распарола падкладку, дастала адтуль некалькі лістовак і пакінула іх мне, а астатнія панесла Аксёнавай. Назад яна вярнулася з дзіцячай каляскай, у якую мы ўсыпалі трохі

бульбы, а зверху паклалі карціну, намаляваную Уладзімірам Барысавічам.

Неяк у пачатку ліпеня 1942 года зайшла да мяне Арвіда Хрыстафораўна і сказала, што мяне выклікаюць у райана. Я здзівілася. Тады Аксёнава працягнула мне гатовы пропуск: «Не бойцеся, ідзіце смела, там вас чакае Карпаў». На наступны дзень я накіравалася ў Шуміліна. Зайшла ў райана. У маленькім пакойчыку было некалькі знаёмых настаўнікаў. Пра што ў іх была гаворка, не ведаю, бо Карпаў іх тут жа адпусціў, а мне сказаў застацца. Уладзімір Барысавіч распытваў пра настрой жыхароў вёскі, пра тое, хто з мужчын вярнуўся з акружэння, ці бываюць у вёсцы партызаны, ці ёсць паліцаі. Я яму пералічыла ўсіх мужчын Доўгай Нівы, а калі назвала прозвішча Касцюкова Савелія Кандрацьевіча, Уладзімір Барысавіч неяк страпянуўся і ціха сказаў: «За ім у першую чаргу будуць паляваць гітлераўцы. Ён жа камсамолец,— і дадаў: — Касцюкоў павінен пайсці ў атрад першы, а затым выведзе і астатніх мужчын».

Разам з Карпавым я прайшла ў сумежны пакой. Тут, за доўгім сталом, сядзеў маленькі лысы чалавек. За яго плячыма на сцяне вісеў вялікі партрэт Гітлера. Чалавек назваўся Каялам (імя, імя па бацьку не памятаю). Уладзімір Барысавіч сказаў: «Назначаем вас загадчыцай Даўганіўскай школы. Загадчыца будзе, а школа працаваць не павінна. Будзеце вазіць парты са школ, што знаходзяцца на тым беразе Обалі. Вазіць па дзве парты. З сабою бярыце Касцюкова». Заўважыўшы, што я паглядаю то на Каялу, то на партрэт Гітлера, ён сказаў: «Так трэба,— і, глянуўшы на Каялу, працяг-

ваў,— гэта свой чалавек. А вам раю быць асцярожнай. У наступны раз прыйдзеце ўдваіх з Касцюковым у стары будынак райвыканкома. Калі прыйсці, вам скажа Арвіда Хрыстафораўна. Яна ж прынясе і дакументы».

Я расказала Касцюкову пра сустрэчу з Карпавым, пра нашу размову. Крыху падумаўшы, ён выцягнуў стосік нейкіх кніг і дастаў з іх некалькі лістовак са зводкамі Саўінфармбюро. Выявілася, што Касцюкоў ужо быў звязаны з нашымі людзьмі, якія працавалі ў воласці, і тымі, што былі ў партызанах.

На прапанову сустрэцца з Карпавым згадзіўся. Праз некалькі дзён з прапускамі, якімі зноў нас забяспечыла Аксёнава, мы адправіліся ў Шуміліна. І толькі Касцюкоў паспеў адчыніць дзверы будынка і зайсці ў яго, як мяне схапілі гітлераўцы і павялі ў калону для адпраўкі ў Нямеччыну (мой пропуск, мабыць, здаўся падазроным). І калі я зусім згубіла надзею на вызваленне, раптам убачыла: ідзе Касцюкоў і нясе нейкую паперу ў выцягнутай руцэ. Аказалася, што нас выратаваў мой былы настаўнік Кузмічэнка Рыгор Пракопавіч, які працаваў ва ўправе пісарам (вядома, па заданні нашых людзей). Пра гэта мне пасля сказаў Карпаў.

Па парты мы з Касцюковым з'ездзілі ўсяго адзін раз. Там ён сустрэўся з патрэбнымі яму людзьмі, а я з настаўнікамі школ, ад якіх і даведалася, што арганізоўваецца партызанскі атрад.

У хуткім часе Касцюкоў пайшоў у партызаны, за ім пайшлі і ўсе мужчыны вёскі. А ў канцы жніўня ноччу хтосьці пастукаў у маё акно. Я прыпала да шыбы і ўбачыла Карпава,

які быў на веласіпедзе. Увайшлі ў дом, агню не запальвалі. Уладзімір Барысавіч сказаў: «Нехта выдаў — Каялу фашысты закупалі ў возеры, Фёдараў і Савіцкі схоплены, на волі пакуль што толькі Кузмічэнка». Крыху адпачыўшы, ён папрасіў правесці яго ў вёску Мамойкіна да Хрыпценка Марыі Фамінічны.

У Мамойкіна мы дабраліся спакойна. Пастукалі. Нам адчыніла свякруха Марыі Фамінічны — Ізафатава Аўдоцця Анісімаўна (чатырох сыноў адправіла яна на фронт, і ні адзін не вярнуўся). Ад яе даведаліся, што Хрыпценка і яе сястра пайшлі ў партызаны, а іх бацькоў фашысты схапілі, катавалі і расстралялі ў Обалі.

Выслухаўшы ўсё гэта, мы пайшлі на дарогу, якая вяла на Обаль і Спаскае. На развітанне Уладзімір Барысавіч сказаў:

— Далей пайду адзін. Магчыма, яшчэ сустрэнемся. Трымайцеся. Вас папярэдзяць, калі патрэбна будзе пайсці.

Пачатак восені 1942 года... Разбудзіў мяне такі самы ж стук. Каля майго дома было чалавек 10—11 верхавых, сярод іх быў і Карпаў. Яго цікавіла ахова на чыгунцы. Я ж сказала, што ведаю месца, дзе яе пераходзяць партызаны.

Удваіх з мужам мы адправіліся іх праводзіць. Калі ж да месца перахода заставалася метраў 200—300, Уладзімір Барысавіч сказаў мне:

— А вам пара вяртацца. У доме засталіся адны малыя, усякае можа быць.

Я развіталася, крыху пастаяла, але дадому не пайшла, схавалася на могілках, якія былі ля самай дарогі, і стала чакаць. Чую — бя-

жыць задыханы муж. У гэты ж час у неба паляцелі фашысцкія асвятляльныя ракеты і ўсчалася страляніна. Аказалася, недалёка ад месца перахода былі немцы. Муж кажа: «Цяпер паліце колькі ўлезе, яны ўжо далёка...» Я зразумела, што пераход завяршыўся добра.

У апошні раз Уладзімір Барысавіч з даволі вялікай групай людзей з'явіўся пад акном майго дома 7 лістапада 1942 года. Усе былі апрануты ў штосьці чорнае, а на Карпаве быў кажушок. Доўга затрымлівацца было нельга: якраз у тую ноч выпала пароша, і на белым снезе людзі былі вельмі прыкметныя. Прыхапіўшы з сабою бохан хлеба і крыху малака, я правяла іх да кладак, якія былі пракладзены праз рэчку. Перакусіць дамовіліся на другім беразе. Было жудасна ўявіць, што раніцай мясцовыя паліцаі могуць заўважыць вытаптаны снег пад маім акном і сляды, што вялі да рэчкі. На наша шчасце, пад раніцу пацягнулася пазёмка, і ўсё замяло.

А 12 снежня прыйшоў Касцюкоў і папярэдзіў, каб мы тэрмінова перабіраліся ў партызанскую зону.

Пасля перамогі я двойчы па справах была ў Мінску. Пашчасціла сустрэцца толькі з жонкай Карпава Марыяй Міхайлаўнай і іх дачкой Людмілай. Уладзімір Барысавіч на той час быў у камандзіроўцы.

Мы ўсю ноч не спалі. Успаміналі Доўгую Ніву, настаўнікаў, усё, што прыйшлося перажыць за час вайны, паплакалі аб загінуўшых, памерлых. Тады мы і не думалі, што так рана пакіне нас Уладзімір Барысавіч.

*Р. Я. Цемахаў*

# НАШЫ СУСТРЭЧЫ

Уладзіміра Барысавіча ўпершыню я сустрэў у ліпені 1942 года ў размяшчэнні брыгады імя Кароткіна. У штабе, куды я зайшоў, вялася гутарка паміж камісарам Фраловым, камандзірам разведкі Палітаевым і нейкім незнаёмым мне чалавекам. Мяне кранула тады шчырая ўсхваляванасць тону і незвычайная ўпэўненасць у гэтым чалавеку. Я прысеў і пачаў слухаць.

Камісар казаў, што належыць адкінуць інтэлігентнасць і ўключыцца ў барацьбу, якая ідзе не на жыццё, а на смерць... Уладзімір Барысавіч (гэта быў ён) даводзіў, што яму перашкаджае не інтэлігентнасць, а адказнасць за жыццё родных людзей, бо калі ён выканае гэтае заданне зараз, то яны могуць загінуць. Ён прасіў адтэрмінаваць заданне да таго часу, калі яго блізкія будуць па-за небяспекай. Камісар жа настойваў на выкананні задання з адначасовым вывадам сям'і.

У гэты час прыйшлі з чарговага задання партызаны. Камандзір групы павінен быў тэрмінова далажыць аб выкананні задання і атры-

маць новыя ўказанні штаба. Размову з Уладзімірам Барысавічам адклалі, і я папрасіў дазволу пагутарыць з ім. Мы выйшлі на вуліцу.

Было цёпла. Помніцца, стаяла цішыня, спявалі птушкі, і не верылася ў небяспеку, у смерць, у тое, што па роднай зямлі ходзіць вораг.

Уладзімір Барысавіч пацікавіўся: навошта мне з ім гутарыць. Я ж сказаў, што адчуваю яго гора, адчай, боль, і мне патрэбна гэтая гаворка. Ён быў спачатку недаверлівы і замкнуўся. Я стаў расказваць пра сябе. Калі ж ён даведаўся, што я доктар, то ўсміхнуўся: «Даруйце, прыняў вас за разведчыка». Размова пайшла больш адкрыта. Мы сталі гаварыць пра палітыку, літаратуру... Як ні дзіўна гучыць гэта сёння, але гэта факт,— мы гаварылі на самыя абстрактныя тэмы. Потым Уладзімір Барысавіч задумаўся і сказаў:

— Не магу я зрабіць іначай... Я павінен выратаваць сям'ю... Потым, вядома, гатоў на ўсё.

Я паабяцаў яму дапамагчы. Пасля я дамогся дазволу камандзіра адкласці заданне да таго часу, пакуль сям'я Карпава прыбудзе ў брыгаду. Па заданні Уладзімір Барысавіч павінен быў узарваць камендатуру, а заадно і начальніка паліцыі ў мястэчку Шуміліна, і рыхтаваў для гэтага людзей...

У 1945 годзе ў Верхнядзвінск, дзе я працаваў, прыехаў брат маёй жонкі Уладзімір Фаміч Конанаў. Мы не бачыліся з ім з 1942 года. Зразумела, спатрэбіўся час для расказаў аб мінулым. І, вядома, расказы былі насычаны перажытым. Я не раз чуў з вуснаў Уладзіміра

Кананава аб паходах у тыл ворага з групай, аб розных здарэннях на дарогах вайны.

Потым мы вярнуліся ў вызвалены Мінск. Любімы горад быў у руінах. Аднойчы Уладзімір Кананаў прапанаваў мне пайсці ў госці да яго сябра і таварыша па падпольнай рабоце. Мы зайшлі ў драўляны дамок у раёне Старажоўскіх могілак. Сустрэча сяброў была гарачай. Я ўпершыню тады пачуў, што майго швагра і таварыша завуць «Вася». А яшчэ больш здзівіўся, пазнаўшы Уладзіміра Барысавіча Карпава. Трэба ж такому здарыцца, каб лёс сутыкнуў нас усіх такім чынам. Аказваецца — другі перыяд вайны Уладзімір Барысавіч ваяваў у адной групе з Уладзімірам Кананавым. Гэта нас парадніла яшчэ раз.

Настаў перыяд у маім жыцці, калі ўражанні аб перажытым папрасіліся на паперу. Будучы на семінары празаікаў у Мінску, я зноў сустрэўся з Уладзімірам Барысавічам. Ён быў рады сустрэчы, запрасіў дадому. Расказваў аб сваіх планах, распытваў мяне, раіў, падараваў сваю кнігу «Вясеннія ліўні».

Я запомніў яго жывым, дзейным, думаючым над людскімі лёсамі чалавекам.

*І. М. Цімчук*

# З МУЖНАСЦЮ І АДВАГАЙ У СЭРЦЫ

У гады Вялікай Айчыннай вайны Мінскі падпольны абком партыі сістэматычна засылаў у тыл ворага невялікія групы байцоў, у задачу якіх уваходзіла арганізоўваць новыя партызанскія атрады. Абком практыкаваў таксама пасылку ў тыл ворага груп і адзіночак-разведчыкаў для азнаямлення з дзеяннямі партызанскіх атрадаў, падпольных партыйных, камсамольскіх, антыфашысцкіх арганізацый, з жыццём мірнага насельніцтва, з дзеяннямі акупацыйных улад і інш.

З падобным заданнем у канцы жніўня 1942 года ў Лагойскі райком і завітаў Уладзімір Карпаў. З'яўленне ў нашых мясцінах незнаёмага чалавека заўважылі камсамольцы-падпольшчыкі вёскі Калачы. Яны сталі назіраць за ім, а адзін з іх прыбег у Якубавічы і паведаміў аб гэтым партызанскаму пасту. Партызаны з падпольнага Лагойскага РК КП(б)Б прывялі Уладзіміра Барысавіча на базу райкома.

Да гэтай сустрэчы мы адзін аднаго не ведалі. Перакрыжаванымі пытаннямі пры знаёмст-

ве правяралі праўдзівасць нашых выказванняў. Праз невялікі час мы сталі баявымі сябрамі.

Я расказаў, якія атрады і спецгрупы дзейнічаюць на тэрыторыі Лагойскага і заходняй часткі Плешчаніцкага раёнаў. Мы пабывалі на месцы Валенцінаўскага бою, у трэцяй роце партызанскага атрада «Мсцівец», наведалі Янушкаўскую партыйную і камсамольскую падпольныя арганізацыі, сельскую кузню, дзе рамантавалася партызанская зброя, пабывалі на месцы спаленай вёскі Рудня. У многіх вёсках гутарылі з людзьмі.

Усё ўбачанае і пачутае Карпаў простым алоўкам, нейкімі значкамі і літарамі, толькі яму аднаму зразумелымі, занатоўваў у свой блакнот. Я ж спісаў цэлы сшытак інфармацыяй і нашымі просьбамі і папрасіў Валодзю перадаць яго І. Клімаву.

Развіталіся мы ў вёсцы Жардзяжжа, калі ѝ быў упэўнены, што пройдзены ўсе небяспечныя пасты. Уладзімір Барысавіч пайшоў на ўсход, а я на захад.

Праляцела восень. Надышлі доўгія зімовыя ночы, халодныя дні. Лагойскія падпольныя РК партыі і камсамола асталяваліся зімаваць на беразе Дзікага возера, па дарозе паміж вёскамі Рудня і Пуцілава. Тут, у бары, былі пабудаваны зямлянкі, бліндажы, банныя пункты, а вакол — назіральныя вышкі і пасты. Тут жа працавалі рэдакцыя і друкарня, майстэрня па вырабу мін, неслі службу радысткі.

У адзін з марозных лютаўскіх дзён з янушкаўскага назіральнага пункта паведамілі, што з-за лініі фронту прыбыў нейкі Валодзя і просіць, каб яго звязалі з падпольным райкомам

партыі. Увечары мы ўжо сядзелі ў цёплай райкомаўскай зямлянцы, асветленай дванаццацілінейнай газавай лямпай. Уладзімір Барысавіч расказваў нам аб тым радасным настроі, які ахапіў савецкіх людзей у сувязі з грандыёзнымі поспехамі Чырвонай Арміі пад Сталінградам, на Паўночным Каўказе, пад Ленінградам.

Расказваў Валодзя доўга, але яго ўважліва слухалі інструктары падпольных райкомаў партыі і камсамола. Тут, на базе падпольнага райкома, Уладзімір Барысавіч і ўладкаваўся. Ён пасябраваў з інструктарамі, часта хадзіў з імі па вёсках, наведваў пярвічныя падпольныя партыйныя і камсамольскія арганізацыі. Выступаў з дакладамі ў партызанскіх атрадах, у вёсках перад мірным насельніцтвам, прымаў удзел у баявых аперацыях дыверсійных груп па мініраванню шасейнай дарогі Астрашыцкі Гарадок — Радашковічы, у рабоце рэдакцыйнай калегіі па выпуску раённых і партызанскіх газет, запісваў зводкі Саўінфармбюро.

Асабліва Валодзя цікавіўся паведамленнямі сувязных і разведчыкаў, што працавалі ў Мінску і яго ваколіцах, дзе Лагойскі падпольны райком арганізаваў разведвальна-дыверсійныя групы, меў разведчыкаў-інфарматараў. Амаль кожны дзень даводзілася слухаць інфармацыю аб дзеяннях праціўніка ў горадзе. Уладзімір Барысавіч, седзячы побач са мною, уважліва слухаў расказы, задаваў мноства пытанняў, аналізаваў факты, дамагаўся, каб інфармацыя была праўдзівай і не выклікала сумненняў. «Лепей менш,— часта казаў ён,— але перадаваць на Вялікую зямлю толькі праўдзівую інфармацыю».

Нарэшце ў адзін з лютаўскіх вечароў Уладзімір Барысавіч сказаў мне, што сам хоча пабываць у Мінску і пабачыць усё на свае вочы, пагутарыць з мінчанамі. На наступны дзень у падпольны райком партыі былі выкліканы лепшыя баявыя сувязныя-камсамольцы Іван Луцкі і Соня Куніцкая.

— Ваня і Соня,— сказаў я.— Гэта — Валодзя. Вам давядзецца нейкі час папрацаваць разам. Пагаварыце, праедзьце партызанскімі сцежкамі ад Янушкавіч да Бяларуч, а праз тры-чатыры дні паведаміце мне, ці гатовы вы ехаць у Мінск.

У гэты ж дзень тэрмінова выехаў у Мінск Валодзя Сарока — са спецыяльным заданнем: звязацца на біржы працы з Міколам Махначом, а ў гарадской управе з Захарам Галам (Зорыкам) і атрымаць у іх інфармацыю аб тым, што намячаюць рабіць акупанты ў Мінску ў бліжэйшы час. На другі дзень позна ўвечары ён вярнуўся, быў стомлены і дакладваў павольна. Тут жа быў і Уладзімір Барысавіч — я запрасіў яго, каб ён выслухаў інфармацыю нашага сувязнога.

Абстаноўка ў горадзе была складаная.

— Можа, Уладзімір Барысавіч, адкладзеш сваю «камандзіроўку» ў Мінск? Пацяплее. Вясною больш зручна. Можна пераначаваць у любых руінах, а зараз зіма. Падумай.

Уладзімір Барысавіч адказаў: «Гэта добра, што вы падрабязна азнаёмілі мяне са становішчам у горадзе. Для мяне стала зразумела, на што звярнуць увагу. Дазвольце нам раніцай ехаць у Мінск. Ваня з Соняю падрыхтавалі ўжо сані. На адны наклалі дроў і вязанкі сена, а на другія — два мяхі бульбы

і зноў жа сена. Вось з гэтым грузам пад выглядам сялян мы і паедзем на Камароўскі рынак».

У Мінску Уладзімір Барысавіч спыніўся на кватэры ў Луцкіх.

На другі ж дзень уся група Івана Луцкага — Яша Шымановіч, Эдуард Шчасны, Мікалай Саўчык, Вікенцій Шацько, Сяргей Прылуцкі, Яўген Зязін, Варвара Плавінская, шэсць членаў сям'і Луцкіх і іншыя — працавалі па заданню Валодзі. Трэба адзначыць, што кожны з іх у сваю чаргу меў яшчэ групу з трох-пяці чалавек. Усе яны збіралі звесткі аб праціўніку і перадавалі Валодзю. Была пастаўлена задача: на працягу трох-пяці дзён зафіксаваць усе апазнавальныя знакі на аўтатранспарце, што праходзіў праз Мінск, а таксама перамяшчэнне войск і матэрыялаў праз чыгуначны вузел Мінска на захад і ўсход.

Уладзімір Барысавіч сустрэўся з прафесарам Я. Клумавым, прафесарам М. Дарожкіным, а потым з падпольшчыкамі, якія працавалі ў Доме друку і пазней забяспечылі нас шрыфтамі і паперай. Кіраваў там падпольшчыкамі стары член партыі латыш Аляксандр Якаўлевіч Платаіс, які даў Валодзю аўтамашыну, каб ён змог некалькі разоў праехаць па вуліцах горада, прыгледзецца да таго, што адбываецца ў ім.

Пабываў Карпаў і сярод падпольшчыкаў, якія працавалі на Балотнай станцыі, сустрэўся з салдатамі нацыянальных фарміраванняў, якія пасля гэтага знішчылі свайго шэфа і перайшлі да партызан.

Падпольшчык Вікенцій Шацько (Агнёў) падрабязна пазнаёміў У. Карпава з тым, як

яго група праводзіць дыверсійныя работы на мінскім чыгуначным вузле.

Умацаваўшы сувязі, арганізаваўшы новыя, Уладзімір Барысавіч, Іван і Соня шчасліва вярнуліся ў лагер Лагойскага падпольнага райкома. Яны тут жа, па свежых слядах, селі за напісанне справаздачы. Разведчыку не патрэбна запісная кніжка — яму патрэбна вострая памяць. Такой памяццю валодаў Валодзя. Але, як кажа народная прыказка: «Адзін розум — добра, а два лепш», Валодзя вырашыў напісаць справаздачу аб вылазцы ў акупіраваны Мінск разам са сваімі спадарожнікамі.

У пачатку сакавіка 1943 года мы развіталіся з У. Карпавым на бягомльскім аэрадроме, пажадаўшы адзін аднаму ні пуху ні пяра. Ішлі дні, тыдні, месяцы зацятай барацьбы. Вясной сорак трэцяга мы правялі баі з карнай экспедыцыяй. Надышло лета, яно кожны дзень прыносіла нам радасць перамог. Чырвоная Армія біла фашыстаў на франтах, а партызаны з засад на шасейных і чыгуначных дарогах.

У такіх абставінах мне давялося ў трэці раз сустрэцца з Уладзімірам Барысавічам у Янушкаўскіх лясах. На гэты раз ён быў не адзін, а прыйшоў з групаю «Мсціўцы». Спецгрупа правяла вялікую работу з насельніцтвам базоны, выканала шэраг вельмі складаных баявых аперацый. Прыклады асабістага гераізму паказаў і У. Карпаў.

Той, хто сустракаўся ў час вайны з Уладзімірам Барысавічам, пераканаўся, што гэта быў мужны, энергічны воін, які любіў сваю Радзіму. І, абараняючы яе свабоду, гонар, годнасць, быў гатовы аддаць жыццё.

## *І. М. Дзёмін*

# ВАЛОДЗЯ-РАЗВЕДЧЫК

Снежань 1942 года. Наш партызанскі атрад (пазней брыгада) «Смерць фашызму» абаснаваўся ў сасновым аснежаным бары кіламетраў за дзесяць ад вёскі Кормша. Вёскі, па-сутнасці, не было. Яе спалілі разам з жыхарамі фашысты яшчэ ў ліпені, у час карнай экспедыцыі. Нашыя роты размяшчаліся таксама паблізу вёскі Сухі Востраў і ва ўрочышчы Грабянчук каля ракі Гайна.

Жыць і ваяваць байцам нашага атрада было не лёгка. Мы, як кажуць, знаходзіліся на «гарачай патэльні». Кіламетраў за дваццаць ад нас быў буйны нямецкі гарнізон у Барысаве, а далей паўкругам ад Зембіна да Мінска стаяла яшчэ больш дзесяці фашысцкіх гарнізонаў. А мы ваявалі, ваявалі ўдзень і ўначы. Узводы і роты выходзілі да аўтамагістралі, вядомай пад назвай Маскоўская шаша, закладвалі міны на чыгунцы Мінск — Барысаў. Паліцаі і нямецкія патрулі стараліся намацаць месца знаходжання нашага атрада.

Нягледзячы на суровыя ўмовы і цяжкую барацьбу, у партызан у гэтыя дні быў пры-

ўзняты настрой. Сакратар партбюро Цімафей Іваноўскі ўсхвалявана расказваў у спехам выкапаных зямлянках, перапоўненых партызанамі, пра тое, што пад Сталінградам акружана фашысцкая армія. Мы разумелі, што гэта — прадвесце вялікіх перамог, што там, на Волзе, ломяць хрыбет гітлераўскай арміі. А тут, паблізу ад Мінска, дыверсіямі на аўтамагістралі і чыгунцы наш атрад таксама ўдзельнічае ў вялікай Сталінградскай бітве.

Я ўжо камандаваў першай ротай атрада.

Снежаньскім досвіткам разам з двума ўзводамі мы вярнуліся з «шасейкі». Я загадаў байцам адпачываць і пайшоў да зямлянкі камандзіра атрада Васіля Хведаравіча Тарунова, дзе далажыў яму аб выкананні задання.

— Ты не вельмі стаміўся? — спытаў ён.

— Ды як сказаць, таварыш камандзір...

— Ну, добра, вытрымаеш. Пазнаёмся.

Толькі цяпер я ўбачыў, што ў зямлянцы знаходзіцца яшчэ адзін чалавек. Гэта быў мужчына гадоў дваццаці пяці — трыццаці, сярэдняга росту, шыракаплечы, у чырвонаармейскай форме без знакаў адрознення. Твар яго смуглявы, цёмныя валасы старанна зачасаны, а карыя вочы ўважліва ўглядаюцца ў мяне з вясёлай, нейкай душэўнай іскрынкай. Ён моцна паціснуў мне руку і назваўся:

— Валодзя.

— Іван.

— Вось і пазнаёміліся,— рассмяяўся Таруноў.— Ты, Дзёмін, вазьмі таварыша да сябе, пастаў на ўсе віды забеспячэння. Давярай яму поўнасцю — гэта наш чалавек... Адтуль! Зразумеў?

— Зразумеў, таварыш камандзір.

Мы накіраваліся ў маю роту. Ішлі моўчкі, а я думаў: «Валодзя дык Валодзя, мне ўсё роўна. Прозвішча не назваў, значыць, так і трэба. Якога ён звання — камандзір ці радавы? Не гаворыць. Дык што ж, у фашысцкім тыле неаднойчы прыходзілася сустракацца з людзьмі, якія пра сябе памоўчвалі. Такая абстаноўка».

Падышлі да зямлянак маёй роты. Я спыніўся і сказаў:

— Паслухай, Валодзя, знаходзімся мы тут, як кажуць, на птушыных правах. Зямлянкі маленькія, перапоўненыя. Калі хочаш, магу табе даць месца ў маёй, камандзірскай.

— Дзе памесціш, там і добра будзе. Я на ўсё згодны.

Так і зрабілі. Павячэралі разам. Я падумаў, што не грэх і адпачыць. Але Валодзя вырашыў па-іншаму. Ён прапанаваў сабраць камандзіраў аддзяленняў і ўзводаў для размовы.

Хутка ў зямлянку зайшло чалавек пятнаццаць. Хлопцы былі заспаныя і перш-наперш скруцілі цыгаркі і закурылі. Я і сам падумаў, што размова гэтая будзе не ў час, лепш было б правесці сход пазней. Але праз хвіліну і я, і ўсе астатнія ўсхвалявана слухалі нягучны голас Валодзі. Пачаў ён прыкладна так:

— Сябры мае, некалькі дзён назад я хадзіў па маскоўскіх вуліцах...

Гэта было так нечакана, так аглушальна, што нават заядлыя дымакуры кінулі свае цыгаркі. Тут, у глыбокім фашысцкім тыле, бачыць і чуць чалавека, які вось толькі некалькі дзён назад быў у сталіцы нашай Радзімы! А ён працягваў:

— Хадзіў па праспектах і плошчах нашай сталіцы. Сустракаўся з людзьмі, якія нястомна працуюць, каб наблізіць разгром гітлераўскіх полчышч. Вы ўжо ведаеце, што на Волзе акружана шматтысячная армія фашыстаў... Але не толькі гэтым жыве наша Масква. Я спускаўся ў метро, праязджаў пад Масквой у любы раён. Бываў у кінатэатрах, глядзеў новыя спектаклі па п'есах, якія нядаўна напісаны нашымі драматургамі. Чытаў газеты, часопісы, кнігі... Словам, Масква жыве, працуе. Па вуліцах ходзяць трамваі, аўтобусы. З вакзалаў дакладна па раскладу адпраўляюцца пасажырскія цягнікі і ваенныя эшалоны...

Глядзеў я на Валодзю і любаваўся. А ён вёў размову проста, даходліва. І кожнае слова яго пра нашу вялікую сталіцу хвалявала сэрцы слухачоў. Які там сон, якая там стомленасць! Усё было забыта. Мы не ведалі, колькі часу прайшло з пачатку размовы, але хацелася слухаць і слухаць яшчэ. А Валодзя гаварыў не толькі пра Маскву, а і пра іншыя вялікія гарады нашай радзімы, пра калгасы, дзе ён таксама паспеў пабываць. Нябачныя ніці працягнуліся да нас, у партызанскую зямлянку ў вёсцы Кормша, ад нашай Вялікай зямлі, ад нашай вялікай і неперамажнай Радзімы.

На наша шчасце, баявая абстаноўка дазваляла атраду адпачыць пару сутак. Адпачывалі і мы з Валодзем. Прыйшоў час назваць яго поўным імем. У маёй зямлянцы адпачываў у тыя дні Уладзімір Барысавіч Карпаў.

Як часта бывала на фронце і ў партызанах, суткі, што правялі разам, зблізілі нас. Уладзімір скупа паведаміў мне, што з'яўляецца камандзірам спецгрупы, з якой павінен прайсці

ў Мінск і звязацца з партыйным падполлем.

Увечары Валодзя знайшоў мяне, адвёў убок і сказаў:

— Разумееш, сябра, час не церпіць. Нам трэба адпраўляцца... Знайдзі сярод сваіх партызанаў пару чалавек, якія б ведалі падыходы да ўскраін Мінска. З Таруновым узгоднена. Таму не чакай ад яго дадатковага загаду, а дапамажы мне па-сяброўску.

У маёй роце былі не толькі былыя акружэнцы, не толькі жыхары навакольных вёсак, а нават цэлы ўзвод мінчан. Так што добрых праваднікоў падабраць было не цяжка.

На змярканні група Уладзіміра Карпава і нашы праваднікі пайшлі на заданне.

Ішлі дні. І паступова вобраз Валодзі пачаў цямнець у памяці. Аднойчы ў зімні сцюдзёны дзень у зямлянку пастукаў сувязны са штаба атрада.

— Таварыш камандзір, Таруноў загадаў прыняць на пастой чалавека... Да вас асабіста.

Капцілка дрэнна асвятляла зямлянку. Спачатку я не пазнаў у кажуху і вушанцы свайго былога знаёмага. Праз хвіліну мы моцна абняліся:

— Дзень добры, Валодзя!

— Здароў быў, Іван!

Карпаў скінуў кажух, беражліва павесіў на цвік, убіты ў сцяну, аўтамат. Адчувалася, што ў гэты дзень ён адмераў не адзін дзесятак кіламетраў. Але вочы ўсё ж гарэлі нястрымным агеньчыкам, дапытліва ўглядаліся ва ўсю няхітрую абстаноўку маёй камандзірскай зямлянкі. Ён папрасіў:

— Спачатку, калі можна, умыцца, ды кацялок гарачай вады пагаліцца, а потым ужо,

калі знойдзеш, што-небудзь перакусіць. Хаця б чаю кружку памацней ды пагарачэй.

Валодзя прывёў сябе ў парадак, пад'еў, а потым, хітравата ўсміхнуўшыся, запытаў:

— Ну, як твае камандзіры ўзводаў і аддзяленняў, пажадаюць мяне паслухаць яшчэ раз? Навін, як кажуць, поўная скрыня.

— А ты думаў не. Пакуль тут мыўся ды галіўся, яны ўвесь снег ля маёй зямлянкі вытапталі. Чакаюць не дачакаюцца, пакуль іх паклічам.

— Дык кліч!

У гэты вечар Уладзімір Барысаў быў зусім не падобны да таго чалавека, які расказваў пра Маскву. Цяпер размова ішла аб нашай сталіцы — Мінску. Перад намі паўставаў вобраз горада, пакутніка і героя. Горад, дзе між руінамі, ва ўцалелых падвалах і на ўскраінах у драўляных дамках, бараках, жылі гараджане, і не проста жылі, а змагаліся. Уладзімір расказваў пра акружанае калючым дротам гета, пра тое, што ў скверах і на плошчах вісельні, канцэнтрацыйныя лагеры на Шырокай вуліцы і ў Драздах, лагер смерці ў Трасцянцы, дзе ўдзень і ўначы паляць не толькі мінчан, не толькі беларусаў, рускіх, украінцаў, але і вязняў з Германіі, Аўстрыі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі. З абурэннем і смуткам гаварыў нам Уладзімір, як разбураюць і рабуюць нашу сталіцу фашысцкія акупанты, як ператварылі яны вядомы універсітэцкі гарадок у самае страшнае — цэнтр катаванняў і здзекаў над савецкімі людзьмі. Расказваў нам аб усё ўзрастаючай нястомнай барацьбе, якую вядуць мінчане са сваім заклятым ворагам. Гаварыў аб лістоўках, што

з'яўляюцца на сценах разбураных будынкаў, аб узрывах, якія грымяць на таварнай станцыі. Захопнікі не адчуваюць сябе гаспадарамі горада. Фашысты і іх паслугачы ў любую хвіліну могуць атрымаць кулю ад народных мсціўцаў.

Уладзімір не называў імёнаў адважных падпольшчыкаў, не гаварыў, з кім сустракаўся, але яго расказ быў настолькі пераканальным і маляўнічым, што мы зразумелі — Валодзя быў не проста выпадковым наведвальнікам Мінска, а акунуўся ў самую гушчу ўсенароднай барацьбы, быў актыўным удзельнікам яе.

Якімі ўражваючымі і неабходнымі былі для нас гэтыя размовы. Мы змагаліся амаль на ўскраінах Мінска, але многія з нас не бывалі на яго плошчах і вуліцах.

У гэтыя дні мы з Валодзем пасябравалі яшчэ мацней. Атрымалася так, што раскрыўся ён яшчэ адным бокам свайго характару.

Разведчыкі прывялі двух затрыманых. Яны заявілі, што ўцяклі з лагера ваеннапалонных, а трапілі ў палон паранеымі. Абодва з'яўляюцца камандзірамі Чырвонай Арміі. Як нам праверыць, хто яны, ці свае, ці выпадкова трапілі ў палон і знайшлі ў сабе мужнасць уцячы з лагера, уцячы, каб змагацца. А можа, гэта падасланыя фашыстамі? Якое рашэнне павінен быў прыняць я, камандзір? Я ж адказваю за сотні жыццяў сваіх лясных салдатаў.

Уладзімір папрасіў дазволу самому пагутарыць з імі. Мяне ўразіла яго ўменне і дзіўная здольнасць ставіць пытанне так, што на яго мог адказаць толькі сумленны чалавек. Уладзімір дакладна аналізаваў той ці іншы факт расказу, настойліва і добразычліва вёў

апытванне. Скажу прама, зайздросціў я яго ўменню так раскрываць самае патаемнае ў чалавеку.

Яго прыёмы, прызнацца, потым узяў сабе на ўзбраенне.

Пасля апытвання Валодзя пераканана сказаў:

— Ім можна верыць. Гэта нашы людзі.

І не памыліўся. Ваеннапалонныя аказаліся сумленнымі, адданымі сваёй Радзіме таварышамі. Яны мужна ваявалі ў нашым атрадзе, затым сталі камандзірамі ўзводаў.

Вось пасля размовы з палоннымі ў нашым атрадзе і далі Валодзю клічку «Чэкіст». Так ён і застаўся ў нашай памяці — Валодзя-чэкіст.

Пакідаў нас Валодзя са сваімі таварышамі па спецгрупе, ішоў на заданні, губляўся яго след у лясах і палях Беларусі, а затым зноў то на адной, то на другой кароткачасовай стаянцы ён з'яўляўся ў нас. Адсыпаўся, яго людзі прыводзілі да ладу сваю зброю і ўсю паходную амуніцыю, і зноў ішлі сваімі нязведанымі, блытанымі шляхамі...

Ішоў час. Вялікай бессмяротнай Перамогай скончылася вайна з гітлераўскай Германіяй. Адраджаўся Мінск, на яго ўскраінах раслі вялізныя заводы: аўтамабільны, трактарны, камвольны камбінат...

У 1958 годзе, пасля некалькіх гадоў работы галоўным энергетыкам Мінскага аўтамабільнага, я быў абраны сакратаром парткома нашага завода. І вось аднойчы ў мой кабінет без стуку ўвайшоў чалавек. Апрануты ён быў у добры шэры гарнітур. Поўны, ледзь смуглявы твар. Хвалістыя сівыя валасы, адкінутыя назад, адкрывалі вялікі лоб. Я ўзняўся з дум-

каю, што вось яшчэ адзін з праверкай з высокіх інстанцый.

А чалавек ішоў да мяне, ледзь прыжмурыўшы левае вока, усміхаўся. І вось гэтае прыжмуранае вока, усмешка ўскалыхнулі ў маёй памяці даўнія гады.

— Валодзя, Валодзя-чэкіст! — на ўвесь голас закрычаў я, і мы моцна абняліся як даўнія баявыя сябры.

Колькі мы прагаварылі ў гэтую сустрэчу, колькі ўспомнілі агульных сяброў і таварышаў, якія пахаваны ў брацкіх магілах ці памерлі пасля вызвалення ад цяжкіх ран і хвароб. А ў канцы Уладзімір сказаў мне:

— Я ж да цябе, Іван Міхайлавіч, па сур'ёзнай справе.— Змоўк на хвіліну.— Бачыш, пачаў я збіраць матэрыял для сваёй новай кнігі.

— Пачакай, пачакай, Уладзімір Барысавіч, ты што — пішаш? Пісьменнікам стаў?

— Вось табе і маеш,— ён хітравата ўсміхнуўся і развёў рукамі.— У мяне за плячыма не адна ўжо кніга, а ты і не чытаў, аказваецца.

Прыйшлося мне сарамліва прамармытаць, што на заводзе шмат спраў, што дзень і ноч кіпіш у гарачцы будняў.

— Ну добра, не апраўдвайся. Прынясу. Знойдзеш час, прачытаеш. А зараз выслухай мяне. Дапамажы, Іван Міхайлавіч, у зборы матэрыялу. Для гэтага — першая ўмова — ніхто не павінен ведаць, што я літаратар. Проста буду адным з удзельнікаў на тваіх пасяджэннях, на нарадах у дырэктара, галоўнага інжынера... Дай мне магчымасць бываць у цэхах, у інтэрнатах. Дапаможаш?

Вядома, я даў магчымасць Уладзіміру Барысавічу быць усюды, дзе ён пажадае.

Уладзімір Карпаў штодзённа быў на нашым заводзе. Сціпла садзіўся дзе-небудзь у куток у час кароткіх і вялікіх нарад ці пасяджэнняў, вымаў вялікую запісную кніжку і нешта запісваў у ёй. Тыя, што сядзелі побач, мала звярталі на яго ўвагі. Ну, сядзіць чалавек, рыхтуецца да выступлення ў спрэчках.

Прайшоў час, і на маім стале з'явілася кніга з даравальным надпісам. Гэта быў раман «Вясеннія ліўні» пісьменніка Уладзіміра Карпава.

Не адзін я чытаў у тыя гады гэтую кнігу. Многія аўтазаводцы — рабочыя, тэхнікі, інжынеры, канструктары маюць яе ў сваіх асабістых бібліятэках. Вялікае мастацкае палатно расказвае аб нашых людзях і гераічнай працы, аб побыце аўтазаводцаў і іх сем'ях, аб поспехах, няшчасцях і бедах. Кніга напісана жыва і захапляюча, простай, даходлівай мовою, яна мела вялікі поспех. Многія лічылі сябе прататыпамі герояў рамана, спрачаліся між сабой, ды і я, прызнацца, пазнаваў сябе ў парторгу Дзіміне. Праўда, гэта не быў біяграфічны партрэт. Кніга і зараз не залежваецца на паліцах нашай бібліятэкі.

Не толькі раман «Вясеннія ліўні» прачытаў я і мае таварышы. Але асабліва вялікае ўражанне ў мяне, як былога партызана, пакінула кніга «Прызнанне ў нянавісці і любві».

Не частымі, але сардэчнымі былі мае сустрэчы з Уладзімірам Барысавічам у апошнія гады яго жыцця. Ён заўсёды з глыбокай зацікаўленасцю распытваў аб завадскіх справах, аб новых поспехах нашага калектыву, аб бы-

лых партызанах, якія сталі рабочымі і кіраўнікамі нашых цэхаў і служб. Радаваўся іх росту, і духоўнаму, і прафесійнаму, шкадаваў тых, хто рана развітаўся з жыццём. Дзяліўся сваімі планамі новых кніг, якія пісаў і марыў яшчэ напісаць.

Уладзімір Барысавіч паставіў мэту сабраць успаміны ўдзельнікаў Мінскага падполля ў гады акупацыі, аднавіць у памяці народнай вобразы тых, хто загінуў у барацьбе з захопнікамі, чыімі імёнамі названы вуліцы і праспекты беларускай сталіцы. Гэта была нялёгкая, самаахвярная праца. І ўвянчалася яна выхадам у свет кнігі «Скрозь агонь і смерць». Ілюстрацыі да яе былі створаны таксама ўдзельнікамі падпольнай барацьбы, якія сталі мастакамі,— Ю. Архіпавым, А. Волкавым, С. Волкавым, В. Ціхановічам, С. Раманавым, А. Тычынам.

Кніга гэта — бессмяротны помнік людзям, якія не шкадавалі свайго жыцця дзеля шчасця сваёй Радзімы.

Пісьменнік Уладзімір Карпаў — чалавек гераічнага лёсу, ён аддаў свой талент мастака слова беларускаму народу.

*П. С. Луцкая*

# ШАНОЎНЫ НАШ ЧАЛАВЕК

Да Вялікай Айчыннай вайны ў нашай сям'і заўсёды над галавой было бязвоблачнае неба, і кожны з нас ішоў сваёй сцяжынай у жыцці.

У той час наша сям'я складалася з дванаццаці чалавек, і не ўсе яшчэ былі дарослыя. Старэйшыя браты скончылі інстытуты. У 1939 годзе Уладзімір быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі. Іван працаваў дырэктарам сярэдняй школы горада Граева Беластоцкай вобласці.

У акупіраваным Мінску Іван сустрэў сяброў па інстытуце, якія мелі сувязь з Мінскім падполлем. Пачынаючы са студзеня 1942 года, да нас заходзілі падпольшчыкі З. Гала, Э. Шчасны, Я. Шымановіч, М. Саўчык, І. Анікееў, а ў красавіку гэтага ж года наладзілася сувязь з Лагойскім падпольным РК КП(б)Б. Хата наша (Дабралюбаўскі праезд, 13) стала явачнай кватэрай.

У ліхую часіну 1943 года, 10 лютага, у мяцеліцу і сцюжу, з Лагойскага раёна прыбылі Іван і чалавек, якога мы раней ні разу не бачылі. Ён назваў сябе: «Валодзя. Я настаўнік

з-за лініі фронту». На вуснах і ў вачах у нас засвяціліся шчырыя ўсмешкі. Мы абдымаліся адзін з адным, цалаваліся. Вялікая тады радасць прыйшла ў наш дом!

«Настаўнік» быў апрануты ў кажух, на нагах былі валёнкі, і ён нічым не адрозніваўся ад іншых хлопцаў. Валодзя распрануўся і стаў выглядаць стройным, падцягнутым, на выгляд ён меў не больш за трыццаць год.

Тады Валодзя прабыў у акупіраваным Мінску дзесяць дзён. Ён расказваў пра становішча на фронце, пра працу людзей у глыбокім тыле: «Усё для фронту, усё для перамогі!» Мы радаваліся кожнаму нашаму поспеху і таму, што ў такі цяжкі час з намі аказаўся пасланец Вялікай зямлі. У сваю чаргу мы як маглі не давалі спуску ворагу. Аб Валодзю мы клапаціліся, аберагалі, дапамагалі выконваць заданні.

У нашай хаце наладжваліся сустрэчы з мінчанамі-падпольшчыкамі. Тут Валодзя сустрэўся і з хлопцамі 47-га ўкраінскага батальёна. Па яго рашэнні пачаўся актыўны пераход нацыянальнага батальёна са зброяй у розныя партызанскія атрады.

...Зноў сустрэліся мы з Карпавым праз трыццаць год пасля Перамогі. Гэта адбылося ў яго на кватэры, калі ён быў зусім хворы, перажыў клінічную смерць. Уладзімір Барысавіч быў ужо сівы, а ў партызанскай групе за чорныя вочы і цёмную шавялюру звалі яго «Валодзя-чорны». Аднак ён здаўся яшчэ больш сімпатычным, чым раней. Уладзімір Барысавіч меў ужо творчы стаж. Ім было напісана некалькі раманаў. Усе свае творы ён з аўтографамі падараваў нашай сям'і: «Дарагой сям'і

Луцкіх, якая хавала і карміла мяне ў ліхія ваенныя дні. Дзякуй Вам за ласку, клопаты і дапамогу. З глыбокай павагаю. Ул. Карпаў».

Сустрэчы нашы з Уладзімірам Барысавічам і яго сям'ёй працягваліся да апошніх дзён яго жыцця. Ён многа працаваў, але заўсёды быў рады сустрэчы. Казаў: «Не магу сядзець без справы. Адпачываць няма часу, трэба пісаць, падрамантуюся крыху і зноў за працу. Трэба яшчэ многа пра што сказаць!»

Смерць абарвала жыццё нашага баявога таварыша, любімага пісьменніка, добрага чалавека Уладзіміра Барысавіча. Незабыўная светлая памяць назаўжды застанецца ў нашых сэрцах.

*Алесь Матусевіч*

# ПАСЛАНЕЦ З ВЯЛІКАЙ ЗЯМЛІ

## Сустрэча ў падполлі

З Валодзем Карпавым я сустрэўся ў Мінскім падполлі зусім нечакана. Соня Куніцкая, якая па даручэнні Лагойскага падпольнага райкома партыі наведала мяне, на гэты раз з'явілася з іншым заданнем.

— Сёння ніякіх даручэнняў райкома не будзе. Але ўвечары...

Яна зайшла са мною ў суседні пакой і, прыцішыўшы голас, падрабязна растлумачыла, што я павінен сустрэцца з адным чалавекам на Балотнай станцыі.

Так я апынуўся на Дабралюбаўскім праездзе ў зусім яшчэ новым дамку маладога гаспадара Івана Луцкага.

Зайшлі ў хату. З бакоўкі, з-за паркалёвай занавескі між шафаў, не выходзіць, а ледзь не выскоквае рухавы незнаёмец. Схапіў маё паліто, павесіў на цвічок у касяку дзвярэй і, пранізліва, неяк шчыра ўглядаючыся ў мой твар, пачаў вітацца.

— Я — Валодзя,— адрэкамендаваўся.

Па знешнім выглядзе, па свежасці твару, амаль новай гімнасцёрцы і добрых валёнках на нагах раблю вывад, што гэта, як гаварылі

ў нас на Лагойшчыне, «нянаські» чалавек. Тутэйшых мінчан, схуднелых і абношаных за вайну, можна было пазнаць і адрозніць нават па твары.

— Адкуль жа самі будзеце? — неяк раптоўна спытаў я.

— Адтуль я, дарагі Алесь! — сказаў Валодзя і лёгкім кіўком вялікага пальца паказаў на ўсход, сцвердзіўшы тым самым, што прыбыў ён з-за лініі фронту.

Разгаварыліся. А Соня тым часам выйшла ў двор, каб падстрахоўваць нас ад выпадковага з'яўлення няпрошаных «гасцей».

Валодзя цікавіўся ўсім. Ён старанна «вывуджваў» усё тое, што, можа, вядома толькі табе. Інтрыгавалі яго паводзіны белаэмігрантаў, іх захады ў акупіраваным Мінску, цікавіла размяшчэнне ў горадзе фашысцкіх адміністрацыйных улад і парадак доступу ў іх установы.

— А як лягчэй прайсці ў гарадскую ўправу?

— А ці праўда, што генеральны камісарыят з плошчы Свабоды перасяляецца на вуліцу Карла Маркса?

— А ці ёсць звесткі пра падрыхтоўку блакады супраць партызан Лагойска і сумежных раёнаў?

Далікатна, не цягнучы за язык, ён распытваў пра паводзіны ў Мінску беларускай інтэлігенцыі, што не паспела эвакуіравацца, распытваў, як выглядае і што робіць тут у Мінску нямецкі паслугач Ермачэнка.

Адчувалася, што наш госць, які яшчэ мала пахадзіў у варожым асяроддзі, хоча дакрануц-

ца да яго асабіста сам, даведацца пра нешта такое, пра што ведаеш толькі ты адзін.

— А што за тып гэты фашысцкі рэдактар Казлоўшчык?

— Першы даносчык у СД. Амаль штодня бегае да нейкага Шлегеля. Апошнім часам нахабна звоніць яму па тэлефоне. Усё насвятляе, як гаворыць ён, «пра настроі мінчан».

— Як, як? Кажаш «насвятляе»?! Вось паганец, недавучаная брыдота! Няма на яго партызанскай кулі...

І Валодзя ледзь не палез у кішэню, каб занатаваць упершыню пачутае ім слова «насвятляе». Я аж здзівіўся гэтай яго цікаўнасці да слова. А калі пасля вайны падобныя выразы я сустрэў у надрукаваных успамінах Валодзі, мне стала зразумела, што гаварыў я тады не толькі з партызанскім разведчыкам, але і з будучым пісьменнікам.

За некалькі дзён знаходжання ў Мінску мой, цяпер ужо добра знаёмы пасланец з Вялікай зямлі паспеў пабываць на явачных кватэрах многіх падпольшчыкаў. Наведаў доктара Яўгена Клумава, на кватэры Пятра Фінкевіча сустрэўся з прафесарам Мікалаем Дарожкіным і папрасіў яго:

— Зрабіце, Мікалай Апанасавіч, так, каб як мага меней каштоўных дакументаў Беларускай акадэміі трапіла ў нямецкія рукі, забірайце іх і хавайце ў тайніках, яны яшчэ спатрэбяцца нам...

У тыя лічаныя дні знаходжання ў Мінску Валодзю ўдалося правесці важную інструктыўную нараду з абстралянымі ўжо падпольшчыкамі Вікенціем Шацько, Захарам Гала і Лідай Дзявочкай.

Пазней, праз дваццаць гадоў, ён прыгадае тую незабыўную нараду і сустрэчы і вось што напіша пра развітанне з баявымі сябрамі з падполля: «Я адыходзіў першы. Развітаўся і ўбачыў, што не аднаму мне сумна ад гэтага развітання.

Справы, здавалася, разгортваліся шчасліва. Сяброў станавілася ўсё больш. І якіх сяброў! Але трывожыла думка: ці ва ўсіх хопіць вытрымкі чакаць — ідзе ж вайна! — пакуль тое, што стваралася, прыйдзе ў рух і ты зоймеш вызначанае табе месца, адчуваючы побач плячо нябачнага, надзейнага друга, а за спінаю — цэлую дзяржаву».

## Госць у Будах

Ёсць на Лагойшчыне невялічкая вёсачка Буды, дзе ў вайну вельмі часта спыняліся партызанскія разведчыкі. Нейкі час жыў там і я са сваёй сям'ёю. Вёсачка невялічкая, паміж хат сажалка з велізарным каменем-валуном — сведкай колішняга аледзянення. А навокал Лысая і Сухая горы, узвышшы, пакрытыя стройным ельнікам, бярозай і арэшнікам. Прыгажосць, як у Швейцарыі.

Неяк позна ўвечары з Іванам Багушэвічам і Пятром Башкевічам я вяртаўся з баявога задання з-пад Мінска. На дварэ была жнівеньская цяплынь. Пахла толькі што высушаным сенам, звінелі конікі. Міжволі цягнула на сена, на адпачынак.

— Куды ты пойдзеш? — сказала жонка.— Там жа чалавек спіць.

— Які чалавек?

— Карпаў прыехаў! Памятаеш, што ў Мінску быў.

Давялося паслухаць. Не трывожыць жа госця ўначы. А раніцою, як толькі бліснула сонца, я быў ужо на гумне.

— Пара паднімацца, сонца ўзыходзіць! — сціха гукнуў я на ўсю пуню.

З тарпы сена прыўзнялася галава. А потым паволі з'ехаў уніз на гліняны ток чалавек з аўтаматам. Сам раскудлачаны, пераспелы стары сівец павіс на гімнасцёрцы і штанах.

— Валодзя! — крычу я.— Адкуль гэта?

— Вяртаюся з-пад Мінска. Другі месяц, як у вашых краях. Захацелася сустрэцца, пагаварыць, сёе-тое ўдакладніць. Цяпер я ў «Суседзяў». Ведаеш такіх?

І тут жа пачаў хваліць мяккую партызанскую пасцель на сене.

— Ах, як смачна спалася ў гэтай пуньцы! Чуеце, як там ластаўкі шчабечуць?

І мы зноў падняліся на сена, каб паляжаць і пагаварыць, пакуль жанчыны згатуюць у хаце Азаронка партызанскі сняданак. Тут, у пуньцы, дзе няма лішніх вушэй, было ямчэй пагаварыць пра нашы партызанскія справы.

Чаго мы на тым сене не перагаварылі тады! А закончылі ледзь невыпадкова ўзнікшымі пытаннямі аб ролі пісьменніка ва ўсенароднай барацьбе з фашызмам.

— Ты чытаў «Насуперак лёсу» Рыгора Мурашкі?

— Чытаў,— кажу.— І не толькі чытаў... Сёе-тое нават раіў аўтару, як лепш рабіць.

— Што ён хацеў сказаць гэтым раманам?

— На жаль, немцы зразумелі, чаго хацеў аўтар. Толькі, на шчасце, зразумелі са спаз-

неннем, калі раман дадрукоўваўся. Сам галоўны цэнзар Шрэтар даў загад: «Спыніць павучальныя лекцыі для партызан».

Не доўга давялося мне растлумачваць Уладзіміру Барысавічу пра хітрую задуму аўтара рамана, пра тое, што ў аснову яго для маскіроўкі быў пакладзены гістарычны факт з дзейнасці на Гомельшчыне арганізацыі анархістаў пад кіраўніцтвам Савіцкага. Канспірацыя ў той арганізацыі была першакласная. Некалькі гадоў за тымі падпольшчыкамі ганяліся царскія жандары па ўсёй Гомельшчыне і не маглі нікога схапіць.

— Ясна,— сказаў Валодзя.— Такі раман трэба было чытаць і перачытваць кожнаму яшчэ не спакушанаму падпольшчыку.

— Невыпадкова ж,— напомніў я,— тады так расхадзіўся галоўны цэнзар: «Дзе той шляпа Казлоўшчык? Чаму ён дазволіў друкаваць парады для падпольшчыкаў?!»

Відаць было, што Валодзю падабалася гэтая задума з раманам, і ён сказаў:

— Як бы я хацеў пабачыць Рыгора Мурашку. Ён жа шмат чаго ведае пра тое, як распінаюцца «спадары» ў Мінску.

— Будзе і такая магчымасць,— запэўніў я.— Праз тыдзень Рыгор пакіне Мінск. Дадзена яму такая каманда. Будзе працаваць у нашай групе і пісаць кнігу пра партызанскую вайну.

Уладзімір Барысавіч яшчэ раз прылёг на свежае сена, але, пачуўшы нейкі гоман на гумне, падняўся. Па дарозе ў хату спытаў:

— Фельетоны Кузьмы Чорнага «Кат у белай манішцы» чытаў?

— Нават прывітанне лётчыкі перадалі ад

аўтара. Гэта ж мой стары знаёмы. Пяць гадоў разам у «Беларускай вёсцы» працавалі. Здорава бічуе ён акупантаў! Мова ж у яго — багацейшая. Вы знаёмы з яго раманамі?

— Прызнацца, не ўсё чытаў. Скончыцца вайна — абавязкова вазьмуся. Як ён глыбока адчувае душы людскія. Талстой у беларускай літаратуры.

**«Неваенная» размова**

З Валодзем я часта сустракаўся пад Мінскам. Ён са сваёй групай аператыўных работнікаў, я — са сваімі людзьмі. Кожны выконваў свае заданні, вышукваў балючыя месцы ў ворага, вывучаў яго задумы і планы, абясшкоджваў іх здзяйсненне.

Днявалі мы часта ў пералесках або на канспіратыўных кватэрах пад самым носам у ворага ля Мінска. Сядзім, бывала, у Зарэччы або ў Броўках і чакаем, пакуль сонца сядзе за лес, калі пачнуць з'яўляцца нашы людзі з горада. У хаце ў такі час людна. Адны чытаюць нейкія старыя кніжкі, прынесеныя гаспадаром з гары, другія, прыхінуўшыся на лавах ці проста на падлозе, адпачываюць.

А Уладзімір Барысавіч у такіх выпадках ледзь не лекцыі чытаў. Прыляжа на канапу або пахаджвае па хаце і ўсё расказвае. То пра жыццё Горкага, то пра Герцэна і Чарнышэўскага або пра Кузьму Чорнага.

— Хто з вас, хлопцы, чытаў «Мае універсітэты» Максіма Горкага? Якія суровыя выпрабаванні былі ў чалавека. І кім стаў ён пасля. Вось што значыць волатаўская сіла

волі, пякельная праца чалавека, неўтаймаваная прага здзейсніць сваю мэту.

Пазней, калі я чытаў апублікаваныя біяграфічныя нататкі ўжо сталага пісьменніка Уладзіміра Карпава, мне прыгадаліся тыя яго размовы ў сялянскай хаце ў вёсцы Броўкі. Радкі з яго пісьменніцкай споведзі былі падобны на тую размову з хлопцамі-партызанамі.

Тады, у дні суровых выпрабаванняў, людзі неяк іначай рэагавалі на такія гутаркі.

— Не ваенная размова ў нас, Уладзімір Барысавіч,— нібы ў жарт буркнуў нехта за сталом.

Валодзя ледзь усміхнуўся і, супыняючы павольны рух па хаце, сказаў:

— Пачакай, браток, яшчэ паглядзім, як ты заўтра будзеш выводзіць палонных з масюкоўскіх лагераў. На гэта таксама патрэбны і воля, і рашучасць. Вайна, ды з такім каварным злодзеем, як Гітлер, таксама патрабуе розуму і сілы волі.

Пасля вайны пры сустрэчах сяды-тады мы прыгадвалі тыя незабыўныя паходы пад Мінск і аперацыі ў горадзе. Успаміналі такіх баявых нашых памочнікаў з Зарэчча, як дзядзька Петрыкаў і юная патрыётка Феня Веленд, як сем'і братоў Івана і Міколы Дразда, Сяргея Пашкевіча.

— А памятаеш,— сказаў я аднойчы,— памятаеш свае гутаркі ў Броўках, што гаварыў тады пра Максіма Горкага ды Кузьму Чорнага, як захапляўся Чарнышэўскім?

— Як жа не захапляцца... Такі геній бунтара, сіла розуму і жалезнай волі. За чатыры месяцы ў турме раман «Што рабіць?» напісаў.

Толькі падумай, што запісваў ён у сваіх дзённіках, калі працаваў педагогам: «Я раблю тут такія рэчы, якія пахнуць катаргай... Я пра такія рэчы гавару ў класе». Вось што такое Чарнышэўскі! Ды, урэшце, я ганаруся ім як сваім земляком. Я ж таксама нарадзіўся на Саратаўшчыне. Ну, а што датычыць Чорнага, то ш пасля вайны цэлае даследаванне аб яго творчасці апублікаваў.

### Адкуль тая моц у чалавека...

Вёска Сярпішчына на Лагойшчыне. Сонечным сакавіцкім днём я спускаўся з гары, каб наведаць у суседнім доме Рыгора Мурашку. На левым баку вуліцы, за шчыльнай высокай агароджай пачуў гоман. Адчыняю браму.

— Га-а! Гэта ты, Алесь! — гукае Валодзя.— Давай з намі пад Мінск. Разам будзе лягчэй прабівацца праз гравійку.

— Добра,— кажу,— мы таксама сёння ідзём. Недзе за Жукаўкай нагонім вас.

Але ў той раз мы не нагналі сваіх баявых сяброў ні за Жукаўкай, ні за Гаянамі. Толькі ў Бяларучах на спуску да ракі заўважылі некалькі чалавек у белых халатах з аўтаматамі за плячыма. Гэта і былі яны, «масквічы» з Сярпішчына.

Мы далучыліся і пайшлі разам на Вячу, на Мачаны. А там, калі сцямнела, праслізнулі праз небяспечную для нас шашу Мінск — Радашковічы і апынуліся, як любіў падкрэсліваць Валодзя, «на сваім аператыўным прасторы».

Мы ішлі пад Мінск, і ў кожнага былі свае

заданні, пра якія ведаў толькі камандзір групы ды выканаўца. Ішлі не дарогамі, а сцежкамі, па якіх рэдка хто ходзіць у мірны час. Прабіраліся праз зараснікі, чапляліся за кусты і ледзь не перапаўзалі праз рачулкі па леташніх кладках з двух альховых ці асінавых калоў.

За Сёмкавым у хлопцаў развязаліся языкі — мы набліжаліся да сваіх старых пунктаў у Зарэччы і Банцараўшчыне. Першым загаварыў Дзіма Петухоў:

— Ну як, Валодзя? Ногі ў парадку?

Валодзя смяецца. Бывалы партызан, які прайшоў па дарогах Беларусі і Расіі не адну сотню кіламетраў, глядзіць на сённяшні пераход як на забаву.

— Што мне ногі? Яны ў мяне яшчэ ў дзяцінстве гартаваліся.

І пачаў расказваць, як ён яшчэ хлапчуком, уцякаючы ад голаду ў Паволжы, пачаў працаваць на Камарыншчыне, пад Гомелем. Ганяў у поле статак, вадзіў коней на начлег. А як падняўся крыху, паступіў на лесапільны завод.

— Вось там і гартавала мяне работа. Насіў і складаў дошкі, адвозіў тырсу з качагаркі, быў цыркулярштчыкам і качагарам. Адным словам, былі і мазалі, і загартоўка на ўсё жыццё.

### Над кнігаю «Скрозь агонь і смерць»

Адгрымелі апошнія залпы самай жудаснай і крывавай сусветнай вайны. Краіна залечвала балючыя раны, з руін і папялішчаў узнімаліся

гарады, сёлы. А на кніжных паліцах з'яўляліся і новыя кнігі. Таксама і кнігі Уладзіміра Карпава — партызана-разведчыка, удзельніка гістарычнай бітвы савецкага народа з фашызмам.

Сустракаю Валодзю, віншую з творчымі ўдачамі. А ён:

— Ведаеш, Алесь, і ўсё ж не ўсё яшчэ сказана. Пра адно Мінскае падполле можна стварыць новую «Вайну і мір». Колькі гераічных падзей яшчэ носяць людзі ў сваёй памяці. А колькі некранутых дакументаў ляжыць у сховішчах, архівах.

— Дружа! Дык ты сам пачынай. Пакуль яшчэ людзі тыя жывуць.

— А я сёе-тое задумаў. Раіўся ў выдавецтве, гаварыў з былымі падпольшчыкамі. Што, калі выдаць калектыўны зборнік успамінаў былых байцоў Мінскага падполля? Давай, брат, пішы сам, Сцяпана Казанцава мабілізуй.

Гэта была новая нагрузка для пісьменніка пасля выхаду ў свет чатырох яго раманаў, пасля з'яўлення дзвюх кніг па крытыцы. Няўрымслівы чалавек зноў прыкаваў сябе да стала, каб правіць і даводзіць да ладу рукапісы тых, хто ўмеў добра біць ворага, але не ведаў, як лепш расказаць пра гэта сваім нашчадкам.

У 1970 годзе кніга «Скрозь агонь і смерць» выйшла ў свет. Яе 50-тысячны тыраж разышоўся за паўтара месяца. Здавалася, пісьменніку можна было і адпачыць з паўгода. А яму не сядзіцца. Ён шукае новых тэм, чэрпае матэрыял з перажытага, з уласных уражанняў. Так нарадзілася і выйшла ў свет яго новая кніга — «Прызнанне ў нянавісці і любві».

Гаротнае дзяцінства з нястачамі і голадам,

гады вайны, праведзеныя ў рызыкоўных паходах і барацьбе з ненавіснымі акупантамі, знясілілі трапяткое сэрца пісьменніка-байца. Ён жаліўся на хваробу сэрца. Але і лежачы ў бальніцы, ён мроіў пра свой родны Мінск.

— Алесь,— сказаў ён, калі я наведаў яго,— схадзіў бы ты да Цімчука. Паглядзі, што робіцца ў гарадскім парку. Высякаюць святыя дрэвы, на якіх вешалі людзей, дрэвы, палітыя крывёю мінскіх падпольшчыкаў.

І з вачэй Валодзі скацілася сляза. Трывожылася душа пісьменніка, болем адгукалася перажытае ім.

*Іван Новікаў*

# І ПІСЬМЕННІК, І ГЕРОЙ

Працуючы ў партархіве, я аднойчы натрапіў на даволі цікавую дакладную запіску пра становішча спраў у акупіраваным фашыстамі Мінску. Абазначана яна была сорак другім годам. Пад ёй стаяў подпіс: «Учитель». Я пацікавіўся, хто аўтар запіскі. Мне сказалі:

— Уладзімір Карпаў.

«Цікавае супадзенне»,— падумалася тады. Нагадаўся мне вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Карпаў, з якім я ў той час быў яшчэ мала знаёмы. Але ў маёй практыцы сустракалася нямала людзей з аднолькавымі імёнамі і прозвішчамі. Ды і ў мяне самога толькі ў Беларусі вунь колькі цёзак.

Памяць зачапілася за гэты факт, але не так моцна, каб звярнуцца да самога Уладзіміра Барысавіча за тлумачэннямі. Тым больш што звесткі, прыведзеныя ў дакладной запісцы, не клаліся ў канву маёй будучай кнігі.

Ужо завяршаючы працу над дакументальнай аповесцю «Руіны страляюць ва ўпор», я напаткаў у архіве выключныя па цікавасці справаздачы членаў спецгрупы «Мсціўцы» Аляксандра Камінскага, Яўгена Кунцэвіча і

Івана Шнігіра пра тое, як былі знішчаны фашысцкія паслугачы — бургамістр Мінска Вацлаў Іваноўскі і рэдактар «Беларускай газэты» Уладзіслаў Казлоўскі. Матэрыял гэты мог стаць асновай займальнага дэтэктыва, які я і намерыўся напісаць.

Аднак мне прапанавалі зрабіць не дэтэктыў, а новую дакументальную аповесць.

— Навошта табе хаваць за выдуманымі прозвішчамі сапраўдных, рэальных герояў. Гэта было б несумленна ў першую чаргу перад памяццю тых, хто загінуў у барацьбе з фашыстамі. Вывучай дакументы спецгрупы і пішы...

Дакументаў набралася шмат — вялікі стос папак. І я засеў за іх.

Гартаю, чытаю, і зноў трапляю на данясенні з подпісам «Учитель». І там жа тлумачэнне: «Учитель» — псеўданім Уладзіміра Барысавіча Карпава, які быў уключаны ў спецгрупу «Мсціўцы» як выдатны разведчык. Ён у 1942 годзе ўжо быў у Мінску, выконваў тут разведзаданне.

Мне параілі абавязкова пагаварыць з самім Карпавым, распытаць у яго пра дэталі з дзейнасці спецгрупы.

Мяне, як і кожнага, хто апынуўся б на маім месцы, здзівіла: вядомы пісьменнік удзельнічаў у такіх выдатных баявых і разведвальных аперацыях, сам усё бачыў, перажыў, а не напісаў пра перажытае нічога. Чаму? Не таму ж, што недаацэньваў вядомыя яму факты і падзеі. І першае, пры нашай размове,— я спытаў яго пра гэта.

Уладзімір Барысавіч паціснуў плячыма, неяк вінавата ўсміхнуўся:

— Калі гаварыць шчыра, то я не магу

брацца за гэты матэрыял. Занадта ён блізкі мне. Ведаеце такую асаблівасць зроку: калі паднесці кніжку да самых вачэй, то літары расплываюцца. Нешта падобнае і ў мяне. Усё перажытае і дагэтуль яшчэ балючае, жывое. Патрэбен нейкі час, каб убачыць яго на адлегласці, вачыма пабочнага чалавека. Тады менш будзе суб'ектывізму ў ацэнках людзей і падзей.

І я добра зразумеў яго. Я і сам не магу яшчэ пісаць пра перажытае пад Харкавам і Сталінградам, пра баі на Украіне і пад Будапештам. Вельмі асабістым здаецца ўсё гэта. Такі адказ Карпава супакоіў мяне, бо я баяўся, каб ён не ўспрыняў мой намер напісаць пра «Мсціўцаў», як спробу ўмяшацца ў яго сферу, перайсці яму дарогу.

— Ні ў якім разе! — замахаў ён рукамі.— Абавязкова бярыцеся і пішыце. Вы не закранеце маіх творчых планаў. Я пачынаю пісаць аб гэтым жа, але белетрыстычны твор, раман. А вы рабіце дакументальную кнігу. Адно аднаго не выключае. І я абяцаю памагаць вам чым толькі магу.

Атрымалася якраз так, што мы працавалі паралельна: я над дакументальнай аповесцю «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», а ён над раманам «Нямігі крывавыя берагі». Я многа разоў хадзіў да Карпавых, якія жылі тады на рагу вуліц Карла Маркса і Энгельса. Цэлыя вечары слухаў я ўспаміны Уладзіміра Барысавіча.

Цяпер я шкадую, што не было тады ў мяне дыктафона, ды і запісаў я з пятага на дзесятае ў свой блакнот, усё спадзяваўся на памяць, на якую тады не мог паскардзіцца. Памячаў толь-

кі самае галоўнае, напамінкі — чаго б не прапусціць. Да таго ж разлічваў, што Уладзімір Барысавіч удакладніць, калі што не так напішу. Праўда, асаблівыя папраўкі не спатрэбіліся. Але цяпер усё больш пераконваюся, што запіс на дыктафонную ленту расказаў Уладзіміра Барысавіча меў бы вялікую каштоўнасць для тых, хто вывучае гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

Дарэчы, пры жыцці заслужаных, цікавых людзей мы неяк саромеемся захоўваць сляды іх творчай дзейнасці, іх вонкавы вобраз, іх голас. Быццам яны надзелены бессмяротнасцю. А не стане чалавека, і толькі тады спахопліваемся: як жа гэта мы ўпусцілі! А тады ўжо нічога нельга паправіць.

У той час мяне памяць не падводзіла, затое цяпер не магу прыгадаць усяго, што і аб чым гаварылася пры нашых сустрэчах. Зразумела, значная частка з пачутага ад яго ўвайшла ў маю кнігу, дзе Карпава я паказваю пад уласным імем і прозвішчам. Але далёка не ўсё з пачутага ад яго змешчана ў кнізе. Проста таму, што кніга не пра яго аднаго.

З ім жа было лягчэй, чымсьці з іншымі «мсціўцамі», бо ён добра разумеў, што мне трэба.

Але бывала і так, калі я дабіваўся якой-небудзь дэталі.

— Далібог жа, забыўся,— гаварыў ён.— Спытайце лепш у Фамы Фаміча Хвясько, у яго фенаменальная памяць. А можа, з Дзімам (Змітраком Сафронавічам Петуховым) сустрэнецеся?..

Ён, як я і прасіў, гаварыў толькі пра тое, што добра помніў, а калі што забыў, то аба-



Уладзімір Карпаў з жонкай Марыяй. 1936 г.



Настаўнік У. Б. Карпаў.
1940 г.



Карпавы з сынам Валодзем. Урал, 1943 г.



Уладзімір Карпаў з баявым сябрам Уладзімірам Кананавым. Мінск, ліпень 1944 г.



З Міхасём Машарам. 1948 г.



Уладзімір Карпаў.
1950 г.



У. Агіевіч, І. Грамовіч, І. Шамякін, П. Пестрак,
У. Карпаў. 50-я гг.



З жонкай і дачкой Людай. 1952 г.



З карэйскімі пісьменнікамі. Сядзяць (злева направа): І. Шамякін, К. Крапіва, І. Гурскі. Стаяць: У. Карпаў, Р. Сабаленка, Я. Скрыган, Я. Васілёнак, І. Грамовіч, Ф. Алер, А. Бажко, У. Навіцкі, М. Калачынскі, І. Мележ, М. Танк



У. Карпаў.
Малюнак выкананы
яго знаёмым



На сустрэчы з партызанамі і падпольшчыкамі Лагойшчыны. 1963 г. У цэнтры сакратар падпольнага райкома партыі, Герой Савецкага Саюза І. М. Цімчук, злева ад яго Герой Савецкага Саюза М. Б. Осіпава, другі справа У. Б. Карпаў



Раман Сабаленка, Алесь Бачыла, Уладзімір Карпаў. 70-я гг.



З рускім пісьменнікам, Героем Савецкага Саюза Уладзімірам Васільевічам Карпавым. Дубулты, 1971 г.



Творчы вечар у тэхналагічным інстытуце з нагоды 65-годдзя У. Б. Карпава. У прэзідыуме: М. Аляксееў, І. Грамовіч, М. Б. Осіпава, І. Шамякін, А. Асіпенка. 1977 г.



Уладзімір Барысавіч сярод студэнтаў
тэхналагічнага інстытута. 1977 г.



Уладзімір Барысавіч
Карпаў. 1972 г.

вязкова і настойліва прасіў удакладніць у другіх членаў групы.

Мне давялося многа разоў і грунтоўна гутарыць з усімі разведчыкамі групы «Мсціўцы», і я заўважыў, як усе яны глыбока зацікаўлены, каб пра іх работу (а дзейнасць групы яны называюць работай) было сказана толькі тое, што было на самой справе, без выдумкі. Яны нікому не даравалі, калі хто пачынаў выхваляцца. Карпаў добра ведаў гэта і мяне засцерагаў:

— Лепш недагаварыце, чым скажаце лішняе, а то бяды не абярэцеся. Не даруюць вам лішняга.

У групе так заведзена — рэгулярна, пры любой нагодзе збірацца, абмяркоўваць, хто як жыве, каму і чым можна і трэба памагчы. І Карпаў удзельнічаў у такіх сустрэчах. Ішлі гады, а «Мсціўцы» так і трымаюць адзін аднаго ў полі зроку.

Пасля я зразумеў, што гэта быў той бок жыцця Уладзіміра Барысавіча, пра які ён нікому пабочнаму не гаварыў. Відаць, лічыў, што ўсё, звязанае са спецгрупай, глыбока асабістае.

Гэта не значыць, што ён пазбягаў людзей, не любіў кампаній. Калі збіраліся пісьменнікі, то з асалодай расказваў вясёлыя гісторыі і анекдоты і сам смяяўся ад душы. А калі разгараліся творчыя спрэчкі, то гаварыў горача, азартна, з запалам.

Але ніколі ён не сказаў лішняе, тое, што не трэба. Можа, работа разведчыка навучыла яго гэтаму.

Такая асцярожнасць не мела нічога агульнага з баязлівасцю. Чалавек ён быў мужны,

смелы, і калі трапляў у небяспечныя і складаныя абставіны, не губляўся, знаходзіў правільны выхад. У кнізе я расказаў пра некаторыя эпізоды, калі з асаблівай сілай праявіліся мужнасць і знаходлівасць баявога разведчыка Уладзіміра Карпава.

Ды і ў размовах з таварышамі па пяру і ў сваіх крытычных артыкулах ён не баяўся сказаць чалавеку праўду ў вочы. А як спрэчка мела яшчэ і прынцыповы, ідэйны характар, то ён гатовы быў парваць дружбу з самым блізкім яму чалавекам, калі той хоць у малой ступені адыходзіў ад прынцыповых пазіцый. Ён ніколі і нікому не дараваў ідэйных хібаў.

Не раз мы гутарылі з ім на літаратурныя тэмы. Ён любіў гаварыць аб справе свайго жыцця, аб сваёй нялёгкай прафесіі. Я бачыў, як балюча перажываў ён неаб'ектыўныя ацэнкі, якія давалі крытыкі не толькі яго асабістым творам, але і творам іншых пісьменнікаў. Яго абуралі групаўшчына, снабізм, выражэнне асабістай непрыязні ў крытычных артыкулах пры аналізе літаратурных твораў. Здаралася, што такія неаб'ектыўныя ацэнкі ягоных раманаў нядобрасумленнымі крытыкамі даводзілі яго да хваробы.

— Як гэта можна ператварыць літаратурную крытыку ў расправу над пісьменнікамі, якіх ты чамусці не ўпадабаў! — абураўся ён.— Гэта ж чорт ведае што! Такіх гора-крытыкаў нельга блізка дапускаць да друку.

Любіў Уладзімір Барысавіч выступаць перад чытачамі, сустракацца з імі, гутарыць. Скарыстоўваў для гэтага любую магчымасць. Мне даводзілася разам з ім быць на канферэнцыях чытачоў па кнізе «Дарогі скрыжава-

ліся ў Мінску». На такія канферэнцыі і заўсёды хадзіў разам са сваімі героямі. У адрозненне ад другіх сваіх паплечнікаў па спецгрупе Уладзімір Барысавіч выступаў у дзвюх іпастасях: як удзельнік гераічных падзей і як аўтар вядомых раманаў.

Прыгадваю адну партызанскую сустрэчу ў лесе за Рацькавічамі. Быў там традыцыйны касцёр, раскінулі свае палаткі гандлёвыя работнікі, але найбольш людзей сабралася каля кніжнага кіёска. Былыя партызаны пасталі ў чаргу, каб купіць кнігі свайго баявога сябра Уладзіміра Карпава з аўтографамі аўтара. Большасць пакупнікоў была знаёма яму, кожнаму ён паціскаў руку. Я бачыў яго тады шчаслівым.

Апошні раз мы сустрэліся на адкрытым партыйным сходзе. Быў ён бледны, хваравіты, ды і я тады толькі што выйшаў з бальніцы. Са сходу нам было па дарозе, мы павольна крочылі цераз парк імя Горкага. Гаварылі пра падзеі літаратурнага жыцця, пра работу. Ён падрабязна распытваў пра маю хваробу, даў некаторыя парады і на развітанне сказаў:

— Давайце трымацца на нагах! Нельга раскісаць, паддавацца хваробам.

Паціснуў руку, памахаў, як адышоўся цераз вуліцу. Не думалася тады, што бачыў яго апошні раз, і цяжкі душэўны боль сціскае горла пры ўспаміне аб гэтай апошняй сустрэчы.

## *Уладзімір Юрэвіч*

# МОЙ ЦЁЗКА

1945 год. Яшчэ ішла вайна. Мінск ляжаў у руінах, па вечарах як бы апускаўся ў цемнату. Маскіроўка святла не знімалася, нашы войскі дамалочвалі ворага ў яго логаве. Жыццё ж горада паціху ўваходзіла ў мірную плынь.

Газета «Літаратура і мастацтва» ўзнавіла свой выхад за месяц да Перамогі. Галоўным рэдактарам быў Аркадзь Куляшоў, яго намеснікам — Алесь Кучар. Памяшканне, дзе месцілася рэдакцыя, складалася з аднаго пакоя на першым паверсе ўцалелага дома Беларускага радыё па Рэвалюцыйнай вуліцы, 3.

Гэта быў доўгі пакой з адным акном, перад якім тырчэла сцяна суседняга дома, а таму працавалі ў прыцемках нават у сонечны дзень. З мэблі ў пакоі стаялі адзіны вялізны круглы стол-трафей (за ім, як казалі, харчавалася цэлая каманда гітлераўскай варты, што ахоўвала будынак радыё) ды чатыры стулы.

Увесь тагачасны штат рэдакцыі ўсаджваўся за гэтым, заўсёды загрувашчаным паперамі сталом. Тут прытыкаўся і я, каб з рэдактарам ці яго намеснікам пазнімаць пытанні ў матэрыялах, якія вычытваў перад здачай у на-

бор. Штатнай адзінкі стыльрэдактара не было, і гэтую работу давалі «на старану». Мне перападала больш, бо я заўсёды быў пад рукой — працаваў на радыё і жыў тут жа ў двары, у бараку.

За гэтым сталом часта ўзгараліся спрэчкі вакол пытанняў арфаграфіі і лексікі. Ніякіх нарматыўных даведнікаў не было. Выручаў тоўсты «Расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча, што выдадзены быў у 1928 годзе. Беларуская кніга стала за вайну бібліяграфічнай рэдкасцю. Слоўнік Байкова і Некрашэвіча моцна выручаў, хоць і лічыўся забароненым па сваім «нацыяналістычным» накірунку. Гэткі ярлык на яго паставілі тыя, хто вытручваў самабытна-нацыянальнае з нашай мовы і скіроўваў яе развіццё на рэйкі калькавання, сляпога набліжэння да рускай.

Слоўнік прыносіў у рэдакцыю прыгожы, стройны малады чалавек, не па гадах сур'ёзны і нават з выгляду суровы. Цёмныя, густыя, зачасаныя назад валасы яшчэ больш падкрэслівалі гэтую суровасць. Аднойчы, калі я зайшоў з чарговай «партыяй» вычытанага матэрыялу, за сталом сядзеў адзін ён, уладальнік слоўніка. І мы пазнаёміліся.

— Мяне завуць Валодзя, Уладзімір Барысавіч,— сказаў, падаючы руку, крыху старэйшы за мяне службовец і праз паўзу дадаў: — Карпаў.

— Мяне таксама — Валодзя, Уладзімір Міхайлавіч,— адказаў я і таксама праз паўзу дадаў: — Юрэвіч.

І мы шчыра так, дружна, гучна, трасучы адзін аднаму рукі, зарагаталі, ажно пошчак разлёгся па пустым пакоі.

— Цёзкі, значыць... Ваяваў? — гледзячы на маю вайсковага крою вопратку, запытаў Карпаў.

— Так, ваяваў, толькі без зброі...

— Як гэта, без зброі? — здзіўлена ўставіўся на мяне сваімі адкрытымі вачыма Уладзімір Барысавіч.

— А вельмі проста... Ваявалі мы на нябачным фронце, у эфіры... Слова было нашай зброяй.

— На радыё, значыць? — удакладніў цёзка.

— Так. На радыёстанцыі «Савецкая Беларусь».

— А, дык мы ж слухалі, слухалі вас тут, у Лагойскіх лясах і бліжэй, пад самым Мінскам.

— Вы партызанілі? — цяпер ужо я ўдакладняў.

— Трохі партызаніў, трохі разведчыкам быў...

Надышла няёмкая паўза, бо расказваць больш не выпадала, я спяшаўся на перадачу.

— Значыць, цёзкі?! Заходзь, заходзь, Валодзя. Я тут бываю штодзень у гэты час... Астатняе раблю ў друкарні...

Уладзімір Карпаў працаваў адказным сакратаром рэдакцыі «Літаратура і мастацтва». Пра гэта я даведаўся крыху пазней, калі сам зайшоў у друкарню, якая была цераз вуліцу.

Калі мы пазнаёміліся з Уладзімірам Барысавічам бліжэй, пачалі называць адзін аднаго на «ты», адным словам, пасябравалі, ён пакідаў у мяне, каб не насіць кожны раз дамоў, «Расійска-беларускі слоўнік». А мне гэта і трэба было, каб правяраць сябе і сваіх калег-дыктараў у шмат якіх пытаннях беларускага вы-

маўлення. І наогул, каб узнаўляць крыху забытае.

Нашы сустрэчы з Уладзімірам Карпавым станавіліся ўсё больш зацікаўленымі з абодвух бакоў, асабліва пасля таго, як ён перайшоў працаваць у часопіс «Полымя», а я вымушаны быў па стану здароўя кінуць дыктарства і ўзначаліў літаратурна-драматычнае радыёвяшчанне, замяніўшы на гэтай пасадзе Кастуся Губарэвіча. У той час мы наладжвалі чытанне раздзелаў з новых публікацый беларускай літаратуры. Доўжыліся яны звычайна па тыдню. Мы не чакалі, пакуль выйдзе чарговы нумар часопіса, а бралі ў рэдакцыі лісты карэктуры.

Вось тут, у рэдакцыі «Полымя», і пачынаўся першы абмен думкамі наконт новага твора. Узгараліся і спрэчкі, даволі актыўныя і працяглыя. З'яўляліся ў друку водгукі-рэцэнзіі або артыкулы, і гаворка прадаўжалася.

Уладзімір Карпаў апублікаваў свой першы празаічны твор — аповесць «Без нейтральнай паласы». Гэта быў 1948 год, калі друкаваўся і раман І. Шамякіна «Глыбокая плынь». Адным словам, гаварыць, спрачацца было пра што. А мы ж былі маладыя і гаваркія.

Памятаю, што гаварыў я цёзку перш-наперш пра цікавыя ў яго аповесці характары, пра іх патэнцыяльную глыбіннасць, якая, аднак, заставалася недараскрытай, бо слову, асабліва ў дыялогах, не ставала фарбаў, адпаведных канкрэтнай індывідуальнасці. Цёзка спрабаваў нешта даводзіць пра тое, што дыялог павінен несці галоўнае — ідэю. А калі ідэя правільная, адпаведная сацыяльнай скіраванасці характару, і калі гэта характар, напрык-

лад, камандзіра атрада, дык і слова ў ім не можа зніжацца да бытавога стылю.

— Твая ж аповесць ужо ў назве нясе галоўную думку, што партызанскі фронт змагання не мае нейтральнай паласы,— пярэчыў я яму,— дык і ў гаворцы партызан, камандзір ён ці радавы,— не павінна быць стылёвай нейтральнасці, карыстання толькі адной «расхожай» лексікай. У баях, у момант высокага эмацыянальнага напружання, слова ў чалавека будзе тое, што маці яму падаравала, што жыццё падкінула, а не прыдуманае за яго, нібы падказанае...

Цёзка доўга стаяў на сваім. Неўзабаве з'явіліся яго крытычныя артыкулы пра класічныя набыткі беларускай літаратуры, сабраныя пазней пад вокладкай «Па шляху сталасці». Там аўтар вымушаны быў прызнаць, напрыклад, што «Купала праз знамянальныя асаблівасці гаворак ды інтанацый раскрывае самую сутнасць намаляванага характару» або што «ў Коласа характар пераходзіць у мову, а мова робіцца формай раскрыцця гэтага характару». Гэта раззбройвала майго апанента. Калі я ў каторы ўжо раз звярнуў яго ўвагу на гэтую акалічнасць, Валодзя толькі і сказаў, тузануўшы неяк галавой угару:

— Дык то ж Купала, Колас...

Для мяне станавілася ўсё больш ясным, што У. Карпаў, не маючы грунтоўнай практыкі абыходжання з беларускім словам у гады маленства, якое праходзіла ў Паволжы, чыніў над сабой пэўны гвалт — пісаў не на роднай мове, якую, аднак, старанна рабіў сваёй. Відаць было, што цёзка мой настырна засвойвае стыль, лексіку таго ці іншага пісьменніка, асабліва

К. Чорнага, часта не задумваючыся над умовамі існавання пазычанага ў кантэксце. У. Карпаў мог паставіць усутыч спрадвечна беларускае «развінуліся» з калькаваным рускім «шырачайшыя» і зноў вярнуцца да беларускага «далягляды». І ён адстойваў гэткую, калі па сучаснаму сказаць, несастыкаванасць, а папросту — трасянку. Сустрэнеш пастаўленыя ўсутыч — «крэўная» і «рэвалюцыйная бойка» — і пачынаеш дакараць: «Байкоў з Някрашэвічам цябе падводзяць». Слухаў Валодзя заўсёды цярпліва, толькі кідаў сваё: «Варта яшчэ памеркаваць».

Часам прымерваўся цёзка да мовы газетнай: «Во дзе правільная, бездакорная фраза!» А ў той фразе, калі возьмеш яе «на зуб» — залішняя рафініраванасць афіцыйнага стылю, вельмі мала ад самабытнага, што не давала магчымасці насычаць фразу эмацыянальна. Уладзімір Барысавіч ніяк не пагаджаўся, што для беларуса такія словы, як «зларадстваваць» або «насілле» гучаць штучна, ненатуральна. Памятаю, што пагаджаўся толькі тады, калі даводзілася вылоўліваць выразы, якія зачасцілі былі ў яго літаратурна-крытычных артыкулах: «увасобіў у сабе» (калі ўвасобіў, значыць, «у сабе» тут лішняе) або «на вонкі» (калі «вонкі» ў сэнсе «напаверх», дык прыназоўнік «на» непатрэбен). Нарэшце-такі здаваўся і ўсё паўтараў: «Як нам патрэбны слоўнікі — параўнальных ідыём, сінанімічныя, тлумачальныя... Цэлая гама слоўнікаў. У нас жа не даследавана ні мова Купалы, ні Коласа, ні Чорнага...» І я з ім не мог не пагадзіцца.

Уладзімір Карпаў меў свой адмысловы почырк і сваю звычку пісаць толькі алоўкам, ды

яшчэ каляровым, часцей карычневым. Ён прыстаўляў літару да літары, не чапляючы іх адну за адну. Чытаць рукапіс было цяжка, правіць тым больш — старонку запаўняў шчыльненька, пакідаючы, можа, сантыметр, не больш, поля. Аднойчы не вытрываў, спытаў у яго: «Чаму ты такі скупы на паперу?» Адказаў: «Знарок так пішу, каб прымушаць сябе перапісваць, бо калі перапісваеш, яшчэ раз перадумваеш».

Уладзімір Барысавіч умеў слухаць слова, захапляцца ім, але ж быў і празмеру даверлівы да вопыту папярэднікаў, старэйшых. Чытаў шмат з беларускага, нават і тады, калі службовыя абавязкі не вымагалі гэтага. Не паспее выйсці свежы нумар «Полымя» або «Маладосці», як ён ужо пры сустрэчы «правакуе» цябе на гутарку з нагоды таго ці іншага твора.

Працаваў да самазабыцця і заўсёды быў гатовы сказаць сваё слова на людзях. У кожнай закранутай тэме ён умеў знайсці адмысловы паварот, каб не назаляцца ўжо вядомым. А сваё, вынашанае, часам настойліва прапагандаваў як адкрыццё. Так было з тэрмінам «партатыўная аповесць». Тэрмін гэты не прыжыўся ў літаратуразнаўстве, але Уладзімір Карпаў яшчэ доўгі час трымаўся за яго ў сваіх публічных выступленнях. Такая ўжо была ў яго характары рыса — настырнасць.

Завітаўшы аднойчы да цёзкі ў яго сціплую кватэру, я звярнуў увагу на Поўны збор твораў К. Ушынскага і адразу запытаўся: «Чаму цябе цікавяць педагагічныя творы?» Падумаўшы, Уладзімір Барысавіч адказаў: «Па адукацыі я педагог, і калі на рынку ўбачыў Поўны збор твораў аднаго з заснавальнікаў рускай

педагогікі, не мог, каб не набыць яго. Прачытаў ужо шмат. Якая скарбонка думак! Яны патрэбны кожнаму пісьменніку. У настаўніка і пісьменніка шмат агульнага, псіхалагічная культура перш за ўсё...»

І пачаў, памятаю, пераказваць мне Ушынскага, хоць для мяне, таксама педагога па адукацыі, гэта не было адкрыццём. Запомніўся тэзіс аб працы як важнейшым «чынніку» (любіў цёзка гэтае слова, узятае напракат з Байкова і Некрашэвіча) — фактару жыцця і выхавання. Мы доўга гутарылі тады пра выхаваўчую ролю працы, пра тое, як школа заклікана адкрыць выхаванцу магчымасць знайсці сабе карысны занятак у жыцці, як мастацкая літаратура павінна памагаць у гэтым школе.

Уладзімір Барысавіч адкрыўся, што марыў пісаць аповесць ці нават раман пра школу, пра настаўніка, пра тыя складаныя ўмовы, у якіх школа апынулася пасля вайны, бо пад час акупацыі было не да вучэння. «Але новая задума перасіліла»,— падсумаваў Карпаў і паказаў на свой рабочы стол, дзе ляжалі кнігі па архітэктуры і горадабудаўніцтву. Мне яны былі амаль вядомыя: не так шмат часу мінула пасля інстытута, які я скончыў на другі дзень вайны. А калі я, нарэшце, адкрыўся цёзку, што маю яшчэ і прафесію інжынера-будаўніка, той быў невыказна рады, што мае магчымасць рабіць, як ён казаў, «першаправерку сваіх горадабудаўнічых ідэй».

Уладзімір Карпаў быў улюбёны ў Мінск. Гэтую ўлюбёнасць, нават апантанасць, ён пранёс праз усе свае гады актыўнага творчага жыцця.

Дарога, якую мы часта праходзілі з цёзкам ад Дома друку, дзе была рэдакцыя часопіса «Полымя», да Камсамольскай вуліцы, дзе мы, звычайна, расставаліся, каб разысціся па хатах, заўсёды здавалася нам вельмі кароткай. Нават тады, калі цёзка часам нечакана спыняўся, захапляючыся неспадзяваным краявідам. Напрыклад, плошчай Свабоды, за сілуэтамі ацалелых будынкаў на якой садзілася барвова-агністае сонца. Не адцягнуць, бывала, Валодзю ад гэтага сузірання... Альбо спыніцца ля плошчы Перамогі і пачынае расказваць, як тут расло ў вайну жыта...

Мы праходзілі якія два ці тры кіламетры незаўважна, нагаварыўшыся ўдосталь і наглядзеўшыся як след. У мяне адчуванне горада было ўсталяванае, бо як-ніяк я жыў тут з 1928 года. Гутарачы ж з Уладзімірам Карпавым, я адчуваў у ім творчую апантанасць праблемамі, якія і мяне хвалявалі моцна, як мінчаніна і інжынера.

Мне было што ўспомніць пра Мінск даваенны, цёзку — пра Мінск ваеннай пары. Было нам абодвум пра што і памарыць. Мы фантазіравалі будучыняй беларускай сталіцы, якая ўвачавідкі паўставала з руін і з кожным днём станавілася фізічна адчувальнай, прыгажэла, харашэла. Спрачаліся, і даволі заўзята, пра тое, ці трэба захоўваць рэшткі старога горада, яго гістарычны цэнтр, бо ў той час разбіралі, напрыклад, па цаглінцы пашкоджаную бамбёжкай вежу гарадскога гадзінніка на плошчы Свабоды. Цёзка спрабаваў мне даводзіць, што гэткія адносіны да гістарычных помнікаў — разбурэнне іх — апраўдваецца грандыёзнасцю задум архітэктараў пра будучыню Мін-

ска. Але так і не пераканаў, як не пераконвалі шмат у чым і мінскія горадабудаўнікі з абыякавым стаўленнем да гісторыі старажытнага горада.

Недзе на парозе 50-х гадоў былі выстаўлены ў Доме ўрада на грамадскі прагляд конкурсныя праекты абеліска Перамогі. Мы сустрэліся з Валодзем Карпавым там, ля планшэтаў і макетаў. Глядзелі доўга, да некаторых варыянтаў вярталіся па некалькі разоў. Скупа, пошапкам перакідваліся словамі. А вось калі выйшлі з Дома ўрада, тут ужо далі выхад пачуццям. Напал быў такі, што нават людзі азіраліся на нас. Добра, што Валодзева дарога дадому была кароткая, і мы хутка разышліся.

Мне вельмі спадабаўся на конкурсе выпрашаны ў нязвыклым для таго часу ўмоўным стылі манумент-сімвал: чорны паралелепіпед, на якім чырвоны шар, што пераходзіў у белы конус-іглу, узнесены высока пад аблокі і ўвенчаны залатой зоркай. Чытаўся гэты сімвал, прапанаваны адным з архітэктараў, вельмі выразна — над чорнай пакутлівай ноччу акупацыі, што прайшла ў крывавым вогненным змаганні супраць варожай навалы, узнялося светлае шчасце здабытай перамогі, асветленай Залатой Зоркай герояў. Мой цёзка быў супраць усякіх сімвалаў, алегорый, умоўнасцей. «Не той час, не той глядач цяпер»,— казаў ён. Я пярэчыў: «Архітэктура разлічана на стагоддзі».

Канкрэтныя, прадметныя спрэчкі ўваскрасалі кожны раз, як толькі мы пачыналі высвятляць кардынальнае пытанне — у чым сіла мастацтва? Сыходзіліся на адным, што чалавек павінен жыць так, каб вакол яго абавязко-

ва было па-мастацку арганізаванае асяроддзе. «Тады чалавек,— гаварыў Уладзімір Барысавіч,— жыве мастацтвам, а значыць, паралельна са сваім уласным ён перажывае яшчэ мноства жыццяў, узноўленых мастакамі, хай сабе і народнымі самавукамі. Піць ваду з прыгожа аздобленага разбярствам чарпака больш прыемна, чым з бляшанкі з-пад кансерваў, бо ў звычайным працэсе наталення смагі з'явіцца элемент пераносу ўвагі ад простага задавальнення фізіялагічнай патрэбы на задавальненне, разам з тым, і патрэбы духоўнай. Любуючыся чарпаком, чалавек забывае, што хоча піць». Гэтая думка мне вельмі тады спадабалася і запомнілася.

Аднак жа ў сваёй літаратурнай практыцы ён часта адступаўся ад гэтай ідэі і, узнаўляючы рэчаіснасць, трымаўся дакладнага паўтарэння прататыпа, правобраза. Пільнуючыся канкрэтных адзнак жыцця, ён тым самым абмяжоўваў свае магчымасці мастака словам. Калі чытаеш яго раманы, чамусьці здаецца, што там прысутнічае нацэленасць больш на эмпірычны вопыт, на прыватны выпадак, што аўтар асцярожліва выходзіць на абагульненне, на пошук мастацкага вобраза, асацыятыўныя супастаўленні.

Вось мы і спрачаліся пра тое, у якіх межах узгадняецца з вопытам мастака яго фантазія, ці павінен мастак абмяжоўваць свой домысел. Уладзімір Барысавіч адзін час адстойваў тую думку, што калі рэчаіснасць багатая на факты «страшэннай уплывовай сілы», дык няма патрэбы захапляцца фантазіяй. Я ж яму пярэчыў, што такім чынам асоба аўтара зніжаецца да простага рэгістратара рэчаіснасці, збядня-

ецца тым самым акт творчасці. На гэта Уладзімір Барысавіч адразу парыраваў, што роля мастака выяўляецца ўжо ў адборы фактаў рэчаіснасці, а пасля і ў іх асэнсаваным кампанаванні, складванні ў твор. І тут зноў мяне ўзрывала. Я пачынаў даводзіць, што перабольшванне рацыянальнага элементу ў творчым працэсе над эмацыянальным часта прыводзіць да схематызму, «гвалту» над самарухам жыцця, захаплення яго натуральнай плынню, чаканнем, калі самі жыццёвыя факты ўступяць у непераадольныя канфлікты. Мы з цёзкам залазілі, бывала, у такі гушчар нявысветленага, што разыходзіліся, нават не развітаўшыся, як бы пасварыўшыся.

Але праз дзень-другі Уладзімір Карпаў яшчэ здалёк, заўважыўшы мяне, першы крычаў: «Здароў, цёзка!» У яго была зайздросная якасць — прагнасць да палемікі, спрэчак, імкненне да завастрэння пытання з мэтай пошуку ісціны, высвятлення нявысветленага, жаданне ставіць усе кропкі над «і». Але ён ніколі не пераносіў нязгоду ў думках на асабістыя ўзаемаадносіны, ніколі не крыўдаваў, вядома, калі яго апанент не пераступаў мяжу, за якой маглі пачацца абра́зы. Цяжка зносіў Валодзя боль, што прычыняў адзін са старэйшых пісьменнікаў, які публічна і сістэматычна абражаў яго. Але ў адказ ніколі не дазваляў сабе, каб ступаць на шлях абразы ці мяняць у сувязі з гэтым крытэрый ацэнкі твораў абражальніка. Прынцыповасць перш-наперш, і гэта стварала Карпаву ўстойлівы аўтарытэт інтэлігентнасці.

Калі старшыня сходу прадастаўляў слова Уладзіміру Карпаву, прысутныя ведалі, што

гэта будзе не проста выступленне дзеля пратакола, а роздум уголас па сутнасці пытання, якое абмяркоўваецца. У яго публічных выступленнях не было процістаўлення альтэрнатыўных высноў — згоды або нязгоды, прызнання або адмаўлення таго ці іншага твора. Калі гэта было прызнанне, дык як вынік доказнага аналізу станоўчых бакоў у іх сутыкненнях з адмоўным. Свой негатыўны вывад ён грунтаваў на аналізе таго станоўчага элемента, сілу якога прысутнасць негатыўных момантаў толькі зніжала, але не касавала зусім.

У блакнотах, якія захаваліся ад часу майго карэспандэнцтва ў «Литературной газете», занатавана шмат цікавых выступленняў Уладзіміра Карпава, што пацвярджаюць яго высокую інтэлігентнасць як крытыка і чалавека. Пра што б канкрэтнае ні гаварыў або пісаў Уладзімір Барысавіч, на першым плане быў клопат пра агульны літаратурны працэс, пра надзённы стан беларускай літаратуры.

Перагортваючы тыя даўнія ўжо старонкі, міжволі пераносішся думкамі на цяперашнія творчыя гаворкі. Няма іх такіх па шчырасці і зацікаўленасці лёсам усёй літаратуры, як былі тады. Творы асобныя ды яшчэ ў часопісным варыянце наогул зараз не абмяркоўваюцца. А ў агульных аглядах пачуеш часам такія дыпламатычныя «ходы», што дзіву даешся, калі мы абраслі гэтак мохам абывацельскіх поглядаў на сяброўства, далёкіх ад самой сутнасці творчай індывідуальнасці. Аўтар для крытыка Уладзіміра Карпава быў перш-наперш асобай творчай, зацікаўленай у поспеху свайго дзецішча-твора, а поспех, як ён казаў, здабываецца толькі працай. Выказ-

ваючы свае думкі наконт таго ці іншага твора, Уладзімір Барысавіч не пераступаў мяжы памяркоўнасці, добразычлівасці, але і не паступаўся прынцыповасцю. Ён заставаўся патрабавальным у адносінах нават да «самога бога», як аднойчы выказаўся.

На абмеркаванне секцыі прозы быў вынесены раман Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». Абмеркаванне было зацікаўленым і, не зважаючы на высокую пасаду аўтара, шчырым, надзіва патрабавальным. Уладзімір Барысавіч, ацаніўшы ўсё, што было станоўчае ў творы, сказаў адкрытую праўду: «Сілы ў рамане расстаўлены залішне сіметрычна і спрошчана. Каб не пакрыўдзіць ніводзін народ, аўтар увёў трох старшынь калгасаў. Так выглядаюць у рамане і адмоўныя сілы — абавязкова ўсе народы маюць і свайго «ўласнага ворага».

Я знарок тут цытую старонкі сваіх карэспандэнцкіх блакнотаў, каб пацвердзіць высакародства думкі, узгодненае з карэктнасцю паводзін. Без гэтых якасцей я не ўяўляю Валодзю Карпава, як і наогул сапраўднага пісьменніка, і крытыка ў прыватнасці. З Уладзімірам Барысавічам можна было гаварыць на любую тэму, хоць было і цяжка весці гаворку. Цяжка таму, што ён думаў на хаду, здавалася, тут жа фармуляваў свае думкі і адразу іх адстойваў, апіраючыся на жыццёвую ці літаратурную практыку. Гэта і ёсць тое, што мы часам адносім у разрад адмоўных рысаў, называючы суб'ектыўнасцю.

Хоць якая ж гэта адмоўная рыса — самастойнасць погляду на тую ці іншую з'яву, арыгінальнасць думкі? Так, і Леў Талстой

быў суб'ектыўны, калі не прымаў тэатра Шэкспіра, лічыў яго непатрэбным для свайго часу або калі не прызнаваў драматургіі Чэхава. Ад гэтага не паменшала сусветная слава ніводнага з іх, як і самога Талстога. Мастак мае права на свае сімпатыі і антыпатыі ў дачыненні да таго ці іншага твора.

«Усёяднасць» не ўласціва ніводнай жывой істоце, а тым больш калі гэтая істота разумная. Не можа быць «усёяднасці» ідэй, праблем, сродкаў іх выяўлення. Уладзімір Барысавіч меў свае ўстойлівыя творчыя прынцыпы, погляды, меркаванні. Ён меў сваё разуменне той ці іншай праблемы і таму прагнуў спрэчкі. Ён казаў, што ў спрэчцы думаецца куды больш інтэнсіўна і прадуктыўна, чым тады, калі ты пагаджаешся з усім, хто б што ні гаварыў. Ён, напрыклад, залішне высока ўзнімаў значэнне тэмы ў літаратуры, у творчасці пісьменніка і адстойваў гэты свой погляд.

«Тэма — такое ж сведчанне майстэрства, як і стварэнне характараў. Недаацэнка тэмы вядзе да самацёку ў літаратуры,— даводзіў Уладзімір Барысавіч і неаднойчы.— Сімптаматычна, што большасць масцітых пісьменнікаў звярнулася ў апошні час у мінулае». Гэта гаварылася ў сярэдзіне 50-х гадоў і ў пэўнай ступені было справядліва як закід у дачыненні да ўсёй літаратуры, якая павінна зазіраць ва ўсе абсягі жыцця — сённяшняга, учарашняга і заўтрашняга. А вось што датычыць узвядзення тэмы ў ранг крытэрыю, якім адным ацэньваецца майстэрства пісьменніка, тут я з Уладзімірам Барысавічам не пагаджаўся. Сваю нязгоду даводзіў на яго ж творчай практыцы як празаіка. Укленчванне перад выбранай ім

тэмай адлюстравання сучаснага жыцця горада адводзіла празаіка ад таго вынашанага, перажытага, выпакутаванага, пра што ён пачаў гаварыць яшчэ ў аповесці «Без нейтральнай паласы», прадоўжыў у рамане «Нямігі крывавыя берагі» і, на жаль, не завяршыў у кнізе апавяданняў і ўспамінаў, якую назваў шчыра: «Прызнанне ў нянавісці і любві».

Адгортваеш вокладку апошняй кнігі, і на цябе глядзіць жывы Уладзімір Барысавіч. Пільны зрок фотааб'ектыва спыніў той момант творчага ўзрушэння, калі пісьменнік адстойвае ў спрэчцы нешта сваё. Засяроджаны на нечым вельмі дакладным і важным позірк і такі ж выразны жэст правай рукой, што як бы памагае думцы адшукаць пункт апоры, перш чым заглыбіцца ў нетры нейкай ісціны, каб выказаць яе найбольш выразна.

Уладзімір Барысавіч не мог не напісаць гэтую кнігу, у якой перажытае ім і мінчанамі ў страшныя дні варожай акупацыі. І яшчэ — заглыблены роздум над тым, чаму гэтак было і ці магло быць інакш. Ён не мог пайсці па лініі найменшага супраціўлення і стварыць проста яшчэ адну дакументальную аповесць у дадатак да тых, што ўжо мела наша літаратура пра змаганне Мінска супраць акупантаў.

З усёй шматстайнасці падпольнай барацьбы пісьменнік вылучыў тыя вузлавыя падзеі і здарэнні, якія далі аўтару магчымасць, карыстаючыся домыслам у межах засведчанай ужо дакументальна гісторыі, стварыць хвалюючыя і завершаныя ў большасці выпадкаў творы, галоўным чынам апавядальнага жанру Пісьменнік шчасліва абмінае дарогу, якая магла завесці ў палон таннага дэтэктыва, і ступае

на цяжкі шлях стварэння яркіх характараў змаганцаў-патрыётаў, чый «чорны хлеб» штодзённай, пад носам у ворага, барацьбы быў вельмі горкі, бо патрабаваў высокага напружання фізічных і духоўных сіл, што, аднак, не забівала ў чалавеку чалавечага, а, наадварот, у крытычныя моманты, калі жыццё на валаску ад смерці, толькі больш аголена выяўляла гэтае чалавечае.

Кніга «Прызнанне ў нянавісці і любві» дае падставу сцвярджаць, што Уладзімір Барысавіч шмат што перадумаў з тых творчых прынцыпаў, якіх трымаўся на ранейшых этапах сваёй літаратурнай дзейнасці. Ведаю, што гэта яму было зрабіць нялёгка, але тым самым ён яшчэ вышэй узняў свой творчы аўтарытэт як празаіка. Па адлюстраваных у кнізе філасофскіх і эстэтычных праблемах кніга гэтая будзе доўга спадарожнічаць маладым, тым, хто жадае бачыць сябе ў вачах пакалення бясстрашным, мужным, сумленным і стойкім у асноватворных прынцыпах змагання за высокую духоўнасць.

Ён любіў быць сярод людзей, асабліва сярод моладзі, і адгукаўся ледзь не на кожны тэлефонны званок. Адкладваў неадкладнае і спяшаўся на сустрэчу з чытачамі бібліятэкі або з жыхарамі заводскага інтэрната. Прыгадваю, з якім запалам выступіў Уладзімір Барысавіч за «круглым сталом», што наладзілі мы на заводзе імя Кірава ў Мінску, каб пагутарыць пра характэрныя рысы сённяшняга рабочага. Ён гаварыў пра Мінск, пра яго гісторыю, дзень сённяшні, пра будучую перспектыву. І звяртаўся да маладых шанаваць і памнажаць працоўную славу шматпакутнага на-

рода. Гаварыў, як заўсёды, натхнёна, умела выцяняючы галоўнае ў кожным сказе, захапляючыся прадметам гаворкі, апантаны пошукам патрэбнага слова. Часам яму было цяжка знайсці яго, а мне, слухаючы, станавілася неяк трывожна, бо я ведаў, што перад людзьмі ён забываўся на сваё хворае сэрца.

Уладзімір Барысавіч умеў паланіць слухача не велягурыстасцю слоўнай, а мэтаскіраванасцю сваіх думак да пэўнай аўдыторыі, перад якой выступаў, ён тонка адчуваў яе, адразу ўстанаўліваў з ёю кантакт, і таму здавалася, што мог гаварыць бясконца.

Імкненне «бегчы» за няўрымслівай плынню жыцця драбніла яго добрыя задумы. Ён імкнуўся кожны твор насычаць «баявым пафасам часу», хоць гэта і не заўсёды ўзгаднялася з агульнай задумай, а бывала, што і супярэчыла развіццю заяўленага характару, ператварала апошні ў схему службоўца, носьбіта аўтаравай волі. Пра ўсё гэта неаднойчы даводзілася шчыра з вока на вока гаварыць свайму цёзку, бачыць, як ён унутрана пагаджаўся з многім, але перасіліць сябе ўжо не мог. Зададзены тэмп бегу імчаў яго, як яму здавалася, наперад. Хоць наперадзе ўжо і маячыла небыццё.

*Сцяпан Кухараў*

# АБЛІЧЧА ЧАСУ І ЖЫЦЦЁ

Гэта, мусіць, будуць не ўспаміны. Але ў нейкай ступені і ўспаміны, бо гэтага чалавека з намі няма. І ён з намі, яго сучаснікамі. Спадзяемся, што і з наступнікамі: ён пакінуў людзям столькі, колькі хапіла ягонай змогі.

Калі б Уладзімір Карпаў не стаў пісьменнікам, а застаўся на тым жа лесапільным заводзе ў Рэчыцы, ці настаўнічаць на Камарыншчыне, ці на СіроцінШчыне, ён усё роўна пакінуў бы па сабе след як грамадзянін і працаўнік.

Летам сорак першага Уладзімір Карпаў здаваў дзяржаўныя экзамены ў Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. Апошні экзамен здаваўся на другі дзень вайны, калі Мінск ужо гарэў ад бамбёжак...

У час суровых выпрабаванняў Уладзімір Карпаў, партызанскі разведчык, двойчы пераходзіў і двойчы пералятаў лінію фронту, а ў пачатку 1943 года нелегальна пражыў у акупіраваным Мінску дзесяць дзён...

Упершыню я сустрэўся з Уладзімірам Карпавым напрадвесні 1946 года. Актыўны ў той час крытык і літаратуразнавец Уладзімір Агі-

евіч і Карпаў выступалі ў Доме друку перад рабочымі друкарні. Размова ішла пра літаратуру, пра новыя творы беларускіх пісьменнікаў, якія з'явіліся ў друку.

Хтосьці з супрацоўнікаў «Чырвонай змены», дзе пад той час працаваў і я, сказаў: «Хлопцы! У зале, на першым паверсе, цікавая лекцыя!..»

З Іванам Цімашковым, таксама супрацоўнікам «Чырвонай змены», які яшчэ перад вайною выступаў з вершамі, мы паспяшаліся ў клуб. Людзей была поўная зала. Мы праціснуліся і слухалі, стоячы ў адчыненых дзвярах.

Выступаў рослы, шырокі ў плячах мужчына. Асветлены натхнёнасцю, адухоўлены твар, вялікі, пукаты лоб у абрамленні цёмных хвалістых валасоў. Энергічныя жэсты. Зычны, добра пастаўлены голас. Адчувалася, што гэты чалавек умее гаварыць, трымаць доўга і ўладна аўдыторыю.

Памятаецца, Карпаў гаварыў пра творы ваеннага часу Міхася Лынькова. І мяне ўразіла яго эрудыцыя, уменне выказаць свае думкі проста, даходліва і пераканаўча.

Такое было першае знаёмства, можна сказаць, здаля, на адлегласці. Для мяне, у даваенны час таксама студэнта і ўжо настаўніка, гэта было новае імя, і я пачаў уважліва прыглядацца да таго, што з'яўлялася ў друку за подпісам «Ул. Карпаў».

Як пазней Уладзімір Барысавіч напіша ў сваёй «Аўтабіяграфіі» ў кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі»: «Біяграфія пісьменніка — гэта яго кнігі. У іх усё — і жыццёвыя дарогі, і роздум, і мары пісьменніка. Гэта бясспрэчна. Аднак жа чытацкая цікавасць да пісьменніка

як чалавека і грамадзяніна немалая. Думаю, што амаль кожнага, хто адкрывае новую кнігу, цікавіць, што за чалавек, які яе стварыў, якія яго чалавечыя і грамадскія плюсы і мінусы... Усяго гэтага нельга не браць пад увагу, бо тое, што ствараеш, і ёсць акно твайго свету, агонь ці лёд твайго сэрца...»

Знаёмства здаля, толькі з творчасцю У. Карпава ў мяне асабіста доўжылася. Захоплена чыталіся яго страсныя, добра аргументаваныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, М. Лынькова. Яны потым выйшлі асобнай кнігай пад назвай «Па шляху сталасці».

1950 год... З'явілася першая аповесць У. Карпава «Без нейтральнай паласы». Мяне дзівіла: крытык — і раптам піша аповесць! (Гэта ў той час было рэдкасцю.) Аказваецца, як потым я даведаўся, з вайны нядаўні вясковы настаўнік вярнуўся пісьменнікам. Будзіла, выспявала задума; ён не мог не пісаць, бо перажытае, убачанае, зробленае самім і яго таварышамі па зброі прасіла выйсця, вымалёўвалася ў вобразы і клалася на паперу. Як вядома, у тыя гады ён вельмі шмат і напружана працаваў.

Прыгадваю, як адбылося наша знаёмства з У. Карпавым зблізку. Закончыўшы чытанне яго першага рамана «За годам год», які выйшаў асобным выданнем у 1957 годзе, сваімі думкамі я падзяліўся з Тарасам Хадкевічам, з якім ужо быў знаёмы асабіста. «Вось добра, братка,— сказаў Тарас Канстанцінавіч.— Прыходзь заўтра ў Саюз. Якраз збіраем нарысістаў. І будзе выступаць Валодзя. Ты яму сам усё і скажаш...»

Мяне зноў жа ўразіла незвычайная дасведчанасць аўтара «За годам год». Такое, думалася, мог напісаць толькі чалавек з глыбокімі і грунтоўнымі ведамі як архітэктар, і будаўнік, і кіраўнік-арганізатар.

Мне давялося быць сведкам, як Уладзімір Барысавіч расказваў аб стварэнні сваіх раманаў пра Мінск.

Да прыкладу, пра раман «За годам год»:

«Пісаў я гэты твор, поўны любві да Мінска — горада-героя з такой трагічнай гісторыяй, поўны павагі і замілавання да тых, хто ўзнімаў яго...»

«З якіх крыніц чэрпаў матэрыял для цыкла раманаў?»

На гэта быў, прыкладна, такі адказ:

«З перажытага. У аснове — уласныя назіранні, вопыт і ўражанні».

Сам пісьменнік увайшоў у Мінск па першых слядах вызвалення, калі горад пакутваў у агні і дыме. Як і ўсе мінчане, ён удзельнічаў у суботніках па расчыстцы завалаў і руін. («Кніжачку, дзе адзначаліся адпрацаваныя гадзіны на аднаўленні, я захоўваю...»)

Але ж пісьменнік, як стала вядома, не будаўнік, не архітэктар і не інжынер. Ён садзіцца за кнігі, чытае матэрыялы па горадабудаўніцтву, па архітэктуры. Але гэта не ўсё. Ён ідзе на будаўнічыя пляцоўкі, у рабочыя калектывы, да аўтазаводцаў, едзе ў Валгаград, з якім спаборнічаў Мінск, жыве разам з будаўнікамі,— «стараўся ўведаць іх інтарэсы, імкненні, зразумець, што іх хвалюе».

Поспех раманаў «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць» акуплены руплівай працай аўтара.

Кнігі гэтыя перакладзены на рускую мову, вытрымалі не адно выданне, а таксама на многія мовы народаў СССР.

Калі мы пазнаёміліся бліжэй, Уладзімір Барысавіч гаварыў аб тым, што для літаратара перш за ўсё важна, каб ён асэнсавана і выразна адчуваў адказнасць за тое, што робіць, усведамляў, які цяжар бярэ на сябе, калі становіцца на «лобнае» месца даследчыка і настаўніка жыцця.

Сам ён не стамляўся рабіць справу, якую абраў сабе на ўсё жыццё. Настойліва і з цягавітасцю рабочага-працаўніка падымаў пласты вельмі актуальнай, магістральнай тэмы аб рабочым класе рэспублікі, яго гераічным подзвігу, развіцці савецкага ладу жыцця.

Пісьменнік прызнаецца: «Галоўная, так сказаць, унутраная тэма маіх раманаў — людзі і час, пошукі шчасця людзьмі».

Мне пашчасціла быць і сведкам, і ўдзельнікам шмат якіх гутарак, бяседных застолляў, дзе размова ішла на літаратурныя тэмы. Гаварылі пра літаратуру, пра новыя творы, пра адказнасць пісьменніка перад часам і жыццём...

Калі пачынаеш прыгадваць, як выяўляў сябе ў гэтых гутарках У. Карпаў, дык на першае месца трэба паставіць даверлівасць і адкрытасць. Яму не ўласцівыя былі пыха і ментарства, якімі адгароджваюць сябе некаторыя «жывыя класікі». Ён умеў слухаць іншых і сам любіў пагаварыць адкрыта і шчыра. Характэрна, што яму верылі, калі ён гаварыў. Ягоныя парады былі заўсёды тактоўныя і ішлі ад сэрца, ад жадання памагчы таварышу, падбадзёрыць і заахвоціць, ад умення распаліць

тую іскрынку, якая прасіла цёплых далоняў, каб не пагаснуць. Справядлівасць і чысціня ў творчасці і ў жыцці — ягонае маральна-этычнае крэда.

У Карпава-крытыка, Карпава-пісьменніка надзіва знітаваліся гэтыя два вытокі-крыніцы. Тое, што пісаў У. Карпаў — крытык і даследчык, было заўсёды актуальна і прафесіянальна, на ўзроўні, якога вымагалі час, высокае прызначэнне літаратуры, грамадзянская адказнасць і мужнасць літаратара.

Як ужо было сказана, пісьменнік самаахвярна працаваў. Калі часам заходзіла размова аб творчым працэсе, то неаднойчы прыводзілася талстоўскае выслоўе: «Як я сябе шчаслівым адчуваю, калі працую», а потым дадаваў свае: «Вучыся, браце, працаваць у Піліпа Пестрака. Гэта выключна таленавіты чалавек. Сапраўдны пісьменнік».

Многія гады Карпавы (з Уладзімірам Барысавічам была амаль заўсёды Марыя Міхайлаўна) жылі ў Каралішчавічах у асобным дашчаным дамку, уводдалі, у засені маладога бярэзніку. З Піліпам Пестракам у іх былі асобыя, вельмі дружалюбныя, сяброўскія адносіны. Іх можна было часта бачыць разам, і яны ніколі не маўчалі на прагулках. Дзе ў кампаніі Валодзя Карпаў (Валодзем яго называлі і людзі аднаго з ім веку, і нават маладзейшыя) — там размова, добрыя, гарачыя дыскусіі. Ён сам хутка «заводзіўся» і ўмеў уцягнуць у гутарку ўсіх, хто з ім у кампаніі. А пра Піліпа Пестрака ён аднойчы сказаў пасля таго, як яны ажыўлена гутарылі ў сталоўцы, за абедам: «Глядзі, браце,— сказаў Уладзімір Барысавіч (мы ішлі сцежкаю між стромкіх, падоб-

ных на вялізныя свечы соснаў і гладкаствольных ялін) і кінуў у бок задуменнага Піліпа Сямёнавіча: — Слухай і запамінай. Гэта чалавек, пісьменнік, які шчасліва ўвабраў усю гісторыю Заходняй Беларусі, пафас барацьбы беларускага народа. Раман «Сустрэнемся на барыкадах» — твор, які абяссмерціў яго імя. Пра каго іншага не скажаш, а пра Піліпа скажаш, што ён мае права гаварыць ад імя ўсяго народа. Вялікі філосаф і жыццялюб. Яго можна параўнаць хіба з Якубам Коласам...»

Тады да Піліпа Сямёнавіча:

— Піліпе, а праўда, табе ўдаюцца апісанні начэй, начныя пейзажы ў цябе вельмі багатыя, выключныя па мастацкай сіле. Чаму гэта? Можа, ад таго, што сам усё перажыў, доўга ўсё выношваў, знаходзячыся за кратамі?..

— Ат, глупства,— моршчыцца Піліп Сямёнавіч і маўчыць, паглыбіўшыся ў сябе, як адгарадзіўшыся ад усіх і ўсяго.

— Нічога,— пакінуў у спакоі Пестрака Уладзімір Барысавіч.— У другі раз сам усё раскажа. А ты, галоўнае, слухай і запамінай!..

...Уладзімір Барысавіч ажыўлена і захоплена гутарыў з Тарасам Хадкевічам. Размова ішла, відаць, аб новым рамане Карпава.

— Нават самыя агульныя праблемы,— даводзіць Уладзімір Барысавіч,— мастак вырашае на канкрэтным матэрыяле...

— А твае творы? — пытаецца Тарас Канстанцінавіч.

— І мае. Абавязкова. Да апошняй дробязі. Усё — або вывучанае, або здабытае з уласнага вопыту. Або змадэліраванае з усяго гэтага — сплаў, так сказаць. Але ўсё абавязкова з жыц-

цыя, з рэчаіснасці. З усяго таго, чым жыве сучаснік!..

На чарговай праходцы я кажу Уладзіміру Барысавічу, што прачытаў мемуары С. Канёнкава, дзе ён даводзіць са свайго вопыту: жыццё — гэта праца.

— Бачыш, як усё проста,— пацвярджае Уладзімір Барысавіч.— Усё простае, аказваецца, геніяльна. Калі яно сапраўднае, нявыдуманае. Калі гэта непадробка пад прастату, пад праўду...

Тут жа ён успамінае выказванне М. Прышвіна: «У слове ёсць стоеная сіла». І зноў жа прыводзіць у прыклад работу над словам, над удасканаленнем напісанага П. Пестракам. Як заўсёды, захапляецца яго працавітасцю, мудрасцю.

«Галоўная тэма нашых дзён,— падкрэсліваў неаднойчы,— гэта мужнасць, чалавечнасць і, нарэшце, вінаватасць перад чужым болем...» У сваёй творчасці У. Карпаў няўхільна і ўпарта следаваў гэтаму гуманістычнаму прынцыпу. Працуючы над творамі, якія ўслаўляюць мужнасць чалавека ў самых складаных жыццёвых сітуацыях — на вайне, у час вялікіх душэўных і фізічных выпрабаванняў,— Карпаў імкнуўся даследаваць не вайну як крывавую бітву і сутычку дзвюх супрацьлеглых сіл, а чалавека, яго магчымасці, волю і мужнасць, сілу яго духу, выявіць прыроду подзвігу.

Цікавыя былі яго думкі пра паэзію, развагі чалавека, які любіў свежае паэтычнае слова і дзяліўся сваімі ўражаннямі, вынашанымі ў сэрцы. «Паэзія — песня душы,— чуў я ад яго такія высновы, якія, магчыма, можна знайсці і ў іншых літаратараў.— Але для паэзіі ўсё ж

найбольшую вагу мае эмацыянальны пачатак-выток. Тэарэтычныя развагі, роздум на мяне, чытача, не ўздзейнічаюць так, як дзейнічаюць эмацыянальныя танальнасць, настраёвасць...»

У другі раз ён гаварыў: «Маладосць духу, захопленасць, маладосць душы, прага да пазнання, свежасць успрыняцця, наватарскі пошук, смелыя вобразныя рашэнні тэмы і разам з тым яскрава выражаныя сучаснасць, наватарства паэтычнай мовы і мыслення, жыццесцвярджальнасць, прасякнутая высокай ідэйнасцю,— вось адзнакі сапраўднай паэзіі як жыватворчай сілы мастацтва».

Аднойчы, калі мы гутарылі з Марыяй Міхайлаўнай, я спытаў у яе пра тое, як працаваў Уладзімір Барысавіч, ці былі ў яго папярэднія запісы, дзённікі.

Яна паказала мне кнігі, якія пасля першага выдання правіліся і шліфаваліся. Я быў проста здзіўлены: яны так пакрэслены, з такой скрупулёзнасцю папраўлены, што асобныя старонкі былі проста пярэстыя ад правак, а некаторыя перапісваліся амаль што занава. Такога я, прызнацца, не бачыў, каб так крэсліліся кнігі, якія ўжо выдадзены і пайшлі да чытача. Я заўважыў: «Працаваў Уладзімір Барысавіч, як кажуць, на знос...»

Значыць, сапраўды ў працы ён знаходзіў для сябе радасць і заспакаенне. Як і кожнаму творцу, праца прыносіла яму шчасце.

«Каму пашчасціла цалкам аддацца любімай справе,— казаў ён,— павінны лічыць гэта за сапраўднае шчасце». Гэтыя словы яскрава пацвярджаюць і яго жыццёвую пазіцыю — цалкам аддаваць сябе творчасці. Ён не стам-

ляўся рабіць добрае, яго мужнае сэрца воіна і грамадзяніна было шчодрым на ласку і дабрыню, на ўвагу да таварышаў і сяброў і, што асабліва важна, на павагу да людзей, з якімі ён любіў сустракацца і ўмеў гаварыць. Гэтага чалавека мне хочацца назваць шчадралюбам, якому імпанавала горкаўскае — пісьменнікі павінны «вучыцца паважаць і цаніць адзін аднаго, як цэняць адзін аднаго байцы на полі бою».

Да апошніх дзён жыцця не адчувалася ў ім замкнёнасці і абыякавасці, якія часам развіваюцца ў людзей пажылых, абцяжараных хваробамі і немаччу. Ніколі не сумаваў ён, аптыміст па натуры, па складзе свайго характару. Іншы раз толькі чуў я ад яго: «Усё горш у мяне са зрокам. Раненне, мабыць, дае сябе знаць...» Але адразу бадзёрыўся і пераходзіў на іншае: «Ну, як справы? Што чуваць у вас, у нашай «Маладосці»?..»

І гэта будзе сказана шчыра, з добрай, цёплай усмешкай, што заўсёды маладзіла і ажыўляла ягоны твар, асветлены думкай, заўсёднай яе работай.

У яго абліччы, ва ўсмешцы было нешта дактарскае, ад ранейшых урачоў, калі тыя страчаліся з пацыентамі.

Пры сустрэчы ён не спяшаўся развітацца: у яго заўсёды знаходзілася што спытаць у цябе, сказаць табе нешта сваё, тое, што хвалюе яго і цябе, што тычыцца агульнай справы, якой мы служым.

Усё новае, што з'яўлялася з-пад пяра нашых літаратараў, цікавіла, радавала ці заклапочвала. Хваляваўся ён не толькі за свае творы, але памагаў (гэта многія ведаюць) у поў-

ным сэнсе слова дарабляць чужыя і канкрэтнай парадай аўтару, і ўласным пяром.

...Бывала, гуляюць між меднастволых соснаў Піліп Пестрак і Уладзімір Карпаў у тых жа Каралішчавічах. Ідуць і маўчаць, а тады раптам дружна загавораць, і пачынаецца жывая, гарачая размова, якая часта ўзрываецца спрэчкай, дыскусіяй.

— Як гэта, каб у расінцы, у кроплі сонца ўбачыць? — нечакана гаворыць Пілін Сямёнавіч.

Карпаў загадкава ўсміхаецца, хітра глядзіць на Пестрака:

— А гэта табе, Пиліпе, лепш ведаць...— І ўжо сур'ёзна, натхнёна: — Ты — майстар лясного пейзажу. Знаўца лесу. У цябе, браце, такія апісанні лесу, што і сонца, і воблакі, і неба — усё бачыш наяве, жывое... Жывое адлюстраванне душы!..— І да мяне: — А ты слухай і запамінай. Загадкавасць таленту...

Вельмі высока ставіў У. Карпаў творчасць П. Пестрака. Яны сябравалі доўга і шчыра. Дружба гэтая нарадзілася, мабыць, у час работы Піліпа Сямёнавіча над раманам «Сустрэнемся на барыкадах». Аб гэтым і мне гаварыў Пілін Сямёнавіч. Тое ж пасля пацвердзіла Марыя Міхайлаўна: «Начамі сядзелі разам,— казала яна.— І спрачаліся, і радаваліся разам, як дзеці, калі прыходзіла трапнае слова, цікавы паварот сюжэта ці фразы...»

Але вернемся да іх размовы на зялёнай лясной алеі ў Доме творчасці.

— Архітэктоніка твора (любімы выраз Карпава) такая,— гаварыў Уладзімір Барысавіч,— мова — аснова ўсяго і плоць, а яго душа — змест. Калі мова не вобразная, бяско-

лерная, цьмяная, то твора не будзе. Не акрэсліцца як мае быць і ідэя — душа твора. Мову трэба любіць, казаў Горкі, любіць, як маці, як музыку...

Я прыводжу словы К. Куліева: «Мастацтва без праўдзівасці, што птушка без крылаў...»

— Во, во!..— падхоплівае Уладзімір Барысавіч і ўжо ціха, як да сябе: — Цікава, браце, разважаеш. Але гэтага мала — умець разважаць, хаця і важна для пісьменніка. Вельмі важна! Трэба ўмець і жадаць, здзяйсняць задуманае. Для гэтага патрэбна сіла. Я сказаў бы — сіла волі. А гэтае самае сілы ў нас пад час і не хапае. Вось у чым... «грузд» праблемы...

Зноў ён разважае як бы сам з сабою:

— Час не даруе памылак. Не даруе памылак і прырода, хоць яна велікадушная да сапраўднага таленту. Час перш за ўсё цэніць талент мастака за тое, што ім сцверджана, за дасягнутую вышыню...

І далей:

— Таленту супрацьпаказаны эгаізм. Эгаізм — рыса жахлівая. Ён здатны забіць чалавека, які не можа сцярпець гэтага эгаізму, асабліва калі эгаізм сыходзіць ад блізкага табе чалавека...

...За акном гарэла, то ўспыхваючы суцэльным полымем, то аціхаючы, вячэрняя зара. Ахапіла паўнеба — там, дзе толькі што гарэзілася шчодрае вясновае сонца.

А застолле шуміць гаманой — гучнай, вясёлай. З такімі людзьмі, як У. Карпаў, бы ля цёплага вячэрняга вогнішча. Грэешся. Узбагачаешся — духоўна, мацнееш — душэўна. Ба-

гацеючы, набіраешся і адвагі і сілы, як прыпаўшы да чыстай крынічкі. Грэешся, і правяраеш свае пачуцці, звяраеш з лёсам людзей, якія прайшлі праз вялікія жыццёвыя выпрабаванні. Слухаеш іх, і навучаешся актыўна жыць, бачыш сваю неабходнасць і разумееш высокае сапраўднае прызванне чалавека на зямлі. Ягоная мудрасць, жыццёвы і творчы вопыт нібы ўліваюцца ў цябе, даючы табе сілу і ўпэўненасць. Тое, што ён табе дае, ідзе ад шчырага жадання памагчы, садзейнічае твайму аптымізму і нараджае жаданне і права на давер і ўзаемнасць.

Кажу пра гэта. І Уладзімір Барысавіч ускліквае:

— Адкрытасць душы! О, гэта, браце ты мой, багацце! Набытак. Душа, адкрытая насцеж,— гэта хораша! А яшчэ ёсць такое беларускае слова — «напята». Ёмістае слова. Не кожны чалавек на гэта здатны, асабліва чалавек, які шмат думае, разважае і пакутліва шукае адказу на пытанне, хто мы, для чаго жывем, чаго хочам ад жыцця...

Чую яго голас! Як рэха, як водгалас тых бясед і застолляў у Каралішчавічах. У той час усе мы былі маладыя, і застоллі наладжваліся часта як зачэпка, каб разам сабрацца, пагаварыць, абмяняцца думкамі.

Яны — і Уладзімір Карпаў, і Тарас Хадкевіч — часта былі разам. Яны заўсёды мяне і здзіўлялі, і захаплялі. Сваёй шчырай дабрынёю, душэўнасцю, простымі і разам з тым узвышанымі думкамі і перажываннямі, захопленасцю жыццём.

Мне было вядома, што яны разам пісалі кнігу «Мы раскажам пра Мінск». Пра яе часта

і падоўгу гаварылі, прыгадвалі нейкія «дробязі». Ад размовы пра кнігу пераходзілі да гаворкі наогул пра жыццё і літаратуру.

Помняцца выказванні У. Карпава аб традыцыі і наватарстве.

— Суладдзе і ўзаемасувязь творчасці,— казаў ён,— такое ж, як і самога жыцця. Кожнае пакаленне, што прыходзіць на змену папярэднікам, нанова адкрывае свет, прыносіць з сабою сваё светаадчуванне, сваё разуменне з'яў рэчаіснасці. Чалавек прыходзіць у гэты свет, каб сцвердзіць сябе, пакінуць пасля сябе след на зямлі. Ён не хоча знікнуць бясследна — у гэтым прырода чалавека, яго высокае грамадзянскае прызначэнне.

Вядома, гэтыя думкі прыводзяцца па памяці. Але яны засталіся як памяць сэрца, як водсвет яго творчай і чалавечай асобы.

«Што дапаможа зразумець ісціну і людзей? — пытаўся ён і сам жа адказваў: — Вучоба. Пошук. Пакутлівы пошук ісціны. Трэба глыбей вывучаць жыццё, нястомна, няспынна, з дня ў дзень вывучаць гісторыю, філасофію, псіхалогію. Трэба быць бязлітасным да сябе, прызнаючыся хаця б сабе, што ты — невук, лянівец, сябелюбец. Не ведаеш і сотай, тысячнай долі таго, што табе, настаўніку жыцця, патрэбна ведаць...

Героі твае — гэта твае дзеці, плён твайго жыццёвага трапятання, твайго гарэння, тваёй працы. Пакутлівай. Нястомнай. Цяжкой...

Малюнкі рэчаіснасці, якія складаюць твой твор, асабістае жыццё герояў, іх перажыванні — гэта твае перажыванні, люстра тваіх пошукаў. Трэба, каб яны былі напоўнены вялікім сацыяльным зместам, змястоўнасцю,— гэ-

та залежыць ад таго, наколькі сам творца разумее жыццё: як і чым ён жыве, як ён кіпіць у віры жыцця».

...Успамінаючы добрым, шчырым словам Рамана Карпавіча, Уладзімір Барысавіч гаварыў, што Сабаленка — адзін з тых пісьменнікаў, якія паказалі прыклад асабістай сціпласці, працавітасці, глыбокага ведання людзей, якіх багата меў за сяброў, надзейных таварышаў па пяру.

Сам ён меў сапраўдных сяброў між аднадумцаў, з імі дзяліўся сваімі планамі, задумамі і сумненнямі. У. Карпаў высока цаніў такіх майстроў слова, як К. Чорны, М. Лынькоў, І. Мележ, І. Шамякін, якія, як ён казаў, «валодаюць тайнай маляваць словам, апісваць, адлюстроўваць жыццё», і гэтае ўменне, майстэрства выражае сэнс жыцця пісьменніка.

...Родны Мінск. Яму, як і ўсім нам, яго сучаснікам, Мінск увайшоў у сэрца, стаў другім родным домам... Добра помніцца, як Уладзімір Карпаў збіраў матэрыял для кнігі калектыўнага зборніка аб Мінску. У ім — цікавыя апавяданні, вершы, нарысы, замалёўкі, артыкулы, успаміны. І тут праявіўся карпаўскі густ, веданне матэрыялу, які быў для яго блізкім і жаданым. Кніга гэта выдадзена да 900-годдзя заснавання Мінска. У кароткім эсэ «Усенародная любоў» У. Карпаў піша: «Любоў да гарадоў прыходзіць не проста. Яна вельмі патрабавальная. Яе трэба заваяваць...»

Так сказаць пра Мінск мог чалавек, які пашчыраваў для роднага горада. Тут ён вучыўся, тут у гады ліхалецця выканаў не адно небяспечнае партызанскае заданне, сюды прыйшоў у першыя дні вызвалення ад фа-

шысцкай навалачы, тут працаваў настаўнікам, а затым журналістам. Пра Мінск — яго лепшыя кнігі.

Не чуў я, каб Уладзімір Барысавіч расказваў аб сваім партызанстве і рабоце ў камуністычным падполлі Мінска. Але ў той жа кнізе «Горад і годы» я прачытаў яго кароткія нататкі з успамінаў «Мінскія сустрэчы» і зразумеў, які гэта быў смелы, мужны чалавек.

«Вайна, магчыма, як нішто іншае, агаляе вартасць чалавека, паказвае цану яго слоў і шчырасці. Гэта — выпрабаванне, жорсткае, ды амаль беспамылковае. Выпрабаванне страхам, нястачамі, болем і мукамі, правам забіваць другіх... Яна гартуе адных і, наадварот, разбэшчвае другіх...»

Гэта напісаў Уладзімір Карпаў у 1966 годзе, праз дваццаць пяць гадоў пасля пачатку вайны. З вышыні вопыту ўдзельніка вайны пісьменнік асэнсоўвае тое, што адбывалася тады, калі ўсё перайначвалася і жыццё ставілася ў залежнасць ад выпадку, калі іначай глядзелася на жыццё, «на кроў, смерць і заўтрашні дзень».

Вайна прайшла праз сэрцы людзей. Амаль усе яго героі, кажучы словамі пісьменніка, — гэта «ахрышчаная агнём і смерцю будучыня». Яны — плён яго вопыту і роздуму, вялікага творчага гарэння.

— Пісаць пра вайну будуць яшчэ і пасля нас,— зазначаў у сваіх публічных выступленнях У. Карпаў,— але нам, сведкам і непасрэдным удзельнікам Айчыннай вайны, трэба як мага больш пакінуць дакументальнага матэрыялу. Подзвіг народа ў гэтай вайне выключны, і нам гэтага нельга забываць. Усім, хто

піша і пра вайну, і пра мір, які заваяваны такой дарагой для нашай Айчыны цаной...

Ён працаваў, не зважаючы, што сілы падточвала хвароба. Як радаваўся, калі нарэшце кніга ўспамінаў мінскіх падпольшчыкаў «Скрозь агонь і смерць», якую ён задумаў, выйшла. Як хваляваўся ён, пакуль убачыла свет апошняя яго кніга апавяданняў «Прызнанне ў нянавісці і любві».

«Працаваць! Працаваць!» — падганяў сябе адзін з герояў рамана «Сотая маладосць». Гэта быў дэвіз і самога пісьменніка, які працаваў, пакуль рука трымала пяро. І ўсім нам, хто яго ведаў, хто сустракаўся з ім, ён гаварыў і раіў — працаваць, толькі ў працы нараджаюцца і натхненне, і зарадка на заўтрашні дзень.

Кожная сустрэча з гэтым чалавекам, няхай нават кароткая, мімалётная — была радасцю абагачэння. Кожная гутарка, нават самая будзённая, пакідала ў табе штосьці такое, што кранае сэрца, і ягоны голас чуецца гэтак выразна, як бы ты зноў з ім сустрэўся, нават толькі павітаўся.

*Барыс Бур'ян*

# ДВОЙЧЫ НА АДНУ І ТУЮ Ж ТЭМУ

Доўгія гады гэтая постаць, гэты па-сакалінаму пільны і разумны позірк, гэтая заўсёды мэтанакіраваная хада былі як бы стала «прапісаны» ў Мінску-літаратурным. Быў час, Уладзіміра Барысавіча мы часцей за ўсё сустракалі на Старажоўцы, дзе ён і жыў у невялічкім дамку пад афарбаваным зялёным колерам дахам. Бывала, і каардынаты яго кватэры даваліся вельмі па-пісьменніцку: «Насупраць Кандрата Крапівы і Андрэя Александровіча», або «Побач з Міхасём Машарам», ці «Па суседству з Віткам...». Там ён жыў, калі загадваў аддзелам тэатра ў «Літаратуры і мастацтве». І пакідаючы гэтую пасаду, перабягаючы ў лагер літаратурных крытыкаў,— там. І там, блукаючы па колішніх Старажоўскіх могілках, вялі мы бясконцыя размовы.

Потым ён стаў сталым «цэнтравіком» — жыў на вуліцы Карла Маркса, потым на Ленінскім праспекце, і яго маршруты праходзілі бліжэй да музея Янкі Купалы, плошчы Перамогі, кнігарні насупраць Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. І тут таксама мы часта спыняліся і працягвалі тыя нашы гаворкі пра

жыццё, пра вайну, пра чалавека... На адну тэму мы гаварылі з Уладзімірам Барысавічам двойчы. Гэта я запомніў, бо вярталіся да яе мы праз трыццаць гадоў. Спярша гэта здарылася недзе ў сорак сёмым ці восьмым, а ў другі раз — у семдзесят шостым.

Якая ж гэта тэма?

У адным даволі шумным застоллі славуты Барыс Віктаравіч Платонаў сказаў адказнаму сакратару «ЛіМа» Уладзіміру Карпаву (ён загадваў і тэатральным аддзелам газеты) аб тым, што вось цяпер акурат шукае ў самім сабе... здрадніка. Трэба яму абудзіць у самім сабе... мярзотніка...

Уладзімір Барысавіч быў здзіўлены: «Як гэта, дазвольце, здрадніка — у сабе?! Вы ж высакародны чалавек, ну зусім не здатны на брыдоту!..»

Платонаў стаяў на сваім: «Не, я рыхтую ролю здрадніка. І мне трэба яго адшукаць у сабе... Зразумейце: каб мне паверылі ўсе, у тым ліку і вы, шаноўны крытык, я павінен стаць на тры гадзіны спектакля... натуральным... здраднікам... Адчуць кожны рух яго-най душы... Ахапіць уласным розумам ягоныя прагавітыя намеры і ўсе матывы самаапраўдання... Карацей кажучы, адкрыецца заслона — і я здраднік...»

Перадаю гэтыя словы Б. Платонава прыблізна. Сутнасць іх мы помнілі абодва — і Карпаў, і я. Бо амаль праз трыццаць гадоў паўтаралі іх, калі сядзелі аднойчы, праз гэтыя тры дзесяцігоддзі, на абноўленай набярэжнай Свіслачы паблізу ад цырка і гутарылі пра спрадвечныя загадкі літаратурнай творчасці. Цяпер я быў загадчыкам аддзела тэатра на-

шага пісьменніцкага штотыднёвіка «ЛіМ», а ён — вядомым празаікам.

Дык вось тады, спрачаючыся з Платонавым, Уладзімір Барысавіч аргументаваў свой погляд на паходжанне аўтарскіх імпульсаў і акцёрскіх эмоцый вельмі грунтоўна. Ён спасылаўся і на прамову Алешы на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, прыводзіў і крылаты флабераўскі вокліч: «Эма Бавары — гэта я!», абапіраўся нават, здаецца, на Арыстоцеля. Сутнасць яго філіпікі ў абарону свайго тагачаснага пераканання зводзілася да таго, што далёка не ўсе чалавечыя аблічча і страсці мастак — пісьменнік гэта або артыст — можа зведаць сам, на сваім уласным вопыце. Ёсць сферы выяў такіх валявых памкненняў і такіх духоўных пошукаў, на якія той або іншы індывід зусім не здольны па сваёй псіхалагічнай арганізацыі. Тыя сферы ён адлюстроўвае выключна на грунце сваёй фантазіі, свайго творчага ўяўлення.

Асабліва здзівіў Уладзіміра Барысавіча намер Б. Платонава шукаць у сабе здрадніка. І гэтае здзіўленне не было выпадковае: Карпаў яшчэ жыў вайной, хаця амаль не гаварыў пра яе і пра свае баявыя справы. Наогул быў надзвычай лаканічны ў сваіх адказах на ўсе пытанні, якія датычылі яго ўдзелу ў падполлі і ў партызанскай разведцы. Па той ягонай рэакцыі, што была выклікана словамі Платонава, можна было толькі здагадацца, што партызанскі разведчык Карпаў ведаў, што гэта за брыдкая натура — здраднік, і як агідна мець справу з такім чалавекам. Прынамсі, твар яго заўсёды ў такой гаворцы рабіўся строгім і нават пахмурным.

Як я памятаю, Барыс Віктаравіч Платонаў не заставаўся тады ў даўгу ў галіне аргументацыі і дасведчанасці. Сцвярджаў, што слова або сцэна могуць праўдзіва паказаць толькі спасцігнутае сэрцам аўтара ці выканаўцы ролі. Ля вытокаў любой, самай смелай і нечаканай, на першы погляд, фантазіі — адчутае і перажытае асабіста самім мастаком.

Я тады акурат і адкрыў для сябе дзівосную «геаграфію» эмоцый Пушкіна, які ў сваім «Каменным госцю» ўклаў у вусны героя такія словы: «А далеко, на севере — в Париже — быть может, небо тучами покрыто, холодный дождь и ветер дует...» І прывёў гэты прыклад, каб падштурхнуць Платонава на далейшую спрэчку. Атрымліваецца, што сам паэт адчуваў тое, што адчувае чалавек, які апынуўся на поўдні ад паўночнага Парыжа! Трэба ж самому хоць пабываць там, дзе цяплей за Парыж, каб прамовіць гэтак! Сам жа Аляксандр Сяргеевіч, як вядома, ніколі ні ў Парыжы, ні ў Мадрыдзе не бываў... Якое акрыленае ўяўленне!..

— Назіральнасць! — катэгарычна сказаў Карпаў.— Рацыянальна зроблены мастацкі штрых.

— Адчута сэрцам! — парыраваў Платонаў.— Аляксандр Сяргеевіч недзе ў Кішынёве аднойчы адчуў, які холад пануе цяпер у яго Міхайлаўскім або ў Царскім Сяле... Інакш ён пра Парыж не напісаў бы так... Не здолеў бы!.. Не здагадаўся б...

Калі неўзабаве мы даведаліся, што Уладзімір Барысавіч рашуча пакінуў пост адказнага сакратара «ЛіМа», то спыталі і аб прычыне гэтага пераходу.

— Не магу я займацца людзьмі,— амаль што жартуючы, сказаў Карпаў,— якія вымушаны з сябе рабіць і ў сабе шукаць прайдзісветаў, махляроў, здраднікаў, катаў! Не маё гэта!.. Я пішу і паказваю тое, што аб'ектыўна ёсць на гэтым свеце. Я — адлюстроўваю...

Я нагадаў яму пра Ю. Алешу, пра Флабера, пра Пушкіна.

Ён усміхнуўся і з'едліва заўважыў:

— Ты прыхільнік Платонава, бо сам быў акцёрам у маладосці і сам «лицедействовал»... Ну няўжо ты верыш, што Платонаў рабіў з сябе самога і Рамэо, і Заслонава, і Пятра Каламійцава, і Шкуранкова, і Быкоўскага? Байкі. Прыгожая акцёрская дэкларацыя!..

Потым выходзілі яго кнігі. Крытычныя. Проза. Ён заняў сваё месца ў літаратуры. Яго лічылі — і па заслугах! — песняром Мінска ў прозе, горада, які змагаўся з акупантамі, сам быў спалены і зруйнаваны ледзь не дарэшты, потым адрадзіўся нібы фенікс з попелу. І сапраўды, Карпаў быў у гэтым плане энцыклапедыстам. Ведаў назвы ўсіх вуліц, біяграфіі тых нешматлікіх будынкаў, што ацалелі пасля войнаў і пажараў, маршруты вандровак па Мінску Купалы і Галубка («Бачыў, якая залатая восень гарыць на Залатой Горцы?» — пытаўся ён, бо сам любіў хадзіць «сцежкамі Багдановіча» па горадзе), ведаў ваенную карту горада, знаў, дзе, калі і хто дзейнічаў тут супраць нямецкіх акупантаў.

Я любіў блукаць разам з ім па Ляхаўцы і Старажоўцы, мераць крокамі праспект ад Дома друку да Купалаўскага тэатра.

З цягам часу нейк забыліся тыя даўнія спрэчкі. Ён пісаў маляўніча, выразна, пана-

рамна. Яго проза даследавала чалавечую душу. Мяне асабіста ўзрушаюць ваенныя старонкі яго раманаў, асабліва ж апавяданні і ўспаміны, што склалі кнігу «Прызнанне ў нянавісці і любві». І ў галаву не прыходзіла думка аб тым, якім жа чынам ён стварае тыя моманты жыцця чалавека, калі ў ім, гэтым героі або персанажы, абуджаецца тхор, віж, злачынца, падманшчык,— ці то карыстаецца сваімі назіраннямі, ці то верыць фантазіі, ці ўсё ж штосьці і чэрпае з самога сябе, з Карпава...

Сядзелі мы на лаўцы каля ціхага бегу вады ў звілістым рэчышчы Свіслачы непадалёк ад цырка. І ён раптам вярнуўся да забытай даўно, здавалася б, спрэчкі з Платонавым.

— Ведаеш, Барысе, твой тёзка, аказваецца, не адзінокі ў сваім перакананні, што адлюстроўваецца ў мастацтве праўдзіва толькі спасцігнутае тваім сэрцам. Дарэчы, браце, гэта афарыстычная думка належыць Марку Твену. Калі ты чытаў маё «Прызнанне...», то Клумава, канечне, заўважыў... Ведаеш, я не адну ноч, калі пісаў яго, адчуваў сябе... Клумавым! Медыкам. Сумленнейшым медыкам! І — Чалавекам, які па волі лёсу апынуўся ў пастцы. Акружаны суцэльным недаверам і падазронасцю. У мяне, верыш, рукі дрыжэлі і камяк у глотцы стаяў... Я думаў, што настае галюцынацыя: я — Клумаў... я ў калідоры мінскай бальніцы... на мяне глядзяць дзесяткі асуджаных на смерць і чакаюць, а мо я меnaвіта і выратую іх... Ці прайду міма і тым аддам іх следчым з СД...

— Платонаў жа пра гэта і гаварыў тады, калі яму прадстаяла стаць на сцэне... здраднікам,— нагадаў я Карпаву.

— Жахліва ў гэтым прызнацца, але так яно і ёсць: ты мусіш у сабе шукаць усё, пра што пішаш. Тым і катаржная наша праца! Паглядзі, як спаліў сябе «Векапомнымі днямі» Міхась Ціханавіч... як змяніўся Піліп Пестрак пасля сваіх «Барыкад...». Гэта ж ад таго, што мы пераўвасабляемся ў многіх персанажаў... З раніцы ты самаахвярны альтруіст, потым раптам робішся катам, а ўвечары зноў пераўвасабляешся ў сумленнага чалавека, ад якога чакаюць ратунку асуджаныя на смерць...

— Пісьменнік як акцёр?..

Ён засмяяўся. Штосьці, аднак, прызнаць не захацеў. І прамовіў:

— Можа, больш дакладна — як Пушкін. Там, «на севере...».

І ў сумленнасці такога неардынарнага прызнання, такой шчырай гаворкі праз гады мне адкрыўся неспакойны творчы характар мастака, засяроджанага на пошуках адказу на спрадвечныя загадкі пісьменства наогул, якому быў чужы дагматызм. Уладзімір Барысавіч быў прынцыповай і неўтаймаванай асобай, і сам правяраў усе тэзісы і высновы бурлівага жыцця. Час пакажа, наколькі плённыя былі яго адкрыцці і ягоная літаратурная творчасць.

*Мікола Аўрамчык*

# УДЗЯЧНАСЦЬ ЗА ЎДЗЯЧНАСЦЬ

З восені 1948 года я пачаў працаваць у часопісе «Полымя». Рэдакцыя змяшчалася ў невялікім пакоі на чацвёртым паверсе Дома друку.

Пасля рэспубліканскіх газет, асабліва дзіцячых і юнацкіх, са штодзённай мітуснёй у іх шматлюдных калектывах, праца ў часопісе, рэдакцыя якога складалася з шасці чалавек, здавалася занадта спакойнай, нават нязвычнай.

Праўда, у тыя гады і спецыфіка працы ў часопісе таксама вымагала пэўнай аператыўнасці. Як сам я семнаццацігадовым юнаком калісьці не цяміў, чаму часам намнога спазняўся гэты часопіс, наганяючы потым спазненне падвойнымі нумарамі, так і яго пасляваенныя чытачы не разумелі, чаму ён на працягу некалькіх год расцягвае друкаванне раманаў і аповесцяў, займаючы імі ў нумарах усяго толькі па дваццаць — дваццаць пяць часопісных старонак.

А менавіта такім чынам друкаваліся ў той час не толькі раманы і аповесці, але нават і паэмы. Пісьменнікі пісалі па гарачых слядах

падзей. І часопіс, каб не адставаць ад жыцця, вымушаны быў друкаваць творы невялікімі часткамі, адразу ж услед за іх напісаннем.

Як стрэлачнік на чыгунцы, рэгуляваў гэтай справай у рэдакцыі загадчык аддзела прозы і драматургіі Уладзімір Карпаў. Я здзіўляўся, як ён паспявае пераводзіць стрэлкі... Бо, як праз станцыю доўгія і кароткія цяжкавагавыя саставы, праз «Полымя» ў той час ляцелі да чытачоў і «На ростанях» Якуба Коласа, і «Векапомныя дні» Міхася Лынькова, і «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака, і «Мінскі напрамак» Івана Мележа, і «Згуртаванасць» Міколы Ткачова.

Звычайна раман або аповесць ці п'есу, якія рыхтаваліся да друку, чыталі адзін за адным загадчык аддзела, адказны сакратар і рэдактар часопіса. Рознакаляровымі алоўкамі яны ставілі птушкі на палях рукапісу. Уладзімір Карпаў заўсёды ставіў іх карычневым алоўкам. Потым ён садзіўся за стол побач з аўтарам, і, не спяшаючыся, яны праглядалі і здымалі ўсе заўвагі.

Часта гэтым аўтарам быў Якуб Колас, зрэдку Кандрат Крапіва (у той час друкаваліся яго п'есы «Пяюць жаваранкі» і «Зацікаўленая асоба»), найчасцей Міхась Лынькоў.

Цікава было назіраць збоку, як імі ўзважвалася, выпрабоўвалася і вывяралася тое ці іншае слова. Часам, асабліва ў Міхася Лынькова, гэты занятак не абыходзіўся без дасціпнага жарту.

У мяне не было вопыту працы ў часопісе. У асобе Уладзіміра Карпава я ўпершыню ў жыцці ўбачыў рабочага рэдактара мастацкіх твораў. Яго арганізатарскія здольнасці што-

дня адчуваліся ў рэдакцыйным жыцці. То ён прыспешваў Макара Паслядовіча і Аляксея Зарыцкага, каб першы з іх хутчэй здаваў чарговыя раздзелы рамана «Святло над Ліпскам», а другі — працяг паэмы «Світанскія сады». То ў прысутнасці ўсяго калектыву звяртаў увагу рэдактара на тое, што той ці іншы супрацоўнік даўным-даўно не адказвае на лісты чытачоў.

Ажыўленыя размовы пра рэдакцыйныя справы прадаўжаліся і пасля працы. Дахаты мы вярталіся пешшу. Па дарозе Уладзімір Карпаў таксама згуртоўваў нас як дасціпны завадатар...

Адразу пасля вайны былыя франтавікі і партызаны не выхваляліся адзін перад адным сваімі баявымі справамі. Удзел у змаганні з ворагам для кожнага быў заканамернай з'явай. Кожны ведаў, што ён выконваў там нейкую пэўную пасільную для яго справу. Не расказваў пра сваё мінулае і Уладзімір Карпаў. Мы ведалі, што ён удзельнічаў у партызанскай барацьбе, уваходзіў у склад спецгрупы. Толькі значна пазней, з дакументальных аповесцяў Івана Новікава я даведаўся пра тое, якія гераічныя справы ажыццяўляў у вайну Уладзімір Карпаў і дзе менавіта ён набываў арганізатарскія здольнасці.

Помню, як хораша прайшоў яго аўтарскі вечар у тэхналагічным інстытуце. На гэтым вечары разам з Героямі Савецкага Саюза М. Б. Осіпавай і І. М. Цімчуком выступалі і мы, пісьменнікі. Потым у невялікім сяброўскім застоллі адзін з пабрацімаў Уладзіміра Карпава раптам наіўна прызнаўся:

— Дарагі Валодзя! А мы ж тады, паклаў-

шы цябе параненага на фурманку і выправіўшы ў невядомую дарогу, шчыра кажучы, не спадзяваліся, што ты выжывеш...

Сам Уладзімір Карпаў пра гэта ніколі не расказваў...

Працяглая сумесная праца зблізіла нас, нягледзячы на васьмігадовую розніцу ва ўзросце. Калі ўзнікала гаворка пра пачатак вайны, мы абодва заўсёды прыгадвалі свой Мінскі педагагічны інстытут. У ім у першыя дні вайны ён, настаўнік, студэнт-завочнік, здаваў апошні дзяржаўны экзамен, а я — апошні залік за трэці курс.

Я глыбока паважаў Уладзіміра Карпава за тое, што ён, валжанін, дасканала авалодаў беларускай мовай, палюбіў наш народ.

Помню, як мы ўчатырох — ён, Дзмітрый Кавалёў, Адам Русак і я — выступалі на прадпрыемствах Рэчыцы. З гонарам Валодзя паказваў нам свой лесапільны завод, на якім калісьці працаваў цыркуляршчыкам, памочнікам станкавога, качагарам, сарціроўшчыкам. А потым, завейным адвячоркам, нацянькі, праз гурбы снегу, пацягнуў нас за шэсць кіламетраў у вёску Азершчыну слухаць хор Т. К. Лапацінай... Між іншым, у час той камандзіроўкі ён быў ініцыятарам напісання нашага адкрытага ліста ў «Советскую Белоруссию», у якім мы выступілі ў абарону гэтага самабытнага мастацкага калектыву.

Дарэчы, таксама падахвочаныя Валодзем, едучы ў Рэчыцу, мы напісалі тады ў купэ вагона «ананімную» камароўскую быль «Страшная месть»...

Я любіў хадзіць з ім на літаратурныя сустрэчы. І кожны раз сам захапляўся ягонымі

выступленнямі і быў сведкам таго, з якой увагай і цікаўнасцю слухалі яго іншыя. Відаць, умельству выступаць і трымацца перад аўдыторыяй у значнай меры паспрыяла ягоная даваенная праца настаўнікам літаратуры ў школе. Кнігалюбам ён цікава і займальна расказваў пра значэнне і ролю кнігі ў жыцці чалавека. Настаўнікам — пра стан развіцця сучаснай беларускай літаратуры.

Пра Мінск, які ён горача любіў і якому прысвяціў усе свае раманы, Уладзімір Карпаў апавядаў як пра жывую істоту, з нейкай асаблівай любасцю і замілаваннем... Рабіў падарожжа ў старажытнае мінулае Мінска, дзяліўся сваімі ўспамінамі пра акупіраваны горад, узнаўляў у памяці жахлівыя малюнкі яго руінаў.

У людзей на вачах паблісквалі слёзы, калі Уладзімір Карпаў з болем і горыччу апавядаў пра гераічную смерць удзельнікаў Мінскага падполля, з некаторымі з іх яму ў свой час давялося сустракацца пры небяспечных абставінах... Звычайна ў такія хвалюючыя хвіліны ён прасіў сваіх слухачоў-мінчан, каб яны помнілі гэтых людзей і ведалі, чаму іх прозвішчамі названы вуліцы горада-героя.

Нядаўна, едучы па Мінску, з акна аўтобуса я раптам заўважыў шыльдачку з назвай: вуліца У. Б. Карпава. Я адразу ж сышоў на першым бліжэйшым прыпынку. Усхваляваны, ад пачатку і да канца прайшоў і агледзеў гэтую невялікую, яшчэ як належыць не ўпарадкаваную вуліцу...

Не думаў калісьці хлапчук з Паволжа, што ў часе голаду яго выратуюць ад смерці простыя людзі гэтай лясной, забалочанай зямлі і

што ён, удзячны ім, будзе засланяць іх сваімі грудзьмі ў гадзіну ваеннага ліхалецця, потым ахвяруе ім сваё жыццё і свой розум,— а яны ў памяць назавуць ягоным прозвішчам адну з вуліц сваёй сталіцы.

*Сяргей Грахоўскі*

# НЕДАПІТЫ БЯРОЗАВІК

Перагортваю кнігу «Мы раскажам пра Мінск». На тытульным лісце пазначаны прозвішчы чатырох аўтараў: Уладзіміра Карпава, Рамана Сабаленкі, Тараса Хадкевіча і маё. Прозвішчы першых трох ужо аблямаваны жалобнымі рамкамі. З аўтараў гэтай кнігі застаўся я адзін. У глыбокай журбе гартаю старонкі і ўспамінаю, як яна нараджалася, як з'явілася кніга і яе назва, як адшліфоўваліся подпісы пад здымкамі, як мы ўчатырох сыходзіліся ў выдавецкім пакойчыку, каб разам усё прагледзець, памеркаваць, зрабіць усё, каб кніга стала лепшаю і прыгажэйшаю.

Неафіцыйным брыгадзірам, душою нашай аўтарскай чацвёркі стаў тады Уладзімір Карпаў. Усё, што тычылася Мінска, яго гісторыі, яго яшчэ не адбалелага болю, яго сённяшніх узлётаў і праблем, заўсёды хвалявала Уладзіміра Барысавіча. Мінск стаў яго любоўю, яго неспакоем, яго радасцю і захапленнем. Ён часта казаў, што нашу сталіцу ўспрымае як жывую істоту, як частку ўласнага лёсу, сваёй біяграфіі і душы. Ён быў адданым песняром Мінска.

Напрадвесні 1964 года, не згаворваючыся, мы ўчатырох апынуліся ў нашым Доме творчасці. Кожны быў заняты сваім, а ў вольны час старанна ўтоптвалі лясныя сцежкі, успаміналі далёкае і нядаўняе мінулае, дзяліліся сваімі радасцямі і трывогамі, часта вярталіся ў даваенную маладосць і ў пару ліхалецця.

Уладзімір Барысавіч з уласцівым яму запалам і захапленнем расказваў пра подзвігі мінскіх падпольшчыкаў Казінца і Караткевіча, Клумава і Кедышкі, Кабушкіна і Галы. Гаварыў так, нібы прайшоў з імі след у след ад першай яўкі да апошняга рубяжа. А пра тое, як ён прылятаў праз лінію фронту ў варожы тыл, як таемна прыходзіў з Лагойскай партызанскай зоны ў акупіраваны Мінск, расказвалі іншыя, толькі не ён.

Партызаншчыну, Мінскае падполле, матэрыял, які стаў асноваю яго кніг, ён ведаў дасканала, жыў ім, збіраў па каліву рысачкі і рысы герояў будучых кніг. Пра Мінск старажытны, даваенны, зруйнаваны і адроджаны Карпава можна было слухаць гадзінамі.

Некаторыя пісьменнікі перакананыя, што расказанае адразу блякне на рукапіснай старонцы, траціць яскравасць і сілу, таму ніколі не прызнаюцца, што і пра што пішуць. А Уладзімір Карпаў, шчодра расказваючы пра сваіх герояў, загараўся творчым запалам, ствараў вусныя гераічныя навелы, аздабляў кожны ўчынак і крок герояў такімі падрабязнасцямі і дэталямі, нібыта сам быў удзельнікам тых падзей. І яшчэ ў яго была зайздросная рыса — уважліва слухаць, дапытвацца і даходзіць да самой сутнасці.

У той час дырэктарам пісьменніцкага Дома

творчасці была колішняя мінская падпольшчыца Лідзія Міхайлаўна Шпілеўская. З ёю Уладзімір Барысавіч мог гадзінамі гаварыць пра жахлівыя і гераічныя падзеі ў акупіраваным Мінску. Потым многія размовы станавіліся старонкамі яго рамана «Нямігі крывавыя берагі», уваходзілі ў яго гераічныя і гнеўныя апавяданні апошніх год.

Аднойчы ў той ужо далёкі 1964 год, распырскваючы жужаль расталага снегу, да ганка нашага ляснога Дома творчасці пад'ехала машына. Тагачасны дырэктар выдавецтва Захар Матузаў і галоўны рэдактар Янка Казека самі прыехалі да пісьменнікаў. Звычайна было наадварот. А тут выдаўцы сталі просьбітамі. Просьба была ганаровая, канкрэтная і адказная — тэрмінова напісаць кнігу пра Мінск да 20-годдзя вызвалення сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Карпаў загарэўся адразу, падахвоціў нас і перавёў размову ў канкрэтнае рэчышча — хто пра што будзе пісаць. Адчувалася, каб было болей часу, ён бы сам узяўся напісаць усю кнігу. Але час быў вельмі абмежаваны — выдаўцы запазніліся. І ўсё ж большую рату — гісторыю Мінска і гады акупацыі — Уладзімір Барысавіч узяў на сябе. Пасляваеннае аднаўленне горада, прамысловасць і культуру мы падзялілі паміж сабою.

Работа была неадкладная, як большасць перад'юбілейных работ, калі часу застаецца з камарыны нос. Прыйшлося адкласці свае недапісаныя старонкі, ехаць у горад назапашваць матэрыял, узбройвацца фактамі і лічбамі, даведнікамі і рознымі справаздачамі і адразу ж брацца за тэрміновую работу. Нашым

галоўным дарадцам і «кантралёрам» стаў Уладзімір Карпаў: ён ведаў, з кім трэба сустрэцца, каму пазваніць, да каго звярнуцца, даваў адрасы і нумары тэлефонаў — было такое ўражанне, што ў яго пад рукамі цэлае даведачнае бюро. Ён заўсёды цікавіўся, як ідзе работа, напамінаў, што рукапіс трэба здаць у тэрмін, а то і раней, каб кніга паспела да свята.

Мы чыталі адзін аднаму свае раздзелы, удакладнялі факты, спрачаліся, адстойвалі часам нават свае памылкі, але адразу здаваліся перад неабвержнымі аргументамі такога знаўцы Мінска, як Карпаў.

Нарэшце рукапісы былі гатовы. Перш чым аддаваць іх рэдактару, узяўся прачытаць Уладзімір Барысавіч, каб не было часам паўтораў, недакладнасцей, каб хоць трохі наблізіць усе раздзелы да стылёвага адзінства.

Кніга выдавалася, як кажуць, у пажарным парадку. Мастак Л. Асецкі зрабіў добрыя гравюры, было адабрана мноства цікавых здымкаў, а з іх трэба было выбраць найцікавейшыя і скампанаваць іх у храналагічным парадку. І гэтую работу мастацкага рэдактара фактычна ўзяў на сябе Уладзімір Карпаў.

Не было яшчэ толькі назвы кнігі. Усе магчымыя загалоўкі перабралі і ні на адным не спыніліся. Страціўшы надзею «ахрысціць» сваю будучую кнігу, мы проста сядзелі, разважалі, фантазіравалі, гаварылі нешта неабавязковае. Нехта з нас спытаў: «А што мы раскажам пра Мінск?» Карпаў адразу нібы падскочыў:

— А чым не назва? А?

— Якая? — спытаў Матузаў.

— «Мы раскажам пра Мінск». Проста, дакладна і не збіта.

Так і парашылі.

Пачалася напружаная работа: мы рабілі подпісы пад фатаграфіямі. Уладзімір Барысавіч учытваўся ў кожны радок, прыглядаўся да кожнае коскі. Кніга выйшла і хутка разышлася. Мы працавалі над яе рускім варыянтам, дапаўнялі раздзелы свежымі фактамі і назіраннямі. Выйшла кніга на рускай мове і гэтак жа хутка пайшла да людзей.

Толькі няўрымслівая натура Карпава не сунімалася: ён не даваў спакою ні сабе, ні сваім сябрам, ні знаёмым і незнаёмым магчымым будучым аўтарам. Уладзімір Барысавіч задумаў кнігу-песню пра Мінск. Пачаў заказваць нарысы, эсэ, вершы, успаміны пра мінулае нашай сталіцы.

Ён мне неяк скардзіўся, што не спіць начамі — кніга «Горад і годы» адняла сон і спакой. Мне аж не верылася, што дзябёлы, мажны і поўны энергіі Карпаў не можа ўзяць сябе ў рукі. Тады, здаецца, ён упершыню сур'ёзна захварэў.

Пасля бальніцы пацішэла хада, але не патух тэмперамент і жар душы. Ён па-ранейшаму адстойваў свае перакананні, сваю праўату, балюча рэагаваў на самую дробную несправядлівасць. А гэта наўрад ці ўмацоўвае хворае сэрца.

Мы часта гулялі з ім па асеннім каралішчавіцкім лесе, а вёснамі радаваліся неспадзеўнай песні першага шпака, нясмелай пралесцы на рудой праталіне, звону асцярожнай кроплі бярозавіка ў гулкім гладышы. Уладзімір Барысавіч прагна піў халодны і чысты сок

вясны з таго гулкага гладыша, верыў, што кожная кропля вяртае сілу і спакой душы.

Мы збіраліся і ў наступную вясну паставіць свае гладышкі пад суседнімі бярозамі. Пайшоў бярозавік, але ён капае толькі ў адну гладышку. Колішні далікатны надрэз зацягнуўся карою, а з маленькай трэшчыны, нібы слязінкі, коцяцца кроплі ў бруснічнік і леташні мох.

Колькі ж не дапіў бярозавіку і радасцей жыцця, колькі не даказаў няўрымслівы пісьменнік Уладзімір Карпаў!

*Веніямін Рудаў*

# СУСТРЭЧЫ

...У тым годзе па стану здароўя мяне перавялі з граніцы ў Мінск, аб якім я шмат чуў, і, хоць ведаў, што прыйдзецца доўга жыць без кватэры, быў бясконца рады перамене.

Стаяў канец лета, незвычайна сухога і спякотнага для Беларусі. Вецер насіў па асфальце рана абляцеўшае лісце маладых ліп, якія нядаўна высадзілі ўздоўж Ленінскага праспекта. Было душна і пыльна.

І раптам у канцы жніўня, нібы наверстваючы ўпушчанае, на Мінск абрынулася навальніца. Горад, здавалася, уздрыгваў ад перуновых раскатаў, па Ленінскім праспекце ўніз, да плошчы Перамогі, беглі патокі вады, утвараючы вакол абеліска суцэльнае мора.

Засцігнуты ліўнем, я схаваўся пад навесам нейкага балкона. У памяці назаўсёды захавалася мімалётная сцэнка — нечакана раскрылася акно, з якога напалову высунуўся пад дождж незнаёмы мне чалавек.

— Таварыш! — крыкнуў ён мне.— Навошта мокнуць? Калі ласка, сюды, да мяне зайдзіце.

Так адбылося знаёмства з Уладзімірам Барысавічам Карпавым.

У той дзень я засядзеўся ў яго дапазна — балазе, лівень не сціхаў. І яшчэ дрэнна сохла мая вопратка, якую мілая гаспадыня Марыя Міхайлаўна прымусіла зняць для прасушкі. Гаварылі пра ўсякую ўсячыну, але менш за ўсё пра літаратуру, у якой я рабіў першыя крокі, напісаўшы дзве невялічкія аповесці. Уладзімір Барысавіч таксама не закранаў гэтай тэмы, толькі, між іншым, заўважыў, што пра Мінск нешта напісаў. Ужо потым, многа пазней, атрымаўшы ў падарунак ад яго раман «За годам год», я зразумеў, што хавалася за кароткім «нешта».

Пра Мінск, горад, у які ён быў літаральна закаханы і, па-сутнасці, усю сваю творчасць прысвяціў яго гераічнаму летапісу, Уладзімір Барысавіч мог гаварыць гадзінамі, без стомы, кожны раз нешта новае. Не часта ўспамінаў акупіраваны фашыстамі горад, куды прыходзіў як разведчык, але калі ўспамінаў, дык з нейкім сумам і патаемнай горыччу.

У той вечар, гадзіне а дванаццатай, ён выйшаў мяне праводзіць. Мы ішлі па Ленінскім праспекце, ужо бязлюдным у гэтую позную пару, размаўлялі напаўголаса, быццам баючыся патрывожыць сонную цішыню. Я больш маўчаў, слухаў.

— Пастаім, калі не спяшаецеся,— тонам просьбы прамовіў Уладзімір Барысавіч. Мы як раз дасягнулі плошчы Перамогі.— Не паверыце,— загаварыў ён,— што якіх-небудзь дзесятак год таму назад тут усё ляжала ў руінах, а яшчэ трохі раней, калі ў горадзе гаспадарылі фашысты, вакол плошчы і паблізу Даўга-

бродскай (зараз вуліца Казлова) стракацелі кавалачкі агародаў, палоскі жыта і... крычалі перапёлкі. Так, так, я не памыліўся — перапёлкі.— Ён стаў расказваць аб тым, як з руін узнімаўся цудоўны горад, гаварыў з такім запалам, быццам сваімі рукамі прыладжваў цагліну да цагліны. І раптам, здалося, без усякай сувязі з тэмай нашай размовы прамовіў з непрывычнай жорсткасцю: — Беражыце сэрца.

Тады я падумаў, што ён, відаць, запомніў, па якой прычыне адбылося маё перамяшчэнне ў Мінск. Не прыйшло ў галаву, што ў гэтыя словы ўкладаўся больш глыбокі сэнс.

Мы сустрэліся праз некалькі год на рэдакцыйным савеце ў выдавецтве «Беларусь», дзе вырашаўся лёс маёй новай кнігі: вырашаўся ўжо ў які раз, натыкаючыся на супраціўленне галоўнага выдаўца і яго аднадумцаў. Зараз, з вышыні пражытых год, разумею асцярогу выдаўца — у кнізе расказвалася пра падзеі нядаўніх год, што адбыліся ў іншай рэспубліцы; адным словам, яе выданне, як некаторым здавалася, пагражала многімі непрыемнасцямі.

На гэты раз першым узняўся малады літаратар, член рэдакцыйнага савета, і з месца ў кар'ер разнёс у пух і пер'е мой раман, а ў заключэнне катэгарычна заявіў:

— Я ў аўтара гэтай кнігі не веру.

У кабінеце галоўнага стала ціха, нехта нецярпліва паглядаў на гадзіннік, нехта — на галоўнага, які дыпламатычна маўчаў, хоць усім, хто сядзеў за доўгім сталом для пасяджэнняў, нават мне, які прымасціўся збоку, было ясна — лёс кнігі вырашаны беспаваротна і назаўсёды.

— Што ж, будзем закругляцца,— нарэшце

сказаў галоўны і, як бы спачуваючы, пагля-дзеў на мяне.— Можа быць, вы хочаце сказаць што-небудзь? — запытаў такім тонам, што ў мяне адпала жаданне не тое, каб гаварыць, а наогул заставацца тут.

— Ён не хоча «што-небудзь»! — прагучаў нечакана рэзкі голас Уладзіміра Барысавіча.

Усе на яго азірнуліся.

— Вы хочаце выступіць? — спытаў галоўны.

— Абавязаны! — адказаў Уладзімір Барысавіч.— І пачакайце закругляцца,— дадаў, узнімаючыся з-за стала.— Што значыць, закругляцца? На якой падставе? Вырашаецца пытанне — быць ці не быць ужо напісанай кнізе. Пры чым тут чыя-небудзь суб'ектыўная думка і што значыць «не веру ў аўтара»?.. Я, напрыклад, веру, што вы далёка пойдзеце...— не гледзячы на маладога літаратара, але адрасуючы яму гэту рэпліку, сказаў ён даволі спакойна, хоць твар яго быў мелавы.— Давайце аргументавана рашаць, патрэбна гэта кніга чытачу ці не.

— А вы як лічыце? Вы асабіста,— удакладніў галоўны.

— Патрэбна. Вы і самі ведаеце. І асцярога ваша зразумелая...

— Вось бачыце!..

— Бачу і настойваю на выданні кнігі. У ёй ёсць некаторыя агрэхі, але іх лёгка выправіць, і я гатовы дапамагчы аўтару, калі ён, вядома, не супраць...

— І я гатовы,— падаў рэпліку Тарас Канстанцінавіч Хадкевіч.

...З удзячнасцю і болем успамінаю гэтых, так рана пайшоўшых ад нас пісьменнікаў, чые

чалавечнасць і дабрата пранесены імі праз усё жыццё, часта на шкоду сабе, сваім кнігам.

Нашмат выразней і лепей разумею, між іншым, кінутую Уладзімірам Барысавічам фразу ў першы дзень нашага знаёмства, калі ён раіў паберагчы сэрца. І зусім невыпадкова напісаў ён у сваёй аўтабіяграфіі: «У маім пісьменніцкім жыцці было не многа радасцей. Найбольшай яна была, калі я працаваў... Не заўсёды жыццё песціла мяне. Здараліся хвіліны, калі яно да мяне абарочвалася спінаю і было глыбока несправядлівым...»

Ужо тады, у год нашага знаёмства, у яго здараліся сардэчныя прыступы, і адзін з іх скончыўся цяжкім інфарктам, які надоўга прыкаваў яго да бальнічнага ложка. Яму больш чым каму-небудзь іншаму трэба было берагчы сваё сэрца. Але ён яго не шкадаваў. Не раз прыходзіць на розум: хто я яму — сваяк, закадычны прыяцель? На самай справе — хто? Не кожны ў яго стане кідаўся б з такой высакароднай лютасцю на абарону малазнаёмага чалавека, не баючыся настроіць супраць сябе людзей, ад якіх у нейкіх адносінах залежаў не столькі ён сам, колькі яго кнігі, у якія ўкладваў усю сваю душу і сэрца.

Разумею, ува мне гаворыць асабістае. Але гэта асабістае як нельга лепш характарызуе Уладзіміра Барысавіча — Чалавека і Грамадзяніна, бо па-сапраўднаму людзі пазнаюцца не на святкаваннях і ўрачыстых пасяджэннях.

— Пішыце,— сказаў ён мне, калі мы неяк сустрэліся ў Саюзе пісьменнікаў.— І бог з ім, з сэрцам, хай б'ецца колькі можа.

Не пакрыўлю душой, калі скажу з поўнай адказнасцю: тым, што працягваю актыўна

працаваць у літаратуры і з таго памятнага пасяджэння рэдакцыйнага савета выдавецтва «Беларусь» напісаў некалькі раманаў і аповесцей, я галоўным чынам абавязаны сяброўскай падтрымцы Уладзіміра Барысавіча, яго асабістаму прыкладу грамадзянскай мужнасці.

Мы рэдка сустракаліся, часам перакідваліся некалькімі словамі па тэлефоне,— усё было некалі, заўсёды мы спяшаліся некуды, забываючыся, што час таксама спяшаецца, і таго, што ўпусціш, потым не навярстаеш. Работа, работа, работа — яна стаяла над усім.

Аднойчы мне пазваніла Марыя Міхайлаўна.

— Валодзя вас хоча бачыць,— сказала яна змяніўшымся голасам. І не стрымала слёз: — Зноў інфаркт.

Гэта быў трэці па ліку.

У бальнічным пакоі іх было двое, абодва немаладыя, паўнатварыя, нечым падобныя.

— Не пазнаў? — запытаў Уладзімір Барысавіч.— Вось, брат, незадача якая!..— Ён зморшчыўся ад болю ці прыкрасці.— Я тут ляжу ў бяздзеллі, незавершаная кніга — дома, на пісьмовым стале. Да, паршывая штука — інфаркт.— Ён праз сілу ўсміхнуўся: — Але мы яшчэ пабораемся. Не ў такіх перадзелках бывалі... Нічога,— бадзёрыў ён сябе.

І сапраўды падняўся, пераадолеўшы нядуг, і некалькі год працаваў без стомы, спяшаўся, быццам прадчуваючы блізкі канец.

...Яго не стала. На кніжнай паліцы стаяць яго кнігі, якім ён аддаў без астатку ўсё сваё жыццё, усё да апошняга дыхання. Асталіся кнігі. А мне яго самога заўсёды не хапае.

*Алесь Асіпенка*

# НЕЗАБЫТАЕ, УСПОМНЕНАЕ...

Наша пакаленне жыло ў эпоху бурных мітынгаў і сходаў, гучных дэкларацый і заклікаў, але і глыбока затоенага страху, які вучыў асцярожнасці як ва ўчынках, так і ў словах. Ці не таму мы так мала ведаем адзін аднаго, хоць жылі, працавалі побач гады?

Месяцы за два да раптоўнай смерці Уладзіміра Барысавіча Карпава я вёў ягоны творчы вечар у вялізнай зале Мінскага тэхналагічнага інстытута — апошнюю сустрэчу пісьменніка са сваімі чытачамі.

Вечар ішоў на высокім уздыме, на адным дыханні. Выдатна чыталі ўрывак з рамана «Нямігі крывавыя берагі» заслужаная артыстка БССР Рыма Маленчанка і навелу «Горкі вянок» народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч. Прачулыя словы сказалі Героі Савецкага Саюза, сябры, паплечнікі Уладзіміра Карпава Марыя Барысаўна Осіпава і Іван Мацвеевіч Цімчук. У вечары прымалі ўдзел народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, пісьменнікі Мікола Аўрамчык, Іван Грамовіч, Міхась Калчынскі.

Як і належыць, у канцы вечара выступіў

Уладзімір Барысавіч. Выступаў натхнёна, тэмпераментна...

Неўзабаве пасля вечара мяне паклалі ў бальніцу. Паверхам вышэй ляжаў Аркадзь Маўзон. Неяк ён зайшоў да мяне: «Прывезлі Карпава,— сказаў ён,— ляжыць у рэанімацыі на нашым паверсе. Сэрца». Я папытаў у загадчыка аддзялення, як адчувае сябе Карпаў і ці можна яго праведаць. «У яго дужа цяжкі прыступ»,— адказаў той, але я так і не адчуў бяды: Карпаў бываў і ў не такіх штормах, а цяпер жа мірны час і бальніца не з горшых у Мінску. «Крыху ачуняе — зайду»,— падумаў я.

А праз нейкі час паявіўся хмуры, насуплены Маўзон. Па ягоным твары можна было здагадацца, што здарылася непапраўнае. Я моўчкі глянуў на яго. Маўзон, раздзельна вымаўляючы кожнае слова, нібы забіваючы цвікі, сказаў: «Яго... ужо... няма».

Як найчасцей і бывае, калі памірае чалавек, мы пачалі прыгадваць самыя розныя эпізоды, звязаныя з ім. Вось тады, у бальнічнай палаце, я раптам адкрыў для сябе, што, нягледзячы на наша дваццацігадовае знаёмства, я, бадай, амаль нічога не ведаю пра Уладзіміра Барысавіча, што ён застаўся для мяне homo incognito — чалавекам таямнічым.

А сустракаліся мы даволі часта. Найбольш, праўда, у Доме творчасці «Каралішчавічы» ці ў Саюзе пісьменнікаў, яшчэ ў тым старым будынку па вуліцы Энгельса, дзе было цесна, дзе стаялі жорсткія крэслы ў адзіным на ўсё саюзаўскае кіраўніцтва кабінеце, у які можна было зазірнуць у любы час і заўсёды пачуць ветлівы голас мудрага Пятра Усцінавіча Броўкі, што падахвочваў цябе: «Заходзь, заходзь!

Як справы? Што пішаш?» Цяпер выраслі штаты, пашырыліся кабінеты, памякчэлі крэслы, але ў іх чамусьці не хочацца сядзець.

Уладзімір Карпаў належаў да пакалення «жорсткіх крэслаў», якое не любіла выстаўляць сябе, затое з захапленнем расказвала пра справы сваіх сяброў, ганарылася імі. Таму на працягу доўгіх год знаёмства і адкрываліся табе нечаканыя, уразлівыя штрыхі біяграфіі, пра якія ты і не здагадваўся. Я, напрыклад, толькі на тым вечары пачуў, што ў Карпава было званне старшы разведчык. Толькі ў той вечар даведаўся пра некаторыя падрабязнасці знаёмства Карпава з акупіраваным Мінскам, калі падпольшчыкі вазілі яго па горадзе ў машыне. Сам Карпаў быў чалавек стрыманы. Штрыхі да біяграфіі ваенных гадоў дадавалі сябры-таварышы па зброі.

І ўсё ж, паўтару зноў, для мяне ён застаўся чалавекам таямнічым.

...Недзе ў канцы пяцьдзесят чацвёртага ці на пачатку пяцьдзесят пятага года я ўпершыню прыехаў у Каралішчавічы. У той год стаяла марозная, снежная зіма, і мы, чалавек дзесяць, што працавалі ў Доме творчасці, пасля начной завірухі ўзбройваліся лапаткамі, шуфлямі, мётламі, чысцілі сцежку да сталоўкі. Уладзімір Барысавіч звычайна быў галоўным «закапёршчыкам» па наладжванню такіх «ранішнікаў фізічнай працы».

Але гэта было крыху пазней. А недзе на другія суткі майго жыцця ў Доме творчасці я рана лёг спаць і прачнуўся ад грукату ў дзверы веранды. Чуліся і галасы. Уссунуўшы на босую нагу чаравікі, накінуўшы наапашку паліто, я выйшаў на веранду. На ганку стаялі

двое. Я іх пазнаў адразу — Пiлiп Сямёнавiч Пестрак і Уладзімір Барысавiч Карпаў.

— Прыйшлі пазнаёміцца,— сказаў Карпаў, зайшоўшы ў пакой.— Кажуць, таксама партызан?.. А дзе партызаніў?

І гэта «таксама» як бы далучала мяне да яго, як бы ставіла поруч, у адну шарэнгу. Пiлiп Сямёнавiч перапыніў нашу гамонку:

— Ну, досыць,— рашуча сказаў ён,— высвятляць свае радаслоўныя. Хадзем з намі ды паседзімо ў добрай кампаніі.

Не памятаю ўжо, што была за кампанія, але Карпаў і Пестрак запомніліся сваёй неардынарнасцю, нешаблоннасцю ў размовах і меркаваннях. Чулася, што Карпаў шмат перажыў і пабачыў і што выказванні яго грунтуюцца на гэтым вопыце і перакананасці — толькі так, а не іначай. Катэгарычнасць у меркаваннях і тая паслядоўнасць, з якой ён прытрымліваўся гэтых меркаванняў, прасочваецца і ва ўсіх творах Уладзіміра Барысавіча, напісаных на самых розных адрэзках нашага вельмі зменлівага часу. Пастаянства, вядома, якасць станоўчая, хоць пры розных акалічнасцях яна дае розныя вынікі. Уладзімір Карпаў заставаўся пастаянны ў сваіх поглядах на рэчаіснасць і з'явы, народжаныя ёю. Ягоны пункт гледжання заставаўся толькі ягоным, і ён кіраваўся ім як у асабістых адносінах, так і ў грамадскім жыцці. Ягоныя сімпатыі і антыпатыі былі ўстойлівыя. Аднойчы ў даволі бурнай спрэчцы Карпаў сказаў: «Мяняць можна коней, а не погляды». З гэтым можна не пагадзіцца, але такое нельга не паважаць.

У Карпава была, і таксама трывалая на-

заўсёды, любоў да Мінска, да яго спраў. З зайздросным пастаянствам Уладзімір Барысавіч распрацоўваў тэму свайго горада, яго станаўлення, і адзін вобраз гэтага горада хваляваў, мучыў яго ўсё жыццё: запусцелы трамвайны парк, у якім начуюць зайцы, і градкі з качанамі капусты ля опернага тэатра, абгароджаныя спінкамі абгарэлых нікеляваных ложкаў. Уладзімір Барысавіч мог расказваць пра гэта бясконца, але кожны раз з душэўным болем, які перадаваўся слухачам і таксама ўражваў іх.

Шмат гадоў Уладзімір Карпаў працаваў у часопісе «Полымя» загадчыкам аддзела прозы. Да таго як быў павялічаны аб'ём часопіса «Маладосць», «Полымя» фактычна заставалася адзіным люстэркам, што адлюстроўвала стан беларускай літаратуры на працягу больш як дзесяці гадоў пасляваеннага жыцця. І ўсе празаічныя дэбюты таго часу адбываліся пры самым непасрэдным удзеле Уладзіміра Барысавіча.

Мой уласны дэбют у «Полымі» застанецца ў памяці назаўсёды. Не, не апавяданнямі, якія былі надрукаваны, а шчырымі, добразычлівымі адносінамі Уладзіміра Барысавіча да мяне, жаданнем і ўменнем дапамагчы, абнадзеіць, скіраваць на верны шлях.

Аднаго разу Уладзімір Барысавіч спытаў, чаму я не прыношу ў «Полымя» апавяданні? Я прызнаўся шчыра, што пабойваюся і саромлюся.

— А цяпер што ёсць гатовае ці хоць у накідах? — спытаў Карпаў.

— Ёсць!..

— То, можа, пачытаеш?.. Так, між намі...

У другі раз мне прапаноўвалі пачытаць свае «тварэнні». Першы раз — Кузьма Чорны. Другі — Уладзімір Карпаў.

Не ведаю чаму, але сярод пісьменнікаў цяпер чамусьці ў загоне чытанне твораў адзін аднаму. А справа гэтая, далібог, і прыемная, і карысная.

З Уладзімірам Карпавым мы тады зноў жылі ў Каралішчавічах.

— Заходзь гэтак гадзіне а дзевятай вечара,— сказаў Уладзімір Барысавіч, калі я з радасцю і бояззю даў згоду чытаць.

Захапіўшы стосік апавяданняў, я падняўся на другі паверх. Уладзімір Барысавіч ужо чакаў.

— Сядай вось сюды,— паказаў ён на крэсла пры стале, на якім зырка свяціла настольная лямпа,— ды чытай не спяшаючыся — часу ў нас хапае...

Сам ён сеў збоч стала ў цень ад абажура, абхапіў рукамі скроні.

— Чытай!..

У «стосіку» было нешта ці не пяць апавяданняў, адно з іх старонак пад трыццаць. Я чакаў, што мы спачатку пагаворым, выберам... А тут — чытай!..

Я пачаў чытаць, час ад часу кідаючы позірк на гаспадара пакоя. Уладзімір Барысавіч сядзеў усё ў той жа засяроджанай паставе. Калі я скончыў чытаць першае апавяданне, ён страпянуўся: «Чытай наступнае...»

Чаму карысна чытаць апавяданне ўголас? А таму, што раптам пачынаеш адчуваць, чуць, бачыць шурпатасці стылю, лішнія, недакладныя словы, сказы, абзацы, зацягнутыя, ненатуральныя дыялогі, паўторы ў апісаннях,— усе

агрэхі вылазяць напаверх, як пырнік пасля дажджу. Уладзімір Барысавіч уважліва слухаў, а мне хацелася кінуць гэты занятак, бо я чуў, як спатыкаюся на кожным кроку, нібы іду па пнёўі.

— Не замарыўся яшчэ? — спытаў Карпаў праз нейкі час, што перастаў для мяне існаваць.

Што я мог адказаць?

— Я дык не, а вы?..

— Ну, то чытай.. Ці-ка-ва!

Што «цікава», я так і не зразумеў, і зноў пайшоў па пнях і каўдобінах уласных твораў.

Гэта быў найвялікшы ўрок самапазнання, самаразумення, крытычных адносін да сябе, да сваёй творчасці: вось гэта варта скасаваць, гэта перапісаць, над гэтым падумаць...

Тры апавяданні былі ўхвалены, я яшчэ крыху пасядзеў над імі, а неўзабаве яны былі надрукаваны ў «Полымі».

Мы і сустракаліся найбольш у Доме творчасці ды яшчэ на нуднейшых, а часам дужа гаманкіх пісьменніцкіх сходах, дзе толькі можна было перакінуцца словам-двума. Часам мы разыходзіліся ў поглядах на нейкую літаратурную з'яву, спрачаліся з зацятасцю перакананых у сваёй праваце людзей, ды гэта не шкодзіла далейшым сустрэчам і ўзаемнай прыхільнасці. Карпаў умеў паважаць думкі іншых, але ж умеў і пастаяць за сябе, за свае погляды. Ды яшчэ як!.. Тут ён не паддаваўся на кампрамісы.

Аднаго разу ў тым жа Доме творчасці мы доўга хадзілі па зімняй дарозе, сярод лесу з белымі кучомкамі снегу на яловых лапах. Дзень быў сонечны, але няяркі, прымглёны

ружаватай смугой і дужа звонкі. Галасы, шолахі лесу, рыпенне снегу — усё злівалася ў адну вячыстую, непаўторную сімфонію. Мусіць, яна і абуджала ўспаміны аб вайне, аб людзях, з якімі даводзілася сустракацца і якія засталіся ў вайне. Я адчуў тады ў асобе Карпава натуру незвычайную. Мне захацелася зразумець яе, спасцігнуць. Але так і не спасцігнуў, ды і не спасцігну ўжо.

Шкада!..

*Уладзімір Карпаў*

# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

Не магу назваць сябе блізкім сябрам Уладзіміра Барысавіча. У нашых адносінах не было многіх кампанентаў, з якіх складаецца гэтае, вельмі ёмістае, высокае і да многага абавязваючае паняцце — сяброўства. Але ў нас былі ўзаемныя сімпатыя і давер. Мы паважалі адзін аднаго і заўсёды гаварылі адкрыта на любыя асабістыя і палітычныя тэмы. Я не буду пераказваць гэтыя нашы гутаркі, хаця яны былі вельмі змястоўныя, цікавыя і, я б нават сказаў, арыгінальныя. Давер, аказаны мне як субяседніку, нават зараз, калі няма з намі Уладзіміра Барысавіча, абавязвае не быць балбатлівым, але, каб не нарадзіць нейкую двухсэнсоўнасць, скажу абагулена. Уладзімір Барысавіч быў вельмі чыстай і светлай натурай. Што ж датычыць палітычных разважанняў,— то тут Уладзімір Барысавіч валодаў зайздроснай цвёрдасцю і прынцыповасцю, даваў свае асабістыя ацэнкі падзеям і людзям.

Раскажу толькі аб адной нашай размове, што пацвярджае, на мой погляд, сказанае. Як вядома, Уладзімір Барысавіч не быў членам

партыі. Калі я пачуў аб гэтым, дзесьці ў пяцідзесятых гадах, то вельмі здзівіўся і, не жадаючы даведвацца акольным шляхам аб прычынах такой неадпаведнасці ў яго біяграфіі, спытаў аднойчы яго самога:

— Як так атрымалася, Уладзімір Барысавіч, што вы сваімі справамі і да вайны, і ў гады вайны, і, нарэшце, як удзельнік спецгрупы па сутнасці справы павінны былі быць камуністам.

Ён задумліва ўсміхнуўся:

— Званне камуніста я заўсёды ставіў высока, да вайны не лічыў сябе дастойным такой высокай місіі. Сутнасць жа яе не толькі ў назве, але перш за ўсё ў дзеяннях! А чым я апраўдаю высокае званне? У час вайны суцяшала тое, аб чым вы сказалі. Я лічу сябе камуністам, і на справе, як вы кажаце, быў такім. Мяне лічылі камуністам мае сябры і начальнікі. Яны мне ва ўсім давяралі. А аформіць сваё ўступленне дакументальна ўсё неяк не было часу. У падполлі, у разведчыках, самі ведаеце, якое было напружанае, скрытае жыццё.

Ну, а калі мы перамаглі, я зусім быў сабраўся падаць заяву, ды раптам падумаў вось аб чым. А ці не скажуць мне: чаго ж гэта вы парашылі ісці на ўсё гатовенькае ў партыю? А дзе ж вы раней былі, калі партыі было вельмі цяжка. Вось так паразважаўшы, я і не падаў заявы.— Ён усміхнуўся і, уздыхнуўшы, дадаў: — Увогуле, я камуніст, толькі без партбілета.

Не цяжка заўважыць у гэтых словах Уладзіміра Барысавіча высокае пачуццё адказнасці да звання камуніста, сціпласць, з якой

ён падыходзіў да ацэнкі сваіх баявых і творчых спраў, а таксама і здаровую, добрую годнасць, калі чалавек не можа дапусціць у свой адрас нават ценю дакора за тое, што ён хоча ўступіць у партыю пасля самых цяжкіх для яе выпрабаванняў.

Можна, вядома, запярэчыць, сказаўшы, што ў партыі заўсёды многа гарачых спраў і, што калі б чалавек ні ўступіў у яе рады, ён заўсёды патрэбен і можа праявіць сябе самым актыўным і карысным чынам, але, на жаль, зараз позна выказваць такія меркаванні, не маючы магчымасці пачуць у адказ аргументы Уладзіміра Барысавіча. Вынік у гэтай спрэчцы падвяло жыццё — Карпаў у справах і творчасці сваёй быў і застаўся камуністам.

Я ведаў Уладзіміра Барысавіча даўно па яго кнігах, па расказах аб ім, па артыкулах. Пазнаёміліся ж мы з ім асабіста на IV з'ездзе пісьменнікаў СССР у Маскве. Прычым пазнаёміліся пры такіх вось абставінах. Як вядома, на кнігах, у спісках, афішах прынята імёны пісьменнікаў па бацьку не пазначаць. Вось і тады дэлегатаў з'езда запрашалі на заводы, у інстытуты, у арганізацыі, на сустрэчы з чытачамі. У перапынках паміж пасяджэннямі з'езда нам аб'яўлялі спісы груп пісьменнікаў — хто, куды і калі едзе на сустрэчу. Аднойчы я пачуў сваё прозвішча ў складзе групы, якая павінна была выступіць у Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна. Прыехаў туды разам з другімі калегамі. І раптам генерал, які вёў гэтую сустрэчу, аб'явіў:

— У нас у гасцях пісьменнік, былы разведчык-падпольшчык Карпаў Уладзімір Барысавіч.

Я зразумеў, што адбылася памылка.

Афіцэры, што запоўнілі залу, моцна запляскалі ў далоні, а я, нямала збянтэжаны, выйшаў да рампы і прызнаўся, што я не той Карпаў. У зале засмяяліся. Але я паабяцаў расказаць пра Уладзіміра Барысавіча ўсё, што ведаў. У зале зноў узняўся смех. А я, на самай справе, расказаў пра Уладзіміра Барысавіча і яго творчасць усё, што мне было вядома.

— А зараз пра сябе! — крыкнулі з залы.

Вось так мне давялося выступіць за дваіх Карпавых.

У гасцініцы я адшукаў Уладзіміра Барысавіча і расказаў яму аб тым, што здарылася. Аказалася, што і з ім адбылося нешта падобнае.

— Нам неабходна бліжэй пазнаёміцца адзін з адным, каб наступным разам пры такіх памылках не адчуваць сябе скаванымі,— сказаў Уладзімір Барысавіч.

Так пачаліся нашы добрыя таварыскія адносіны. Мы гутарылі, зрэдку абменьваліся пісьмамі, новымі кнігамі.

У 1971 годзе ў Доме творчасці імя Райніса ў Дубултах мы ўжо сустрэліся як старыя добрыя прыяцелі. Пазнаёмілі нашых жонак. Разам адпачывалі, пра многае гаварылі. Там жа мы адзначылі мой сорак дзевяты дзень нараджэння, на ўспамін аб якім сфатаграфаваліся. Гэтыя фатаграфіі нашы сем'і беражліва захоўваюць і сёння.

Адной з характэрных рыс Уладзіміра Барысавіча, па-мойму, была стрыманасць. Не тая стрыманасць, якая бывае ў некаторых ад халоднасці натур, а наадварот — у ім быў вя-

лікі зарад энергіі, думак, пачуццяў, жаданне дзейнасці. І, адчуваючы ў сабе і разумеючы сілу гэтага эмацыянальнага і духоўнага зарада, Уладзімір Барысавіч пастаянна імкнуўся да гэтай вось стрыманасці.

Я ўсяго адзін раз бачыў, калі яго «прарвала». Не, ён не крычаў, не жэстыкуляваў, у яго былі ртутна-прапальваючыя вочы, сечаныя фразы, і словы цяжкія, быццам літыя з чыгуна. Прычынаю гэтага выбуху гневу была нейкая лаянка, выказаная ў яго адрас не то замежнай радыёстанцыяй, не то «Бі-бі-сі», не то «Голасам Амерыкі».

Вось тут Уладзімір Барысавіч і ўзбунтаваўся!

Я супакойваў яго:

— Радуйцеся — ворагі лаюць — гэта лепшая ацэнка вашым творам!

Ён паглядзеў на мяне гарачымі, сярдзітымі вачыма, а потым, зразумеўшы, пра што я кажу, адразу пацяплеў, усміхнуўся сваёй добраю, мяккаю усмешкаю і зусім ужо ласкава сказаў:

— Ну і сволачы ж!

Ён зноў стаў такім, якім мы прызвычаіліся бачыць яго заўсёды — спакойным, ураўнаважаным, немнагаслоўным, стрыманым.

І яшчэ кажуць, што ў вострых крытычных сітуацыях вайны ён быў такі ж вось дынамічны, раскрыты, гатовы зрабіць усё, што трэба, каб вывесці сваіх баявых таварышаў з цяжкага становішча.

У штодзённых пісьменніцкіх справах і турботах Уладзімір Барысавіч заўсёды быў, як кажуць, у актыве, не толькі за пісьмовым сталом, хаця гэта ёсць самая галоўная актыў-

насць літаратара, але і ў грамадскім жыцці, ён заўсёды ведаў, дзе галоўны напрамак у гэтай рабоце.

Памятаю, з 27 лютага па 3 сакавіка 1975 года ў Мінску праходзіла Усесаюзная нарада, прысвечаная тэме «Бессмяротны подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура». Гэта быў вялікі гонар для беларускай пісьменніцкай арганізацыі — у дні святкавання 30-годдзя Вялікай Перамогі — праводзіць на сваёй зямлі такое ўсесаюзнае мерапрыемства. Гэты гонар беларускі народ заваяваў перш за ўсё важкім укладам герaічных спраў у нашу агульную перамогу. Да ўдзельнікаў нарады з вельмі цёплай і змястоўнай прамовай звярнуўся кандыдат у члены Палітбюро КПСС П. М. Машэраў. Памятаю, тады я падумаў, ды і многія пісьменнікі выказалі такую ж думку: «Шчаслівыя нашы беларускія калегі, такі ў іх цудоўны Першы сакратар ЦК КПБ — не толькі выдатны палітычны кіраўнік, але і Герой Савецкага Саюза, сам партызан і ў пытаннях літаратуры тонка разбіраецца».

Многа на той нарадзе было надзвычай добрых выступленняў, адбылося многа задушэўных размоў і сустрэч. Мы аддалі належную павагу пераможцам у гады Вялікай Айчыннай вайны і атрымалі зарад для далейшай творчай працы. І аб усім гэтым я ўспамінаю зараз, гаворачы пра Уладзіміра Барысавіча, таму, што шматлікім мерапрыемствам, паездкам на месцы баёў, выступленням на сустрэчах з чытачамі, знаёмству з лепшымі людзьмі прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў — усяму гэтаму папярэднічала вялікая работа

дружнага калектыву беларускіх пісьменнікаў, і Уладзімір Барысавіч як член Праўлення Саюза, вядома ж, прыклаў нямала сілы. Ён тады ўжо прыхворваў, дактары раілі яму берагчы сваё сэрца. Але берагчы — значыць лягаць, а Карпаў лічыў: калі лёг, значыць — здаўся! А ён не хацеў здавацца — ён хацеў працаваць!

І хто ведае, магчыма, гэтая актыўнасць, пастаяннае гарэнне не скарацілі, а прадоўжылі яго жыццё. Ва ўсякім разе, сам ён быў шчаслівы толькі тады, калі мог працаваць...

## *Алесь Савіцкі*

# ТОЛЬКІ АДНА ПРАЛЕСАЧКА

Напрадвесні таго года, калі Уладзімір Барысавіч памёр, мы абмяняліся з ім сваімі новымі кнігамі: ён падараваў мне кнігу, якая нядаўна выйшла з друку — «Прызнанне ў нянавісці і любві»,— а я аддаў яму першую кнігу свайго рамана «Верай і праўдай».

— Прачытаю неадкладна. З ахвотаю прачытаю і думку сваю выкажу табе,— сказаў ён і дадаў з усмехам: — І не проста, а — з алоўчкам...

Я ведаў, што ён хварэў перад гэтым. Ведаў, што рыхтуе да выдання ў Маскве другі том сваіх выбраных твораў, першы том, добрая грунтоўная кніга, ужо выйшаў у «Советском писателе», і ён паказваў яе мне з гонарам і ўзрадавана, і што гэтай працаю, працаю над другім томам, ён заняты моцна і, вядома ж, стамляецца, і таму папрасіў спачувальна:

— Пры нагодзе прачытаеце. Як час вольны знойдзецца.

— Была б ахвота, а час заўсёды знойдзецца. Ахвота ж ёсць,— і нечакана, з нейкім прытоеным сумам, быццам дакараючы некаму,

дадаў: — Мы адзін аднаго ўжо і чытаем мала. Усё больш сваім, уласным заклапочаныя...

Пачуўся ў гэтым нейкі папрок і мне асабіста, і я, вярнуўшыся дамоў, адразу ж разгарнуў новую кнігу свайго старэйшага сябра. Яна — кніга ўспамінаў, непрыдуманых гісторый змагання з чужынцамі жыхароў ваеннага Мінска — была выдадзена добра, з густам, і я міжвольна залюбаваўся ёю, разглядаў з усіх бакоў: і вокладку, і паперу, і загалоўкі, і супер...

Потым адгарнуў першую старонку.

Адгарнуў і прасядзеў над кнігай доўга, і адарваўся ад чытання недзе апоўначы. Адарваўся таму, што балелі стомленыя вочы і чытаць болей ужо не было як.

Беручыся за чытанне, я паклаў на стале побач з кнігаю чысты аркуш паперы — на заўвагі, якія ўзнікнуць, вядома ж, пры чытанні. Але аніводнага запісу я не зрабіў, бо быў захоплены кнігай цалкам, кнігай, у якой усё выпісвалася рукою мастака, які на свае ўласныя вочы бачыў і мінскія вуліцы тых дзён, і жывых яе змагароў, мужных падпольшчыкаў, жанчын, дзяцей, якія таксама не стаялі ўбаку ад барацьбы свайго народа.

Жывыя, рэальныя людзі паўставалі ў маім уяўленні. І ў кожнага быў свой лёс, які здаваўся амаль неверагодным у сваёй складанасці і часам трагічнасці.

Ноччу мне спалася блага, у памяці паўставала і тое, што прачытана было ў кнізе Уладзіміра Барысавіча, і тое, што давялося пабачыць на свае ўласныя вочы ў дні вайны.

Ранкам я дачытаў кнігу да канца. Дачытаў і вырашыў пайсці да Уладзіміра Барыса-

віча. Быў намер — раскажу яму аб сваіх уражаннях, апрануўся і пайшоў.

Але на вуліцы прыйшла развага. Трэба ж было пазваніць папярэдне, сказаць... Дый чаго ты пойдзеш? Чалавек сядзіць працуе, а ты палезеш са сваёй ухвалаю, перашкодзіш працаваць. Сам жа ведаеш, як гэта непрыемна, калі толькі разагнаўся ў працы, а званкі заліваюцца...

Цяпер я горка шкадую, што не пабег да яго, не сказаў тое, што было ў сэрцы, не сказаў аб сваёй радасці ад пісьменніцкай удачы. А што, як маё тое слова, тая мая ухвала, магчыма, вельмі б і прыдалася яму ў той дзень? А што, як у той менавіта дзень, калі я збіраўся і не пайшоў да яго, нейкі смутак паклаўся яму на душу, і сэрца прагла добрага слова, спагады, проста шчырай гаворкі?..

Цяпер, калі сябра няма, разумею гэта ўсё вельмі добра, усё тое добра бачу і адчуваю. А тады, узрушаны кнігай, якую скончыў чытаць, я ішоў паркам, па левы бок Свіслачы, і мінулае чорнае ліхалецце вайны стаяла перад вачыма, яно ўжо бачылася праз старонкі кнігі, нібыта тое, пра што я прачытаў, увесь час жыло, нібыта сам я гэта ўсё бачыў і перажыў. Я прыгадваў сваю Дзвіну, лясы наддзвінскія, думаў пра сваіх баявых сяброў, з якімі быў у партызанскім атрадзе, і неяк дзіўна думкі скіроўваліся на тое, што людзі, пра якіх пісаў Уладзімір Барысавіч у сваёй кнізе, былі ў нашым атрадзе, і з імі я сустракаўся і ведаў кожнага. І яшчэ падумалася, што, магчыма, мы з Уладзімірам Барысавічам і сустракаліся ў гады вайны, былі недзе побач, толькі не былі знаёмыя.

Вярнуўшыся дамоў з тае праходкі па парку, я пазваніў Уладзіміру Барысавічу, сказаў, што скончыў чытаць яго кнігу. Мой голас, мабыць, быў занадта бадзёры, і Уладзімір Барысавіч з радасным недаверам запытаўся:

— Ужо? Гэтак хутка?

Я сказаў, што чытаў учора ўвечары да позняга, а сёння скончыў.

— Гэда-ак,— працягнуў ён задаволена.— Ну, давай заўвагі!..

Заўваг у мяне не было. Ён выслухаў маю ўхвалу, падзякаваў, потым з вясёлай настойлівасцю запатрабаваў зноў:

— Давай заўвагі. Будзе ж кніга і на рускай мове — буду над ёй працаваць...

Я паўтарыў тое, што ўжо казаў, што заўваг у мяне няма, што кніга мяне ўсхвалявала, выказаў сваё здзіўленне тым, што крытыкі да гэтага часу нічога не сказалі пра новую кнігу, маўчаць, быццам не заўважаюць.

Ён уздыхнуў, потым засмяяўся:

— Хай сабе. Мне галоўнае, каб кніга чытача хвалявала. А крытыкі нідзе не дзенуцца...

Неўзабаве ў друку з'явілася першая рэцэнзія, потым былі і яшчэ, ухвальныя і вельмі станоўчыя. Не было толькі кнігі ў продажы — чытачы раскупілі яе літаральна за некалькі дзён.

Уладзімір Барысавіч сказаў, што збіраецца паехаць у Каралішчавічы, запрашаў прыехаць, каб там, на лясных сцежках, пагаманіць, папіць бярозавіку, якога ён абяцаўся нарыхтаваць.

Нейкі час пагадзя пасля гэтай нашай гаворкі я паехаў на Дзвіносу — пачыналі добра брацца па вясновай цямноце ментузы. Пад

Лагойскам, на новай дарозе, што верне ад гарадка ўправа і праходзіць па погарбах, я прыцішыў хуткасць — прыгадалася, як тут прарываліся з блакаднага кола партызанскія атрады. На сваім партызанскім вяку мне давялося тройчы перажыць блакаду, і штораз, калі я еду ля гэтых погарбаў, неяк пагана і трывожна трымціць нешта ў сэрцы і вока міжвольна абшарвае схілы, нізіны, парослыя лядшчэўнікам, і рэдкі сасоннік на погарбах. Вока быццам шукае тыя мясціны, дзе зачапіліся тады для бою партызаны, дзе можна было б ім прайсці, каб не зрэзаў кулямётны боб,— нібыта сам павінен быў тут прарывацца праз кола смерці.

Пра бой на гэтых выспах расказваў аднойчы Уладзімір Барысавіч у Саюзе — у старым будынку па вуліцы Энгельса. Тарас Хадкевіч тады працаваў у Саюзе кансультантам, і ля яго стала звычайна віравалі добрыя жарты, і неяк вольна і раскавана адчуваў сябе кожны, хто ўваходзіў у маленькі пакойчык, што меў і ўваходныя дзверы, і дзверы ў суседні пакойчык, і дзверы ў залу. Не ведаю, з якой нагоды тады зайшоў Уладзімір Барысавіч да Тараса Канстанцінавіча, з якім моцна і прыгожа сябраваў, але памятаю, як пачалася тая гаворка пра выспы пад Лагойскам — з рукапісу, што ляжаў на стале ў Хадкевіча.

Тарас Хадкевіч чытаў дасланы на кансультацыю ў Саюз пісьменнікаў рукапіс нейкага — па гадах ужо не маладога — аўтара, які прасіў навесці на яго твор «літаратурны бляск». Тарас Канстанцінавіч зачытаў абзац з таго рукапісу, і ў гэтым абзацы было слова «блакада», яно вельмі ўсхвалявала Уладзіміра Ба-

рысавіча, і ён пачаў расказваць, як са сваёй групай прарываўся з блакаднага кола пад Лагойскам.

Тады, у сорак трэцім, група Уладзіміра Барысавіча ўвечары заняла пазіцыю па правы бок левага погарба, бліжэйшага да асфальтаванай шашы з Мінска на Лагойск. Незаўважна наблізілася фашысцкая разведка, якая абыходзіла пярэдні край варожай абароны. Схавацца не было куды — ззаду круты схіл. Не ўратоўвала становішча нават тое, каб удалося знішчыць фашыстаў без стрэлу: разведка ішла з уключаным перадатчыкам, і ў любым выпадку квадрат, у якім знаходзяцца партызаны і дзе разведка падвергнецца нападу, будзе тут жа выяўлены.

Калі Уладзімір Барысавіч скончыў гаворку пра той ваенны эпізод — а іх жа было ў жыцці баявой групы шмат і самых розных! — нейкі час было ціха ў пакойчыку. За вокнамі на старой ліпе ярасна галёкалі вераб'і — не саступалі шпакам старую шпакоўню; сінела неба над вершалінамі дрэў, залацістыя сонечныя промні, што вырываліся з дзвярэй у залу, як навылёт прабівалі пакой, зіхацелі на шыбах. І Уладзімір Барысавіч, відаць, і сам быў моцна ўсхваляваны і нечакана сказаў весела:

— Хлопцы! А бярозавік у Каралішчавічах — ва ўсю. Сало-одкі ідзе! Збірайцеся!

Дні праз два пасля гэтага мы сустрэліся з Уладзімірам Барысавічам у Каралішчавічах. Я прыехаў туды на машыне разам з жонкаю, пад вечар ужо. На «пасеку» Уладзіміра Барысавіча мы не трапілі — бярозавікам частаваў Пётр Францавіч, у якога гэтая вытворчасць была разгорнута даволі шырока: ён

займаў, як і звычайна па вясне, пакойчык з тэрасай на першым паверсе, і ў яго на тэрасе было нібыта ў добрым кафэ — шклянкі, кілішкі на падносе, графін, накрыты белай сурвэткаю, а па баках, ля сцяны, стаялі бітоны, бутлі, эмаліраваныя вёдры, поўныя бярозавіку.

Уладзімір Барысавіч глядзеў на занятак Пятра Францавіча крыху скептычна і неадабральна: гэта ж, маўляў, прамысловасць цэлая. Машынамі бярозавік пруць у Мінск.

— Людзям жа аддае,— сказаў я.— Сябрам! Хай ведаюць ласку пісьменніцкага лесу.

— Дык вунь жа траву ля тэрасы коламі начыста парэзалі. Як падэшва лугавінка зрабілася.

— Я канюшыну пасеяў,— адгукнуўся Пётр Францавіч, які раздаваў бярозавік шчодра і ўсім.— А пасля пасеву глебу рэкамендуецца прыкатваць каткамі. Вось колы — замест каткоў. Тут агратэхніка!

Смяяліся добра і шчыра.

Потым хадзілі па дарозе і лясных сцежках; Уладзімір Барысавіч, стукаючы кійком па доле, варушыў шыгалле і старое лісце дубняку, як бы падраўноўваў яго. Потым спыніўся, сказаў, што дачытвае мой раман, і ў аўторак, калі ў мяне ёсць час і мажлівасць прыехаць, мы можам пагутарыць. Я падзякаваў, сказаў, што магу прыехаць і ўранку, і ўвечары.

— Уранку,— сказаў ён без развагі.— Мы падскочым яшчэ і па смаржкі.

Дамовіўшыся аб сустрэчы на аўторак, мы паехалі. На развітанне жонка Уладзіміра Барысавіча падаравала нам маленькі гаршчочак, у якім у лясной зямлі, зацярушанай імхом і дзеразою, цвілі пралескі. Не хацелася браць

гаршчочак з кветкамі: міжвольна падумалася, што ён стаяў у іх на падаконні і, безумоўна ж, цешыў пісьменніцкае вока.

— Бяры! — уладарна загадаў Уладзімір Барысавіч.— Яны будуць доўга цвісці ў хаце.

Мы прывезлі пралескі дадому, і яны доўга цвілі ў хаце на журнальным століку, а потым жонка высадзіла іх у скрыню на балконе, дзе ўжо ішлі ў рост маленькія, з купленай на Камароўцы расады астры: пралескі адцвілі, але выкідаць іх было шкада.

У аўторак уранні я прыехаў у Каралішчавічы. Дзень быў пагодны, сонечны, і асфальт ля будынка Дома творчасці быў спаласаваны шырокімі ценямі соснаў. Справа ад увахода пачынала ўбірацца ў ружова-белую квецень яблыня, што некалі пасадзіў Уладзімір Барысавіч.

Карпаў сядзеў на лавачцы пад ялінай, за шырокай клумбаю, на якой дружна драліся з зямлі касачы і флёксы. У руках ён трымаў маю кнігу, загорнутую ў газету.

— Зараз і рушым,— сказаў Уладзімір Барысавіч, калі мы парукаліся.— Толькі жонку дачакаемся. Што там, у Мінску?

Я пажартаваў: тое ж, маўляў, што і тут — сонца, пагодны дзень, але няма бярозавіку.

— Я толькі што прыцёг з дзялянкі, вельмі халодненькі, свежанькі...

Мы напіліся бярозавіку і рушылі.

— Куды вернем? — спытаў я ля масточка праз кювет.— Вызначайце маршрут.

— Пад Стайкі,— сказаў Уладзімір Барысавіч.— Там, казалі, смаржкі ёсць. Марыя Міхайлаўна пашукае грыбы, а мы сваёй гаворкаю зоймемся.

Я прапанаваў спачатку пашукаць грыбоў.

— Не! Гэта — потым. Спачатку — галоўнае. Дзеля ж гэтага ты прыехаў,— і ён пастукаў пальцам па вокладцы кнігі.

Мы праехалі па гравійцы кіламетры са два і на скрыжаванні павярнулі ўправа. Спыніліся, як толькі ўгледзелі слабую пуцявінку, што скатвалася з правай узбочыны ў лес.

Марыя Міхайлаўна пайшла на левы бок дарогі, дзе лес адступіў і горбіліся вывернутыя некалі ў непагадзь яліны. Дрэвы тыя былі даўно распілаваны, звезены адсюль, засталіся толькі карчы, вакол якіх пышна зеляніласся трава, купкамі сінелі пралескі.

Я выцягнуў з багажніка стары плашч і дзенідзе абсмаленую і зашмальцаваную ля рыбацкіх вогнішчаў старую коўдру, паслаў іх на шырокай купіне непадалёк ад машыны, і мы прымасціліся на мяккіх і зручных седалах. Праўда, Уладзімір Барысавіч тут жа ўзняўся і прысеў на пяньчук, збаяўшыся, што зямля яшчэ не прагрэлася, і сядзеў, паклаўшы побач кнігу.

Я трымаў напагатове ручку, нарыхтаваўся запісваць заўвагі, якіх, напэўна ж, павінна было шмат знайсціся. Я чакаў гэтыя заўвагі, і яны былі мне патрэбны. Справа ў тым, што ў выдавецтве «Советский писатель» рыхтаваўся да выдання мой раман, працаваў я над другой кнігай рамана і, натуральна, спадзяваўся пачуць крытычныя заўвагі і добрыя шчырыя парады старэйшага пісьменніка. І пачуць усё гэта не проста з вуснаў аўтара буйных празаічных твораў, удумлівых і сур'ёзных крытычных прац, а з вуснаў былога салдата, які добра ведае вайну, ведае жыццё партызан-

скае і які быў заўжды шчыры і прамы не толькі са сваімі непрыяцелямі, але і з сябрамі. Непрыяцеляў гэта часам даводзіла амаль да шаленства, а сябры вельмі паважалі гэтую якасць яго душы.

Але цяпер, тут, у лесе, пад пошум вясновых дрэў, пад ласкавым сонцам, Уладзімір Барысавіч не спяшаўся пачынаць гаворку. Ён нібыта запамятаў, дзеля чаго мы сядзім тут, у лесе, і глядзеў у глыб лесу, крыху прыплюшчыўшы вочы.

Лес быў малады, зусім не густы — бярозы, асінкі, малады дубняк і дзе-нідзе маладыя прысадзістыя ялінкі — і ўсё у ім зіхацела і пералівалася ад сонечнага святла, вёрткіх трапяткіх ценяў, было напоўнена святочным і хвалюючым святлом, нават ціхае шурхаценне ад ветру галін, як бы ахутаных зялёным бязважкім дымам, шамаценне леташняга лісця на пакатых купінах было ўрачыстым, нейкім святочным.

Вакол у лесе ўладарна гаспадарыла вясна. Недзе дужа далёка кукавала зязюля, і яе гартанны голас то знікаў, то зноў гучаў, і потым пачаў аддаляцца, не перапыняючыся, затым аціх, як адсунуты глухім пошумам галін — парыў цёплага ветру быў моцны і працяглы.

— Ну, пачнем нашу працу,— сказаў Уладзімір Барысавіч і разгарнуў кнігу.— Заўвагі, што ўзніклі пры чытанні — тут,— і ён выцягнуў аркуш паперы, які ляжаў у кнізе, спрэс спісаны алоўкам.— І на старонках я там-сям птушачкі ставіў...

— А як увогуле? — не стрымаўся я.— Горкую пілюлю трэба ж хоць крышку падсаладзіць...

— Няма патрэбы падсалоджваць: раман ёсць, і раман цікавы,— сказаў Уладзімір Барысавіч і падкрэсліў: — Раман цікавы. Але памятай маё слова: некаторыя крытычныя сухары пачнуць адразу ж дзяўбці яго,— і засмяяўся: — Ты не горш за мяне ведаеш, як гэта ў нас часам робіцца. А цяпер слухай...

Старонка за старонкаю Уладзімір Барысавіч перагартаў усю кнігу. Ён гаварыў пра свае ўражанні, рабіў заўвагі і шмат разоў папярэджваў, што, маўляў, не трэба прымаць усе заўвагі цалкам, бо яны, вядома ж, празмерна суб'ектыўныя, гэта яго асабісты погляд на твор, і аўтар ніколі не павінен адразу ж хапацца за пяро, каб перарабляць напісанае.

— Крытычная думка,— ён з асаблівым націскам гэта падкрэсліў,— павінна абвастраць мастацкі зрок пісьменніка, а не прыгінаць яго. Крытычная думка — гэта тонкая і далікатная тачыла, на якім вострыцца мастацкі густ аўтара. А ў нас якія аглабельшчыкі ёсць? Усё ім карціць гэтак аўтара пляснуць, каб ён ляжаў плазам на зямлі, каб і дух з аўтара вон. Вось гэта, маўляў, баявітая крытыка... Я з такімі поглядамі, з аглабельшчыкамі гэтымі, усё жыццё ваюю... Думаеш, мала яны жыццё гэткаму празаіку, як Тарас Хадкевіч, папсавалі?

Нейкі час Уладзімір Барысавіч маўчаў, потым пабедаваў, што я не паказаў яму твор у рукапісу. Я сказаў шчыра, што не хацелася назаляць, бо ведаў, што ён заняты працаю.

Маё пярэчанне яго не задаволіла.

— Як быццам саромеемся мы свае шчырасці,— сказаў ён з папрокам, які, як адчувалася, быў адрасаваны не толькі мне.— Ці баімся чагосьці. А дакладней: не давяраем...

Мы гаманілі доўга, і ў канцы нашай гаворкі блакнот мой быў як не ўвесь спісаны. Думкі як бы адштурхоўваліся ад таго, пра што гаварыў Уладзімір Барысавіч, узнікалі новыя ідэі і задумы. Гаварылі вельмі шмат пра тое, чаго няма ў кнізе, як могуць павярнуцца лёсы герояў далей, у будучым. Гаворка гэтая яго ўсхвалявала, і ён пачаў расказваць пра сваіх баявых сяброў, з якімі ваяваў разам, а потым прыхінуўся спіною да бярэзіны і сказаў, летуценна ўглядаючыся ў хісткія галіны.

— Добра, Алесь, ты зрабіў, што напісаў гэтую кнігу. І яшчэ пішы. Пішы абавязкова! Павер мне: тое, што мы ўсе напісалі пра лясы партызанскія, пра мужнасць нашых людзей у вайну,— гэта ж толькі часцінка з таго, што павінна быць напісана. Уяўляеш сабе? Тысячы лёсаў! Тысячы герояў! А кніг жа аб іх і сотні няма. А яны павінны быць! — і ён тут жа ўзняўся.— Хадзем! Марыя Міхайлаўна, мабыць, усе смаржкі там пазразала...

Выбіраўся з лесу на дарогу з прыгодаю — давялося карчаваць стары пень ля ўзбочыны. Уладзімір Барысавіч жартаваў:

— Гэтак жа, як у рамане, дружа: улезці лёгка, а вось выкіраваць на шырокую дарогу... Асцярожна бяры. Не рві машыны! Глыбей залязай у псіхалогію карча...

Выбраліся на асфальт, і па той бок шашы ўбачылі Марыю Міхайлаўну.

— Бачыш, чым разумныя людзі займаюцца,— засмяяўся Уладзімір Барысавіч.— Грыбочак да грыбочка — гэтак і патэльня. Ці ўсё ж ты пазбірала, гаспадынька?

— Амаль што,— і Марыя Міхайлаўна ўрачыста ўзняла ў руцэ мяшэчак.

Калі мы развітваліся, сказаў мне:

— Буду радавацца, калі кніга выйдзе ў Маскве. Павер мне, яна вартая гэтага.

На вялікі жаль, яму не давялося парадавацца і ўбачыць кнігу ў перакладзе на рускую мову: раман мой выйшаў толькі праз год пасля нашай гаворкі ў лесе, а літаральна праз чатыры месяцы Уладзіміра Барысавіча ўжо не было на зямлі — у канцы таго лета ён памёр.

Яго пахавалі на Маскоўскіх могілках. Дзень быў цёплы, сонечны. Часовыя кароткія навальніцы падплывалі да горада то з аднаго боку, то з другога, потым адплывалі, і зноў сінела неба. Над могілкамі, калі засыпалі зямлёю магілу, разы са тры глуха ўдарыла навальніца — неба быццам салютавала развітальным журботным салютам. Цяжкая, на паўнеба хмара насунулася ад шашы на Лагойск, але не перайшла яе, затрымалася, і на могілках не ўпала аніводнай кроплі дажджу, толькі глуха і журботна білі перуны і белыя маланкі крэслілі далягляд.

Наступнай вясной, калі я выйшаў на балкон свае кватэры, сэрца балюча сціснулася, і я стаяў прыгаломшаны — у кутку драўлянай скрыні цвіла блакітная пралесачка. Адна-адзіная! Усе каліўцы пабіў мароз, але гэтая кветачка выжыла, упарта пацягнулася да сонца сінім колерам, колерам неба і вясновай высі зіхацела яна ў куточку скрыні — адна-адзіная кветачка з таго багатагаляснога дарунку леташняй вясны, дарунку, які зрабіў мне мой сябра, чалавек чыстай, як вясновае неба, душы.

*Іван Шамякін*

# ВЕРНАСЦЬ ТЭМЕ І ГЕРОЯМ

Нельга не згадзіцца з вызначэннем, якое выказваў і Уладзімір Карпаў: біяграфія пісьменніка — яго кнігі. Правільна будзе і адваротнае: творчасць пісьменніка — жанр, які ён выбірае, тэмы, вобразы, ідэйная накіраванасць — абумоўлена яго жыццём. Як ён жыў, што спазнаў, які яго ўдзел у важнейшых гістарычных падзеях, з кім ён сустракаўся, з кім сябраваў, за што змагаўся. Думаю, творы Уладзіміра Карпава, яго раманы, крытычныя працы з асаблівай выразнасцю пацвярджаюць гэтую думку.

Бацька Уладзіміра Карпава — земскі ўрач, пакінуў жонку з трыма малымі дзецьмі ў волжскім гарадку Хвалынску, дзе сям'я і пражывала.

У галодным 1921 годзе, ратуючы дзяцей, сваіх і чужых, маці — выхавальніца дзіцячага дома — вязе іх у Беларусь, на Гомельшчыну. Дзевяцігадовы хлапчук Валодзя акунаецца ў новую стыхію, бытавую, моўную.

Вось што ён пазней напіша ў аўтабіяграфіі:

«Нельга сказаць, што жыццё ў прыдняп-

роўскай вёсцы Ёлча на Камарыншчыне было вельмі лёгкае. Дзевяцігадовым хлапчуком я каштаваў ужо хлеб падпаска... Але дабрату і спагаду ёлчанскіх кабет, сваю першую настаўніцу — самотную Марыю Ёсіпаўну Шастаковіч... я заўсёды буду ўспамінаць з замілаваннем, з удзячнасцю. Пасля я жыў і працаваў шмат у якіх вёсках Камарыншчыны, ды павага і любоў да людзей, якія прытулілі нашу сям'ю, ідуць усё-такі з Ёлчы. І тут я ў свае дзесяць год прысягнуў аддзячыць ім, чым толькі будзе ў маіх сілах...»

Няма сумнення, што гэтая ўдзячнасць выявілася ў нялёгкай працы на лесапільным заводзе, пазней — у настаўнічанні, у настойлівай вучобе, авалоданні гісторыяй і культурай народа, які яго прытуліў, і, можа, самае галоўнае — у партызанскай дзейнасці разведчыка глыбокага тылу, камандзіра спецгрупы, баявыя справы якой высока ацэнены падпольнымі райкомамі, партызанскімі штабамі, камандзірамі злучэнняў, брыгад. Нарэшце, удзячнасць рускага чалавека і ў тым, што пачаў пісаць па-беларуску. Здаралася, што Уладзіміра Карпава папракалі за моўныя агрэхі, не ўлічваючы біяграфіі пісьменніка, той акалічнасці, што і ў Беларусі ў дзіцячыя гады ён вучыўся, працаваў на мяжы з Украінай, Расіяй.

Дарэчы, «агрэхаў» у яго, вопытнага, патрабавальнага рэдактара, было нямнога, хутчэй назіралася некаторая акадэмічнасць, «залішняя правільнасць», што прыводзіла да ўскладненасці стылю.

Але з гадамі ён паспяхова пазбаўляўся ад гэтага: вялікі працаўнік, Уладзімір Карпаў

грунтоўна рэдагаваў кожнае новае выданне сваіх раманаў.

Каб чытач адчуў, як жыццё пісьменніка ўваходзіла ў яго творы, хачу яшчэ раз прывесці кароткія вытрымкі з той жа аўтабіяграфіі:

«Пачаў я пісаць даўно, хоць і ўрыўкамі. Пісаў вершы, прозу, займаўся даследаваннямі... Але адчуць сябе літаратарам... мяне прымусіла вайна. Яна загадала ўзяцца за пяро, прымусіла яшчэ раз асэнсаваць сваё месца ў жыцці...»

Уладзімір Карпаў увайшоў у Мінск у ліпені 1944-га на чале аўтаматчыкаў следам за армейскай разведкай.

Вось яго словы пра Мінск, якія таксама даюць ключ да разумення тэматычнай накіраванасці яго раманаў:

«У Мінску я перажыў самыя памятныя і небяспечныя хвіліны свайго жыцця, за Мінск пралілася мая кроў, і ў грымотах разрываў я раптам адчуў, што горад уваходзіць у сэрца як нешта бясконца роднае, адваяванае, табе неабходнае, без чаго цяжка будзе жыць...»

З такім адчуваннем пачаў партызан мірнае жыццё, працуючы спачатку настаўнікам, пасля журналістам у газетах «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», доўгі час узначальваючы аддзелы крытыкі і прозы часопіса «Полымя». Тут жа ён пачынае спрабаваць свае сілы ў літаратуры. З 1945 года пачаў выступаць з рэцэнзіямі і артыкуламі.

Першай мастацкай кнігай Уладзіміра Карпава стала ваенная аповесць «Без нейтральнай паласы», якая выйшла ў 1950 годзе. Але літаратар, мабыць, адчуў, што для эпічнай сур'ёзнай мастацкай рэчы ў яго бракуе вопы-

ту, таму пасля гэтай аповесці ён колькі гадоў быў вядомы галоўным чынам як крытык. Магчыма, гэта было запатрабаваннем часу. Крытыка ж усё глыбей і глыбей асэнсоўвала літаратурныя з'явы і працэсы, што адбываліся ў грамадстве. Уладзімір Карпаў заўсёды ўмеў адчуваць час, яго канфлікты, прызнаем, што ён адзін з тых, хто клапаціўся пра інтэнсіўны рост нашай літаратуры. Яго шматлікія артыкулы, напісаныя ў розныя гады, прысвечаны станаўленню, развіццю беларускай прозы і драматургіі. Ён даследуе творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Янкі Брыля, Макара Паслядовіча, Рамана Сабаленкі. На даволі багатым фактычным матэрыяле прасочвае шляхі, па якіх ішло развіццё беларускай літаратуры.

«Загад вайны» стаў для Карпава загадам жыцця, якім жылі краіна, народ у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Гэта рэдкі выпадак, калі, задумаўшы цыкл раманаў аб лёсе народа, што перажыў страшнейшую навалу, пісьменнік пачаў не з вайны, не з трагедыі, а з адлюстравання мірнай працы ўчарашніх партызан, воінаў, з паказу адбудовы горада, з якім зрадніўся навекі.

Раман «За годам год», з якога пачаўся цыкл «На перавале стагоддзя», пісаўся ў своеасаблівы час — у сярэдзіне пяцідзесятых гадоў (выйшаў з друку ў 1957 годзе) — у час асабліва інтэнсіўнага будаўніцтва індустрыі, росту рабочага класа. Крытыка ў цэлым станоўча ацаніла раман, бачыла ў аўтару першапраходцу тэмы горада, рабочага класа, інтэлігенцыі, праблем, якія актуальныя і сёння,—

як будаваць горад, якім павінен быць Мінск, з якім пісьменнік звязаў назаўсёды свой лёс. У рамане рэтраспектыўна паказаны Мінск, разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі. А ў аснове сюжэта — як паўставаў Мінск з попелу і руін, як ператвараўся ў прыгожы горад. І ўсё гэта за якія-небудзь дзесяць гадоў. Аўтар з любоўю расказваў пра людзей, што адбудоўвалі сталіцу, паказваў, як яны сталелі разам з горадам. Вобраз Мінска — цэнтральны, і, я сказаў бы, гэта нялёгкая задача — праз людзей стварыць вобраз вялікага горада. Карціны мёртвага горада першых дзён пасля вызвалення, паказ, як адраджаюць мірнае жыццё, праца партыйных работнікаў, архітэктараў, рабочых па аднаўленні, будаўніцтве горада напісаны праўдзіва, пераканальна, з веданнем спецыфікі і часу.

У нас да той пары было нямнога твораў, са старонак якіх такімі пакутнікамі і змагарамі, такімі прыгожымі і светлымі паўставалі б нашы гарады, прамысловыя і культурныя цэнтры. Не было ў беларускай літаратуры такой традыцыі. Уладзімір Карпаў заснаваў і сам жа замацаваў яе.

Лёс горада неад'емны ад лёсу людзей, якія змагаліся, вызвалялі, потым адбудоўвалі яго. Празаік жыў вялікай любоўю да горада і гараджан, успамінам аб нядаўнім мінулым і шчыра клапаціўся пра будучыню, у якую якраз і скіраваны твор. Канфлікты выразна грамадскія, сацыяльныя.

Начальнік архітэктурнага ўпраўлення Понтус і галоўны архітэктар горада Юркевіч па-рознаму глядзяць на ўзнаўленне Мінска. Понтус і яго прыхільнікі, прыкрываючыся дэ-

магагічнымі развагамі, спасылаючыся на пасляваенныя цяжкасці, на затраты, прапаноўваюць аднаўляць горад у яго старых межах шляхам рэстаўрацыі тых каробак дамоў, што ўцалелі. Пазіцыя Понтуса — гэта пазіцыя перастрахоўшчыка, у якога пад пышнымі фразамі пра народныя інтарэсы хаваюцца інтарэсы асабістыя, эгаістычныя. Праект новага горада створаны Юркевічам з улікам бурнага індустрыяльнага і культурнага росту мірнай сталіцы з перспектывай на будучыню, на рост транспарту, на забудову цэнтра як адзінай сістэмы плошчаў, звязаных праспектам. Такі праект патрабаваў вялікіх грашовых укладанняў і, натуральна, большага часу для ажыццяўлення яго. Гэта дае падставы Понтусу абвінаваціць Юркевіча ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Але перамагае прагрэсіўнае, рэвалюцыйнае. Партыйныя арганізацыі, большасць членаў дзяржаўнай камісіі вырашаюць будаваць горад па-новаму, іменна па плану Юркевіча. У канфлікт уцягнуты многія іншыя героі рамана: Зімчук, Аляксей Урбановіч, Зося, Валя Верас, Алешка і іншыя. Іх жыццёвыя шляхі, узаемаадносіны і лёс разам з вобразам горада ствараюць яркую і праўдзівую карціну пасляваеннай рэчаіснасці.

Раман увабраў у сябе роздум пра пройдзены народам шлях, пра гады найбольшага напружання і вялікага працоўнага энтузіязму. У адрозненне ад многіх сучасных «вытворчых» раманаў, героі якіх у асноўным займаюцца размовамі і спрэчкамі, людзі, што аднаўляюць Мінск, у рамане «За годам год» паказаны на рабочых пляцоўках, на будоўлях, у адносінах паміж сабой і ў адносінах да таго, вялікага,

незабыўнага, што пражыта імі, што ствараецца імі ў імя міру і шчасця.

Ідэйна-мастацкі аспект твора больш глыбокі, чым гэта здаецца на першы погляд. Гісторыя аднаўлення горада — як фон, на якім за годам год шырыцца і паглыбляецца ў народнай свядомасці ў працэсе калектыўнай працы камуністычны грамадскі ідэал. Яго ўвасабленне звязана з яркімі і псіхалагічна глыбока распрацаванымі чалавечымі характарамі, напрыклад, з такімі, як Аляксей Урбановіч.

Урбановіч, былы партызан, потым салдат, сумленны і моцны духам чалавек, прыходзіць у разбураны горад з прагай сямейнага кутка, дамашняй утульнасці. З зацятай упартасцю, нават ахвяруючы здароўем, ён будуе ў разбураным горадзе ўласны дом. Вобраз гэты складаны. Вузкія, прыватнаўласніцкія імкненні і пачуццё грамадзянскага абавязку змагаюцца ў душы Урбановіча. Паступова размах будаўніцтва, вялікая грамадская работа ахопліваюць брыгаду. Пад уплывам жонкі-настаўніцы Зосі і працоўнага калектыву Аляксей пазбаўляецца эгаістычнага, абывацельскага ў сваёй свядомасці. Працэс гэты вельмі нялёгкі, прага былых воінаў хутчэй «збудаваць сваё шчасце» нярэдка ў тыя гады ўступала ў супярэчнасць з планамі партыі, народа. Нешта такое часам здараецца і ў нашы дні. Але калі салдата, які нагаладаўся і намёрзся, можна зразумець, то сучаснага спажыўца зразумець немагчыма, гэта чалавек, які не бачыць далей свайго носа.

Безумоўнай удачай аўтара з'яўляюцца вобразы Кастуся Алешкі, Зосі. Абаяльнай чалавечай асобай, сумленным, прынцыповым ка-

муністам паўстае Зімчук, у вайну — камісар партызанскай брыгады, у мірны час — намеснік старшыні гарсавета. У кнізе мноства персанажаў, даволі складаныя лініі сямейных асабістых адносін, мноства адступленняў вытворчага характару, напрыклад, у гісторыі горадабудаўніцтва, прафесійных спрэчках. Багацейшы фактычны матэрыял, шматлікія персанажы ў іх грамадскіх і асабістых сутыкненнях, у барацьбе адлюстроўваюць не толькі праўду таго часу, але звернуты ў наш сённяшні дзень. Чытач 80-х гадоў адкрывае для сябе нямала цікавага, павучальнага.

Праблема, як будаваць горад, безумоўна, была першачарговай. Мінск нельга было збудаваць без развіцця такіх гігантаў індустрыі, як аўтамабільны і трактарны заводы, рашэнне аб будаўніцтве якіх было прынята Савецкім урадам у першы мірны год.

Гэтак жа, як на будоўлю горада, на будоўлю заводаў, што вызначалі рост сталіцы, прыйшлі тыя ж партызаны, салдаты, афіцэры — героі ўсіх твораў беларускай літаратуры тых гадоў. Гэтыя ж людзі сталі героямі новага рамана Уладзіміра Карпава «Вясеннія ліўні».

Раман пісаўся ў канцы 50-х гадоў, пасля XX з'езда КПСС. І адлюстраваны ў ім падзеі гэтых жа гадоў. Працоўныя будні вялікага прадпрыемства, у якім пазнаецца Мінск, аўтазавод, напоўнены дыханнем часу.

Раман нельга назваць «вытворчым». Як і «За годам год», ён шматпланавы, з мноствам сюжэтных ліній, узнятых праблем, сярод якіх на першым месцы праблемы сацыяльна-палітычныя і маральна-этычныя. Зноў-такі нельга

забываць, што ў той час у беларускай літаратуры было нямнога яшчэ твораў аб рабочым класе, тэхнічнай інтэлігенцыі. Па дасягнутым узроўні майстэрства наша літаратура магла ўзяцца за гэты жыццёвы пласт, аднак не хапала эмацыянальна-псіхалагічнай настроенасці, не было яшчэ трывалых традыцый. Многім пісьменнікам матэрыял здаваўся нявыйгрышным, неэфектыўным у параўнанні з сюжэтамі, якія давала нядаўняя вайна. Таму можна зразумець цяжкасць задачы, што стала перад Уладзімірам Карпавым. Сам ён пісаў пра гісторыю стварэння рамана: «Я вывучаў вытворчасць, сачыў за «Аўтазаводцам», гутарыў з рабочымі, інжынерамі, камсамольскімі і партыйнымі работнікамі, прысутнічаў на сходах... Асабліва ўважліва сачыў за тым, як, вызваляючыся ад перажыткаў далёкага і недалёкага мінулага, мяняецца сама псіхалогія людзей, іх светаадчуванне, адносіны да сябе і другіх, як часам цяжка даецца гэта людзям...»

У цэнтры рамана рабочы калектыў ліцейнага цэха завода, канфлікт рабочых з начальнікам цэха Кашыным, што ўвасабляе сабой той стыль кіраўніцтва, які мы лічым адміністраваннем. У той час гэта быў даволі распаўсюджаны тып канфліктаў у літаратуры, але Карпаў узяўся за яго адным з першых і распрацаваў цікава, арыгінальна. Мікіта Мікітавіч Кашын — характар супярэчлівы, яркі, з багатай ваеннай біяграфіяй. У рамане сітуацыя ўскладняецца тым, што парторг завода Дзімін, прынцыповы камуніст, разумны чалавек, у час Вялікай Айчыннай вайны разам з Кашыным быў у Мінскім падполлі.

Гады сумеснай барацьбы, старая дружба, безумоўна, не могуць забыцца, але ў мірны час погляды на жыццё ў гэтых людзей сталі рознымі.

У свой час, помню, крытыка папракала раман за перагружанасць тэхніцызмамі і прафесійнымі спрэчкамі. Але менавіта тады пачыналася навукова-тэхнічная рэвалюцыя, і пісьменнік узяў не проста працоўныя будні, а даволі адказны перыяд у жыцці завода, калі ішло ўдасканаленне тэхналогіі вытворчасці, адбываўся пераход на 7-гадзінны рабочы дзень і гэтак далей. Сёння нас не палохае ў літаратуры ні эканоміка, ні тэхналогія, ні вытворчыя адносіны, калі праз іх паказваецца чалавек-працаўнік у яго справах і думках, у яго апантанасці творчасцю, у грамадскай актыўнасці, з яго прагай ідэалу і шчасця. Уладзіміра Карпава заўсёды цікавіў іменна працоўны чалавек. У гэтым плане цікавым з'яўляецца вобраз перадавога рабочага, выдатнага працаўніка, а ў мінулым чалавека геройчных спраў — Міхала Шарупіча.

Значнае месца ў рамане належыць тэме станаўлення грамадзянскасці ў моладзі. Асабліва ўдаліся аўтару характары маладых людзей, якія ідуць у жыцці няпростымі дарогамі,— Севы Кашына, Юркі Сасноўскага, Лёдзі Шарупіч, Раі Дзімінай. Старонкі, прысвечаныя ім, насычаны аўтарскім роздумам над складанымі праблемамі выхавання.

Раман поўны драматызму. Людзі пакутліва шукаюць шляхі ў жыцці і ў той жа час прасякнуты ідэяй аднаўлення. «Горад як бы ўбіраў у сябе веснавую раскошу. Яго грэла зіхотнае сонца, над ім праплывалі кучавыя

воблакі і шумелі красавіцкія ветры. На яго плошчы, вуліцы, масты, віядукі падалі дажджы. І, заліты сонцам, авеяны вільготнымі вятрамі, абмыты дажджом, ён нібыта расцвітаў...»

Аб значэнні рамана для беларускай літаратуры можна сказаць словамі Віктара Каваленкі: «Пільнай увагай да жывога факта, беражлівым увядзеннем яго ў твор пераадольваліся ў 50-я гады схематызм і зададзенасць аўтарскага мыслення, якія сустракаліся ў літаратуры 40-х і пачатку 50-х гадоў. Існаваў чытацкі голад на праўдзівыя, непрыдуманыя факты жыцця, і яны, гэтыя факты, у нейкай ступені задавальнялі ў той час і мысліцельныя, мастацка-філасофскія запатрабаванні, бо ў самім выбары значных тыповых падзей адчуваецца кірунак думкі пісьменніка...» Сапраўды, жывая рэчаіснасць, гарачыя актуальныя падзеі і праблемы сучаснасці напаўняюць раман Уладзіміра Карпава, які ён прысвяціў Мінску.

Даследаваўшы герояў, што, як і аўтар, звязалі сваё жыццё з лёсам Мінска, зрадніліся з ім і ў час вайны, і ў гады пасляваеннага адраджэння, станаўлення рабочага класа, загартоўкі характараў, даследаваўшы, як уступаюць у жыццё іх дзеці, якім наканавана несці далей гераічную эстафету бацькоў, Уладзімір Карпаў вяртаецца да першаасновы — да пачатку біяграфіі старэйшага пакалення сваіх герояў. А біяграфія гэтая пачыналася ў Мінскім падполлі, у партызанскіх лясах.

Доўга і грунтоўна рыхтаваўся пісьменнік да таго, каб напісаць твор аб тым, што перажыў асабіста. Нялёгкім было вывучэнне гі-

сторыі Мінскага падполля, падзей, звязаных са слаўнай старонкай усенароднай барацьбы.

На першы погляд раман «Нямігі крывавыя берагі», выдадзены ў 1962 годзе, як бы вырас з першай аповесці пісьменніка — «Без нейтральнай паласы»: тыя ж героі, тыя ж асноўныя калізіі. Аднак, у параўнанні з аповесцю, значна пашырыліся рамкі твора, абсягі дзеяння, глыбей распрацаваны сюжэтныя лініі.

Працуючы над аповесцю адразу пасля вайны, аўтар ведаў толькі партызанскія справы герояў, з якімі прайшоў побач, у яго не было яшчэ часу ў поўнай меры асэнсаваць веліч подзвігу. А цяпер ён дасканала ведаў не толькі партызанскія біяграфіі Зімчука, Краўца, Валі Верас, Аляксея Урбановіча, Кастуся Алешкі, але прасачыў развіццё іх характараў у новых умовах — мірных.

Раман набыў характар эпапеі, пра што сведчыць і паэтычны эпіграф з «Слова аб палку Ігаравым», і шырыня ахопу падзей: Мінск, Мінскае падполле, гета, беларускія лясы, вёска, партызаны.

У пачатку 60-х гадоў аднаўлялася гістарычная праўда пра Мінскае падполле, з'явілася некалькі цікавых дакументальных і мастацкіх твораў пра розныя этапы ў барацьбе мінскіх падпольшчыкаў. У час абвостранай цікавасці да падполля і выйшаў раман Уладзіміра Карпава. Асаблівая каштоўнасць твора ў тым, што раманіст сам назіраў Мінск у выключна цяжкі перыяд акупацыі, сам удзельнічаў у многіх аперацыях, якія потым знайшлі адлюстраванне ў рамане.

Цікава далейшае развіццё ваеннай тэмы ў творчасці пісьменніка. Пасля рамана «Нямігі

крывавыя берагі», які стаў першай кнігай трылогіі аб Мінску і мінчанах, Уладзімір Карпаў ужо ў гады сваёй пісьменніцкай сталасці пачынае ствараць кнігу апавяданняў, у аснове сюжэта якіх цалкам, як ён прызнаваўся і што пацвярджаецца многімі дакументамі, пакладзены факты яго ўласнай дзейнасці і дзейнасці яго таварышаў па спецгрупе Мінскага абкома КПБ.

Прыгадваю, што асабіста мяне, чалавека, які нямала пісаў пра партызан, ашаламлялі некаторыя факты, расказаныя Уладзімірам Карпавым. Яны здаваліся неверагоднымі да фантастычнасці. Але не! Гэта суровыя дакументы не простага сведкі — актыўнага ўдзельніка падзей!

«Прызнанне ў нянавісці і любві», на жаль, стала апошняй кнігай пісьменніка, кнігай своеасаблівай, у ёй як бы сплаўлена дакументальнасць з мастацкім вымыслам, але вымысел не ў фактах, ён — у форме апавядання. А форма гэтая новая для Уладзіміра Карпава — не ўспаміны, не мемуары, а цэльны мастацкі твор.

У тужліва-балючых або ўзвышана-гераічных інтанацыях у залежнасці ад таго, пра што расказваецца, пісьменнік зноў, як і ў рамане, піша карціну Мінска ў акупацыі, разбурэнні, жорсткасць гітлераўцаў, дае шырокую панараму мужнай барацьбы мінскіх падпольшчыкаў, партызан.

Вернасць фактам, вернасць перажытаму і ўбачанаму не магла не прывесці да расказа аб такіх супярэчлівых з'явах у дзейнасці Мінскага падполля, у арганізацыі партызанскіх атрадаў, якія ў рамане Уладзіміра Карпава і

ў творах іншых аўтараў абыходзіліся. Нават назвамі апавяданняў «Восень сорак другога», «Зіма сорак трэцяга», «Апошні год» — Уладзімір Карпаў падкрэслівае дакументальнасць сваёй кнігі. Людзі, больш знаёмыя з гісторыяй Мінскага падполля, пазнаюць прататыпаў, хоць, як правіла, яны выведзены пад іншымі імёнамі. Так, у апавяданні «Сёстры» гераіню завуць Галя, але ў падзеі — знішчэнне ёю гаўляйтэра Мінска — лёгка пазнаецца Алена Мазанік. Неаднаразова сустракаецца імя доктара Клумава, аднаго з герояў Мінскага падполля, з якім асабіста быў знаёмы пісьменнік. Адно з апавяданняў «Жан» — пра героя падполля Івана Кабушкіна, які ўзначальваў групу па знішчэнні нямецкіх разведчыкаў,— вядзецца ад імя партызанскай сувязной, немкі Эмы, якая двойчы па нявопытнасці, наіўнасці выдала Жана. Некаторыя апавяданні кнігі пабудаваны ў форме маналогаў. Гэта часам ускладняе іх успрыняцце. Наўрад ці заўсёды апраўдана «зашыфроўка» імёнаў герояў, што загінулі. Строга дакументальны расказ аб падзеях, у якіх удзельнічаў аўтар, эмацыянальна ўражвае мацней.

Амаль усе героі твораў Уладзіміра Карпава прайшлі праз вайну, яна з'явілася тым водападзелам, тымі двума схіламі, «па якіх ручаі і рэчкі бягуць у розных кірунках». Мінулае жыве ў чалавеку або як гонар і слава, або як праклящце. Ад мінулага залежыць, хоча таго чалавек ці не, яго сённяшняе жыццё. У раманах Уладзіміра Карпава ваенныя падзеі, ваеннае мінулае герояў часта вызначаюць характар іх узаемаадносін у мірным жыцці. У апошнім рамане цыкла — «Сотая мала-

досць» (1971) — прыём перапляцення мінулага і сучаснасці з'яўляецца асноўным сюжэтна-кампазіцыйным стрыжнем твора. Дзейнічаюць персанажы, знаёмыя па рамане «За годам год», але аўтар засяроджвае ўвагу на адным героі. Праз жыццёвы лёс Васіля Пятровіча Юркевіча раманіст спрабуе паказаць усё тое, што адбылося ў жыцці за пасляваенныя дзесяцігоддзі. А было шмат чаго і пазітыўнага, высокага і цяжкага, такога, што ламала характары нават такіх, як Юркевіч.

Уладзімір Карпаў спрабуе адказаць на пытанне, чаму, чалавек таленавіты і сумленны, Васіль Юркевіч навучыўся абыходзіць «рыфы». Нікому нічога дрэннага не зрабіў, ды ці мае ён права лічыць сябе бязгрэшным? Ці могуць чытачы лічыць яго па-ранейшаму бездакорна сумленным, якім ён выступаў у рамане «За годам год»?

Юркевіч — прадстаўнік гераічнага пакалення. А ці быў ён героем у сваім мірным жыцці? Ён пакутуе ад таго, што зрабіў не ўсё, што мог зрабіць, часам быў залішне асцярожным, баяўся адказнасці за свае дзеянні, ірваў старыя сувязі і дружбу, здраджваў жонцы...

Асуджэнне героя, так любоўна выпісанага ў першым рамане,— гэта пошукі новай тэмы, новых канфліктаў у жыцці, якое імкліва мянялася.

На апошніх старонках рамана Юркевіч, перажыўшы інфаркт, многае пераадольвае. Ён разумее, што служыў больш справе, а не людзям, канфліктаваў з часам, хацеў прымірыць непрымірымае, усяго толькі цярпеннем перамагчы зло, і мала турбаваўся, якімі рабіліся людзі, што працавалі побач.

Раманы Уладзіміра Карпава маюць права на ганаровую і адказную назву эпапеі. Спачатку была створана трылогія, а са з'яўленнем «Сотай маладосці» стала тэтралогія. Думаю, што ў крытыкаў ёсць падставы гаварыць пра пенталогію, бо «Прызнанне ў нянавісці і любві» арганічна ўваходзіць у гэты цыкл.

Нельга не сказаць аб грамадзянскай актыўнасці Уладзіміра Барысавіча. Ён адзін з першых пачаў даказваць, што Мінск заслугоўвае звання горада-героя, пісаў пісьмы ў высокія інстанцыі. Нямала ім зроблена ў пошуках імёнаў загінуўшых падпольшчыкаў. Яго пяру належыць дакументальная кніга пра Мінск «Мы раскажам пра Мінск» (у сааўтарстве з Тарасам Хадкевічам, Сяргеем Грахоўскім, Раманам Сабаленкам). Ён з'яўляецца ўкладальнікам першага фотаальбома «Мінск» (1965), укладальнікам і сааўтарам зборнікаў «Горад і гады» (1965), «Сквозь огонь и смерть» (1970), аўтарам зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў «Па шляху сталасці» (1952) і «Крылаты ўзлёт» (1966).

У апошнія дні свайго жыцця Уладзімір Карпаў пісаў новую кнігу пра Мінск — для «Политиздата», каб пазнаёміць з геранчнай сталіцай беларускага народа чытачоў усёй нашай Радзімы і свету; адначасова ён працаваў над аповесцю «Адкрытая зорка», у аснову якой была пакладзена біяграфія сучасніка аўтара, яго нялёгкі шлях у даваенныя гады, вайну і гады аднаўлення Мінска.

Уладзімір Карпаў сумленна выканаў сваю клятву на вернасць народу, які прытуліў яго ў маленстве, на вернасць Мінску, у змаганні за які ён узмужнеў і дзе адчуў сябе пісьменнікам.

# ЗАЎВАГІ

*Аладзьева Марыя Антонаўна* (1913—1986) — настаўніца.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Асіпенка Алесь* (Аляксандр Харытонавіч; н. 1919) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Напісана для кнігі.

*Аўрамчык Мікола* (Мікалай Якаўлевіч; н. 1920) — беларускі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

Напісана для кнігі.

*Бур'ян Барыс Іванавіч* (н. 1924) — беларускі пісьменнік.

Напісана для кнігі.

*Грахоўскі Сяргей Іванавіч* (н. 1913) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР.

Друкуецца па кн.: Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986.

*Дзёмін Іван Міхайлавіч* (н. 1915) — у час вайны камандзір партызанскага атрада «Смерць фашызму». Пасля вайны генеральны дырэктар Белаўтамаза. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Карпава Марыя Міхайлаўна* (н. 1914) — жонка У. Б. Карпава. Настаўніца.

Напісана для кнігі.

*Карпаў Уладзімір Васільевіч* (н. 1922) — рускі пісьменнік. Герой Савецкага Саюза.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Клімчык Паша Сцяпанаўна* (н. 1919) — настаўніца.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Кухараў Сцяпан Іванавіч* (н. 1919) — беларускі пісьменнік.

Пад назвай «Слухай і запамінай!» апублікавана ў кн.: Кухараў С. Сцішанае поле. Мн., 1986.

*Луцкая Паліна Станіславаўна* (н. 1923) — удзельніца Мінскага падполля.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Матусевіч Алесь* (Аляксандр Лявонцьевіч; 1902—1985) — удзельнік Мінскага падполля. Журналіст. Доўгі час працаваў адказным сакратаром Саюза журналістаў БССР.

Напісана для кнігі.

*Новікаў Іван Рыгоравіч* (н. 1918) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага і Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

Напісана для кнігі.

*Паўтарэнка Кацярына Дзянісаўна* (н. 1918) — настаўніца.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Пекуроўскія Марыя Захараўна і Браніслава Захараўна* (н. 1921 і 1923) — настаўніцы.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Рудаў Веніямін Сямёнавіч* (н. 1914) — рускі пісьменнік.

Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Савіцкі Алесь* (Аляксандр Ануфрыевіч; н. 1924) —

беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.
Напісана для кнігі.

*Цемахаў Рыгор Якаўлевіч* (н. 1919) — у час вайны начальнік шпіталя партызанскай брыгады імя Кароткіна. Заслужаны ўрач БССР.
Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Цімчук Іван Мацвеевіч* (1901—1982) — у час вайны сакратар Лагойскага падпольнага райкома партыі. Герой Савецкага Саюза. У апошнія гады старшыня Камітэта па ахове прыроды.
Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Шамякін Іван Пятровіч* (н. 1921) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Член-карэспандэнт АН БССР. Народны пісьменнік БССР. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР. Герой Сацыялістычнай Працы.
Друкуецца па кн.: Шамякін І. Карэнні і галіны. Мн., 1986.

*Юдзянок Ганна Харытонаўна* (н. 1922) — настаўніца.
Напісана для кнігі. Пераклад з рускай мовы Л. Карпавай.

*Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч* (н. 1916) — беларускі пісьменнік, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР.
Напісана для кнігі.

## ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*

**ВОСПОМИНАНИЯ О ВЛАДИМИРЕ КАРПОВЕ**

Составитель

*Карпова Людмила Владимировна*

Минск,
издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**УСПАМІНЫ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРПАВА**

Складальнік

*Карпава Людміла Уладзіміраўна*

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка*
Мастак *А. Г. Званарова*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *К. А. Крукоўская*

ІБ № 3632

Здадзена ў набор 25.05.90. Падп. да друку 18.09.91. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,61+0,29 укл. Ум. фарб.-адб. 7,90. Ул.-выд. арк. 7,62. Тыраж 1800 экз. Зак. 434. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.